УДК 821.161.3-3
ББК 84(Беи)
А82

**Аркуш А.**
А82 Сядзіба : раман / Алесь Аркуш. — Полацак : Выдавецкая ініцыятыва «Полацкае ляда», 2017. — 140 с.

«Сядзіба» — чацьверты раман Алеся Аркуша. Нічога не зьнікае ў невараць, кажа аўтар у сваім новым творы, усё недзе існуе ў паралельным сьвеце. На полацкай сядзібе адбываюцца дзіўныя здарэньні. Мэтафізычнае жыцьцё ценяў і прывідаў пранікае ў рэальны сьвет.

## ЧАСТКА ПЕРШАЯ

Гэта здарылася ў той самы дзень, калі я на свае ўласныя вочы назіраў, як сава перасьледавала крумкача. Пабачыў сапраўдны паветраны бой. Штосьці містычнае. Сьвіст і лопат моцных крылаў. Нейкія дзіўныя баявыя клічы птушак. Магутны наступ савы. І сьпешныя, палахлівыя ўцёкі крумкача.

Бой, відавочна, пачаўся яшчэ за Дзьвіной, на Востраве, які на другім беразе ракі зеленеў зацішным, занядбалым паркам. Людзі там бываюць рэдка (далёка ад цэнтра гораду, туды ня ходзіць ніякі гарадзкі транспарт), а для птушак — райская мясьціна. Востраў ужо даўно ня востраў: рачны рукаў, які абмываў яго, яшчэ ў мінулым стагодзьдзі зацягнула пяском, але гэты куточак Полацку захаваў стары назоў.

Саве і крумкачу, якія як віхор уварваліся ў мой сад, больш не было адкуль прыляцець, як толькі з Вострава (ну ня з боку ж гораду). Магчыма, гэта й ня быў крумкач. Можа варона. Можа грак. Нейкі вялікі чорны птах. Але для сябе я назваў яго крумкачом. Паэтычна і міталягічна. А вось саву немагчыма ні з кім зблытаць. Гэта сапраўды была сава.

Мая сядзіба стаіць на самым беразе Дзьвіны, насупраць Вострава. У той дзень яблыні ў садзе бухмаціліся буйным кветам. Было цёпла, сонечна і ціха. Сонца толькі па-

чало каціцца ў бок Экімані. Ціхамірна працавалі пчолы. Па-батлеечнаму, нібыта ў казачным спэктаклі, пырхалі мятлікі. Шпакі нахабна, па-гаспадарску, шпацыравалі па градах. Карацей — суцэльная веснавая ідылія. А тут раптам, сярод белага дня, сава, якая ганіць крумкача. Дзьве вялізныя птушкі б'юць крыламі па галінах яблынь, утвараючы добры галас і атрасаючы долу белы квет. Сава атакуе клясычна, кіпцюрамі наперад. Гэтаксама, як ловіць мышэй. Крумкач адбіваецца крыламі і лямантуе, амаль як «людцы, забіваюць!». Чаму крумкач адразу не ўзьляцеў у нябёсы і не задаў лататы, мне не зразумела. І ўвогуле, у чым сутнасьць канфлікту? Бо трэба мець сур'ёзную прычыну, каб перасьледаваць суперніка на такую адлегласьць. Магчыма, чорны злодзей разбурыў гняздо савы. Тады сапраўды няма даравання.

Крумкач спрабуе зашыцца ў сярэдзіну разгалістай яблыні. Але і тут яго дастае сава. Каменем падае на ворага, выставіўшы наперад свае лапы са сталёвымі кіпцюрамі. Крумкач зноў адчайна клякоча. Чорны злодзей адрываецца ад яблыні і нізкім палётам, як ракета «паветра-паветра», якая ляціць над самай зямлёй, спрабуе зноў адарвацца ад перасьледніка. Але сава не адстае. Птушкі зрабілі некалькі піруэтаў па маім садзе і зьніклі на суседзкім участку. Але яшчэ колькі хвілінаў я чуў адчайнае крумкачынае клекатаньне.

Чым скончыўся паветраны бой, я так і не даведаўся.

Дык што адбылося ў гэты дзень? У гэты дзень я зразумеў, што ўсё самае істотнае, важнае, сутнаснае здараецца нябачна, таемна, пад покрывам, за заслонай, за кулісамі, у падпольлі. Так, так. Усё, што мы бачым, чуем, адчуваем, — усё гэтае робіцца толькі для таго, каб заблытаць нас, пусьціць па няпраўдзівым сьледзе.

А пры чым тут, запытаеце вы, сава і крумкач? А вось і пры тым, што нічога нельга зразумець, пабачыўшы невялікі кавалачак эмацыйнай спрэчкі паміж птушкамі. Так і ў звычайным нашым жыцьці. Ці бываем мы сьведкамі, пра што выносім свае меркаваньні, ад пачатку да канца? Ці ведаем усе перадгісторыі, усе падспудныя плыні і ўзаемаўплывы? Не, канешне. То тады ўсе нашыя меркаваньні і прысуды — ня вартыя лушпіны ад бульбы.

Прыкладна так разважаў я ў сваёй сядзібнай альтанцы на беразе Дзьвіны пасля пабачанай паветранай бойкі.

Праз пару дзён гэтыя думкі забыліся. І толькі праз год ці два я зноў згадаў пра іх.

* * *

— Калі на прэзэнтацыю зьбіраюцца пераважна адны сябры, яна ператвараецца ў бардак. — У хаце халодна, я толькі што закінуў у кацёл першую партыю дроваў. Куртку

можна будзе зьняць хіба праз гадзіны дзьве. Уся гэтая мудрагелістая прыдумка ацяпляць хату з дапамогай гарачай вады ў батарэях — вялікая памылка былых гаспадароў. Няма нічога лепшага, чым традыцыйная вясковая печка, якую з раніцы напаліў, і яна амаль да вечара грэе. А тут трэба седнем сядзець пры гэтым катле і толькі пасьпяваць падкідваць дровы, бо як толькі кацёл астыне, то неўзабаве астынуць і батарэі. Не было б з гэтага асаблівай бяды, бо ўзімку ў хаце ніхто не жыве, толькі вось вада ў батарэях замерзне і мароз парве іх як тузік грэлку. А мароз на дварэ б'е рэкорды — сягае ўжо да сарака градусаў.

Полацкі паэт Кастан Навадворскі ўчора прыехаў зь Менску, дзе ў яго ў адной са сталічных бібліятэк прайшла прэзэнтацыя новага зборніка вершаў. У маладосьці Кастан вучыўся на філфаку Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту і меў неверагодную колькасьць сяброў. Большасьць зь іх разьехалася па сканчэньні ўнівэрсытэту па ўсёй Беларусі, але й тых, хто застаўся ў сталіцы, было дастаткова, каб сарваць Кастанавую прэзэнтацыю. Пра што эмацыйна й апавядаў мне сам паэт. Гэтыя сябручкі гарлалі зь месца розныя жарты і рэплікі, перабівалі выступоўцаў і самога аўтара кнігі, у сваіх прамовах казалі розную лухту, абсалютна не па справе, і пэрыядычна скаланалі бібліятэку дружным рогатам.

— Больш у Менску ніякія прэзэнтацыі ладзіць ня буду, — катэгарычна казаў Кастан. — Гэта нават эканамічна невыгодна. Не паверыш, але купілі толькі два зборнікі.

Чарговы раз спускаюся да катла падкідваць дровы, а Кастан, не зьвяртаючы на мяне ўвагу, працягвае гучна абурацца. Я ведаю, што вельмі хутка тое абурэньне зьнікне дарэшты і полацкага паэта зноў пацягне ў сталіцу — у рэдакцыі часопісаў, у выдавецтвы, да сваіх сябручкоў. Такое ўжо было ня раз.

— Для іх паэты з рэгіёнаў — нібыта нейкія саматужныя, народныя рыфмаплёты, якія ніколі не чыталі Разанава і Юхнаўца, а іхны ўзор — прасьцяцкія вершыкі а-ля Янка Журба. Ганьба! — Кастан ужо проста дзярэ на сабе кашулю.

— Супакойся, — кажу сябру, — цябе ўжо лячыць трэба. Ёсьць крыху віна, можа, наліць?

— Ды не, дзякуй, хапіла ўчарашняга. Гарбаты можна. Нешта халодна ў цябе тут. — Кастан пацепвае плячыма ад холаду. На ім чорная куртка са штучным футрам на каўняры. Замок курткі расшпілены, і пад ёй бачны шэры швэдар.

Наліваю вады ў самавар і ўтыкаю штэпсэль у разэтку. Мне таксама не пашкодзіла б выпіць гарачай гарбаты.

— Слухай, а як тут жылі людзі зімой? Гэта ж трэба, каб кацёл заўсёды быў гарачы. —

Нарэшце Кастан пераключыўся на іншую тэму.

— Жылі ў горадзе і хацелі, каб было ўсё па-гарадзкому — батарэі ацяпленьня, газавая пліта, ванная. Усе цывілізацыйныя выгоды. Каб было прэстыжна, а ня так, як у вёсцы. — І мне згадалася, як ранейшая гаспадыня хаты скардзілася, што нязручна мець уласны дом (дровы, брыкет, кацёл), таму, маўляў, прадае яго і перабіраецца ў звычайную кватэру.

— Але можна інакш неяк вырашыць праблему ацяпленьня, больш па-сучаснаму, былі б толькі грошы. Зараз розных напрыдумлялі агрэгатаў для абагрэву. Затое месца — цуд. І рака пад бокам. І Сафійскі сабор у вакне. — Кастан памкнуўся адгарнуць фіранку і паглядзець на вуліцу, але, згадаўшы, што там даўно ўжо вечаровы змрок, перадумаў тое рабіць.

Самавар закіпеў, і я разліў кіпень па кубках, папярэдне ўкінуўшы ў іх пакецікі гарбаты.

— А як думаеш, што тут было раней? — Кастан насыпаў цукар у свой кубак і памешваў лыжачкай.

— У сэнсе... Калі раней? — перапытаў я.

— Ну ў далёкія часы. За Ўсяславам Чарадзеем, напрыклад.

— Што, што... Запалоцкі пасад. Рамесьнікі, купцы, рыбакі жылі. Сядзібы іх стаялі, майстэрні.

— Дык, напэўна, і скарбы свае ў зямліцу тут пазакопвалі. Увесну трэба дапамагчы

табе грады капаць. — І Кастан засьмяяўся сваім блазнаватым сьмехам.

— Так ужо й скарбы. Тут за апошнія 200 гадоў так перааралі зямлю, што ніжні пласт дзясятага стагодзьдзя стаў верхнім. Людзі жылі са сваіх агародаў. Да таго ж тут два разы пракладалі водаправодныя трубы на суседні ўчастак, таму нічога жывога ў гэтай зямлі не засталося: культурны пласт зьнішчаны цалкам. — Мне і самому хацелася б паверыць у нейкія схаваныя скарбы на маёй сядзібе, але ўсе мае роспыты суседзяў, ці знаходзяць яны што-небудзь старое на сваіх дзялках, аптымізму не надалі — маўляў, яшчэ ў 60—70-х гадах царскія манэты траплялiся, але даўно ўжо акрамя гліняных чарапкоў нічога не знаходзяць.

— А я ведаеш пра што падумаў? Уся гэтая зямелька шчодра палітая крывёю. Уяўляеш, колькі на гэтых сотках было забіта людзей за ранейшыя стагодзьдзі! Асабліва пры штурме Верхняга замку. Ды й пры штурме Запалоцкага пасаду. Тысячы і тысячы.

— І што ты гэтым хочаш сказаць? — Падобныя думкі ня раз наведвалі і мяне. Таму мне нават стала цікава, куды ж свае развагі вядзе Кастан.

— А тое й хачу сказаць, што тут павінны жыць прывіды. Бо што такое прывід? Гэта душа забітага чалавека, якая не знайшла вечнага спачыну. Якая блукае ў пошуку адпаведнага прытулку. І стагодзьдзе, і некалькі стагодзьдзяў.

У гэты час нешта бразнула на гарышчы дома. Кастан замоўк, і мы разам узьнялі галовы ўгору — у той бок, адкуль пачулі гук. Але гук не паўтарыўся, і зноў стала ціха.

— Мышы, відаць, шалеюць, — не зусім упэўнена, хутчэй як вэрсію, прамовіў я.

— Ага, у 40-градусны мароз на гарышчы, — зьдзекліва пакпіў зь мяне Кастан. — Вось я і кажу, што прывіды дакладна тут павінны быць.

Я зноў палез у падвал да свайго катла. Дроў унізе не аказалася. Я вылез, адчыніў дзьверы на вуліцу, якія выходзілі адразу на гарод і да дрывотні. Мароз адразу палез ва ўсе шчыліны майго адзеньня. Было нават цяжка дыхаць, бо халоднае паветра апякала горла. Я ўзьняў галаў і пачаў разглядаць дах дома. Ён быў шчодра ўсланы снегам. З коміна ішоў дым, які роўна ўздымаўся на 3—4 мэтры, а затым расьцярушваўся. «І што там можа грукаць на гарышчы?» — падумаў я. Прычым падобныя гукі чуў я ня першы раз. Не пабачыўшы адказу на сваё пытаньне на даху, зайшоў у дрывотню, набраў дроў і вярнуўся ў хату.

* * *

Увогуле, гэтую хату мы купілі для Тацяны пад майстэрню. Тацяна габэленшчыца, і ёй для працы патрэбны плошчы, на якіх можна творча разгарнуцца. Зімой, аднак, ткаць у экстрэмальных умовах не выпадала. У прын-

цыпе, можна было цэлы дзень паліць кацёл і ткаць. Але гэта азначала, што кожныя паўгадзіны трэба спускацца ў падвал і падкідаць дровы. Такі творчы працэс не абяцаў ніякага натхненьня. Таму мы з Тацянай па чарзе проста падтрымлівалі ў хаце плюсавы рэжым. Перадусім каб не размарозіць батарэі і ўсю ацяпляльную сыстэму. Вырашылі так пратрымацца да вясны, калі б стала магчыма неяк направіць ацяпляльную гаспадарку. Добра, што нашая кватэра знаходзілася зусім побач, хвілін пятнаццаць пешкі ад сядзібы.

З гэтым домам нам пашанцавала. На той час, калі вырашылі купіць сядзібу, было досыць шмат прапановаў. Старыя людзі адыходзілі ў іншы сьвет, іх дзеці даўно былі ўладкаваныя ў гарадзкіх кватэрах, таму бацькоўскія хаты прадавалі бяз жалю. Але нам важна было ня проста набыць дом, пажадана, каб ён стаяў у маляўнічым месцы. Бо сядзіба патрэбна для творчай працы. Зусім выпадкова даведаліся, што адна жанчына прадае менавіта такі, з улікам усіх нашых патрабаваньняў, дом — на запалоцкім беразе Дзьвіны. Хата была самая маленькая з тых, што нам прапаноўвалі, і мела самы вялікі кошт, але мы не раздумваючы выбралі яе.

У камплект сядзібы ўваходзілі: сад, гараж, драўляная хламуда-дрывотня і сабака, якога звалі Жуль, а па-простаму Жулік. Гэта быў чорны, харцісты дварняга, зь невялічкімі белымі плямкамі на пярэдніх лапах і на шыі.

Сабака вельмі хутка да нас прывык і мы да яго. У моцныя маразы Жуля пакідалі на вэрандзе. Ясна, што й там таксама далёка не плюсавая тэмпэратура, але ўсё адно ўмовы непараўнальныя зь яго лядашчай будкай.

Тацяна зрабіла пераабсталяваньне ў хаце — зьнесла перагародкі паміж дзьвюма заднімі пакоямі і разабрала столь, адкрыўшы вышыню агульнага пакоя да самага даху, які ўцяпліла пенапластам і гіпсакардонам. Гарышча засталося толькі над ваннай і кухняй. Гэткай рэканструкцыі хата не вытрымала. Дакладней, яе ацяпляльная сыстэма. Папросту кацёл ня быў разьлічаны на такі аб'ём памяшканьня. І таму пачаліся нашыя штодзённыя зімовыя ратавальныя дзяжурствы.

* * *

Некаторыя мёртвыя беларускія вёскі выглядаюць як згубленыя ў далёкіх стагодзьдзях паселішчы ў джунглях Індыі або Мэксыкі. Быў я аднойчы ў адной такой вёсцы на маляўнічым беразе Дрысы. Там усё наўкол так шчыльна пазарастала ляшчыньнікам і розным кустоўем, што хаты можна ўбачыць толькі тады, калі падыдзеш да іх амаль усутыч, ідучы па сцежках, якія цудам захаваліся. Людзі, напэўна, тут усё ж час ад часу зьяўляюцца. Або сьцежкі гэтыя зьвярыныя, што надае мясьціне яшчэ большай містычнасьці і закінутасьці.

Зусім нядаўна тут віравала жыцьцё. Людзі нараджаліся, сустракалі надыход сонца, купаліся ў рацэ, працавалі на калгасных палетках, займаліся каханьнем і стваралі сем'і. Недзе ў гэтых хатах жыў і апошні жыхар, або, хутчэй, жыхарка, бо жанчыны ў Беларусі жывуць даўжэй, а на вёсках гэта, бадай што, правіла. Магчыма, на яе вачах усё тут занепадала, зарастала хмызом і тэрыторыю апаноўвала новае, аўтахтоннае, дзікае жыцьцё, якое не патрабуе электраэнэргіі, крамаў, пошты і нават мабільнай сувязі. Прычым новае жыцьцё ўжо мела іншую вонкавую форму, то бок яно сыходзіла ў таямнічасьць і нябачнасьць для звычайнага выпадковага наведніка. Хтосьці хадзіў па гэтых сьцежках, але ніхто яго ня бачыў. Хтосьці сьпяваў песьні, але ніхто іх ня чуў, а калі й чуў, то не разумеў. Хтосьці гінуў ад гвалту, але ніхто яго не бараніў. Гэтае жыцьцё мела свае законы, і гэтыя законы ніколі не парушаліся.

Ля самых Валынцаў я сустрэў на аўтобусным прыпынку бабульку і паспрабаваў яе распытаць пра мёртвую вёску.

— А што, там сапраўды ніхто ўжо не жыве, нават дачнікі не прыязджаюць? — спытаў я.

— Там засталіся толькі самагубцы, — адказала кабета і ня стала больш нічога тлумачыць.

* * *

Былыя гаспадары пакінулі ў хаце даволі шмат маёмасьці — крыху мэблі, поўны сарай усялякага хламазду і кардонныя скрыні з больш дробным майном у гаражы. Найбольш мяне цікавілі скрыні з кнігамі. Іх было ажно тры. Былыя гаспадары, відаць, нічога са сваёй хатняй бібліятэкі з сабой не ўзялі. Бо ў тых скрынях трапляліся цікавыя і нават рэдкія выданьні. Праўда, спрэс расейскамоўныя. Некалькі проста шыкоўных томікаў Джэка Лёндана, Майн Рыда і Эрнэста Хэмінгуэя. Стракатых і пустых, папсовых кніг, якія запаланілі кніжны рынак на постсавецкай прасторы, тут практычна не было. Гэтая бібліятэчка, відавочна, збіралася ў 70—80-х гадах. Калі кніга ў Беларусі раптам стала адмысловай каштоўнасьцю і часам трэба было мець вялікія сувязі ў кнігагандлі, каб здабываць што-кольвечы вартае.

У асобнай скрыні ляжалі часопісы і нейкія агульныя сшыткі. Гэта перадусім былі жаночыя выданьні і пэрыёдыкі, прысьвечаныя прысядзібнай гаспадарцы. Крыху ніжэй ляжаў стос часопісаў «Катера и яхты» за 70-я — пачатак 80-х гадоў. Гаспадар, які жыў на самым беразе Дзьвіны, трэба меркаваць, цікавіўся гэтай тэмай. А магчыма, нават і меў нейкае сваё прыватнае судна ці лодку.

Я дастаў са скрыні самы вялікі сшытак, хутчэй, нейкую бухгальтарскую кнігу ўліку. Разгарнуў. Акуратным жаночым почыркам

у ёй былі занатаваныя розныя кулінарныя рэцэпты і спосабы засолкі і кансэрвацыі ўраджаю з прысядзібнай дзялкі. У чарговым сшытку гаспадыня запісвала свае сакрэты ў справе вязаньня сурвэтак, панчох і швэдараў. Дастаў яшчэ адзін агульны сшытак — звычайны, вучнёўскі. Разгарнуў. Ён, відавочна, належаў гаспадару: у ім занатоўваліся парады рыбаку. Хутчэй за ўсё перапісваліся зь нейкіх выданьняў. Якая рыба калі лепш ловіцца, на якую снасьць і прынаду. Мяне гэта ня вельмі цікавіла. Я мэханічна разгарнуў сшытак бліжэй да канца і прачытаў:

*Сёньня я зноў чуў гэты голас. Як і мінулым разам, адбылося тое недзе а першай гадзіне ночы...*

Гэта быў дзёньнік гаспадара.

* * *

— Слухай, а што бывае з архівамі пісьменьнікаў пасьля іх сьмерці? — ні з пушчы, ні зь лесу спытаў мяне Навадворскі. Мы зь ім разам працавалі ў шматтыражцы навапалацкага будаўнічага трэста «Нафтабуд». Сёньня здалі нумар і займаліся сваімі справамі: Кастан разгадваў крыжаванку, а я чытаў томік вершаў Уладзімера Дубоўкі, які ўчора прыдбаў у «Сьветачы».

— А ты што, паміраць сабраўся? — пытаньнем на пытаньне адказаў я.

— Ды не, проста падумалася... Ну з архівам Караткевіча або Танка зразумела. Музэй

там, школьны мэмарыяльны куток, дзяржаўны архіў. А вось з такімі, як мы, рэгіянальнымі пісакамі. У Менску мы нікому не патрэбныя, гэта дакладна. А ад мясцовых уладаў не дачакаесься ані павагі, ані ўвагі. Дык што з архівамі?

— Здадуць у макулятуру... што, што... ня ведаеш? — патлумачыў я.

Кастан умеў даставаць на роўным месцы.

Навадворскі засьмяяўся і пляснуў брашуркай з крыжаванкамі па стале.

— Якая зайздросная пэрспэктыва. — Тут ужо ён гучна зарагатаў. — Пісаць, каб не перапыняўся абарот паперы ў чалавечым жыцьці.

У Кастана не было дзяцей. Жыў ён разам з жонкаю, якую любіў. Гэта я ведаў дакладна. У падрабязнасьці ягонага сямейнага жыцьця я не ўнікаў, адчуваючы, што гэта няпростае пытаньне. Тэма спадчыннай пераемнасьці была надзвычай балючая для яго. Асабліва апошнім часам.

— Калі прыйдзе час X, як называў яго польскі паэт Ялу Курэк, можаш здаць свой архіў у мясцовы краязнаўчы музэй. Думаю, там ня зьнікне, захаваецца. Але пра гэта яшчэ рана думаць. — Я вырашыў пасур'ёзнаму адказаць на Кастанава пытаньне і не цьвяліць яго дурнымі жартамі.

— Ну, прынамсі, нейкі варыянт, — пагадзіўся са мной Навадворскі. Ён зноў нахі-

ліўся над сваёй крыжаванкай і ўжо іншым, звыклым голасам прамовіў: — Драпежная птушка, якая вядзе начны лад жыцця, чатыры літары.

— Сава, — падказаў я.

— Слушна. — І ён вывеў чатыры літары ў патрэбных квадрацiках.

* * *

Наўрад ці гэтыя запісы слушна называць дзёньнікам гаспадара, бо ад іх засталася толькі адна старонка. Раней іх, відавочна, было болей, — іншыя бачыны хтосьці выдзер са сшытка. Ці сам гаспадар, ці хтосьці яшчэ. Думаю, што і тая адзіная старонка захавалася цудам. Магчыма, нехта зьнішчаў запісы ў спешцы і выпадкова пакінуў толькі пачатак дзіўнага тэксту.

Вось тое, што я здолеў прачытаць у дзёньніку гаспадара.

*Сёньня зноў чуў гэты голас. Як і мінулым разам, гэта адбылося недзе а першай гадзіне ночы. Доўга ня мог заснуць. Недзе а дванаццатай схадзіў на кухню і выпіў шклянку вады. Голас гучаў як быццам бы з гарышча. Было цяжка разабраць словы. Але тое, што гэта былі чалавечыя словы, то дакладна. Падалося, што гэта нейкі бязладны набор гукаў, цяжка было зразумець сэнс. Усе мае спалі. Нічога нікому ня буду казаць. Можа, што з маёй галавой. Вось і праблема са сном (*неразборліва два словы. — А. А.*) пачалася.*

Тры радкі густа закрэсленыя, прачытаць немагчыма.

*Ня ведаю, што са мной. Але я бачыў, як сёньня раніцай чалавек ішоў па вадзе праз Дзьвіну. Дзень пачаўся звычайна. Устаў, пасьнедаў. Пайшоў на працу. Выйшаў за вароты і паглядзеў на Дзьвіну. Быў прыгожы сонечны ранак. На траве і кустах зіхацела раса. І раптам бакавым зрокам, праз галінкі бэзу, пабачыў, як ішоў па вадзе нейкі дзед. Якраз па сярэдзіне ракі. У доўгай кашулі. Вялікая барада. Добра разгледзець не было як, бо ўсё ж адлегласьць немалая. Ішоў ён з боку Вострава. Я ведаю, што там глыбока і перайсьці Дзьвіну ўброд немагчыма. Я абмінуў куст бэзу і спусьціўся па схіле ў бок ракі. З гэтага месца ніякага дзеда ўжо не было бачна. Быццам гэта быў нейкі прывід, які выпадкова паказаўся і зьнік...*

Наступныя старонкі ў сшытку былі выдзертыя.

* * *

Галоўным месцам у маім дзіцячым пакоі ў бацькоўскай кватэры быў пісьмовы стол. Так, так, не канапа, а пісьмовы стол. У ягоных шуфлядах захоўваліся ўсе мае скарбы: альбомы з паштовымі маркамі, скрынка з манэтамі — старымі, пераважна часоў Расейскай Імпэрыі, і сучаснымі замежнымі, — скрынка са значкамі і некалькі гадавых камплектаў часопіса «Юны натураліст».

Ляжалі тут яшчэ некалькі сшыткаў з маімі першымі дзіцячымі літаратурнымі опусамі. У невялічкіх нататках я спрабаваў апісаць вандроўкі на аўтамабілі, якія рабіў разам з бацькамі, або ўласныя выправы на рыбалку.

Прасторы майго пісьмовага стала было дастаткова, каб я ў ёй нармальна жыў і функцыянаваў.

Побач са сталом на тумбе стаяла радыёла. Ужо ня памятаю яе назвы. Такім чынам, акрамя чытаньня, у вольны час можна было слухаць радыё, а таксама круціць вінілавыя кружэлкі. Асабістых яшчэ ня меў. Таму кружэлкі слухаў рэдка. А гукі радыё былі хутчэй фонам.

З вакна майго пакоя можна было бачыць сараі, пабудаваныя зь белай цэглы, яны шыхтаваліся ў роўны працяглы шэраг. З вакна немагчыма ўгледзець, дзе яны заканчваліся. За сараямі пачыналася тэрыторыя бальніцы. На ёй, колькі памятаю, пасьвіўся, прывязаны на тоўстай вяроўчыне, вялікі баран. Навошта быў баран бальніцы — дасёньня не магу даўмецца. Можа, проста нехта з работнікаў лякарні скарыстоўваў у сваіх жывёлагаспадарчых мэтах разьлеглую бальнічную тэрыторыю, якая нагадвала парк, зарослы канадзкімі клёнамі і густой высокай травой.

Наш невялікі пасёлак адрозьніваўся ад вёскі тым, што тут людзі жылі ў кватэрах, мелі цэнтральнае ацяпленьне, газ, маглі мыцца ў ваннах і мелі пад бокам усе патрэбныя

крамы, а таксама бальніцу, школу, два дзіцячыя садкі, дом культуры, сталоўку, пошту, стадыён і нават адміністрацыйны будынак з псэўдакалёнамі, такую сабе ратушу, які мы называлі гарсаветам.

Большасьць жыхароў пасёлка паходзілі зь вёсак, мелі вясковы мэнталітэт і не зьбіраліся ад яго пазбаўляцца. Перадусім ім патрэбна было мець сваю гаспадарку. Яны пад вокнамі на клюмбах вырошчвалі цыбулю, часнык і моркву. А ў сараях трымалі парсюкоў, коз, трусоў і курэй.

Такім чынам, раніцай мяне будзіў певень, удзень па двары хадзілі куры, два разы праз двор праганялі статак коз, а часам чыйсьці парсючок выскокваў з сараю і з пранізьлівым віскатам пускаўся наўцёкі, а за ім усьлед уся дзятва, якая на той час была ў двары.

Тэрыторыя пасёлка чымсьці нагадвала мне мой пісьмовы стол. Усё тут было побач — самадастаткова і аўтаномна. Усё было ўзаемазалежным. Пасьля школы я рабіў урокі за пісьмовым сталом, а калі чытаў часопіс «Юны натураліст», да мяне ў вакно заглядалі жывёлы, няхай сабе і хатнія.

Мясцовыя няшчасьці і беды тут таксама збольшага былі зьвязаныя з гэтым патрыярхальным укладам жыцьця: котка панішчыла куранят, здох парсючок, дзятва, гуляючы ў футбол, здратавала грады. Былі, відавочна, і нейкія іншыя беды, але яны датычыліся

пераважна дарослых і да дзіцячых вушэй амаль не даходзілі.

Быў у нас яшчэ і Ленін. Ён стаяў на цэнтральным, адзіным у пасёлку, пляцы, побач з гарсаветам, і паказваў рукой на сталоўку. На пастамэнце адсутнічаў надпіс. Але мы дакладна ведалі, што гэта Ленін, бо побач зь ім нас, вучняў малодшых клясаў, прымалі ў піянэры. У нашым аўтаномна-замкнёным жыцьці Ленін даўно, яшчэ да нашага зьяўленьня на сьвет, набыў сваю міталягізаваную асабовасьць. Пра яго хадзілі розныя гісторыі, байкі і жахі. Нехта сярод дзятвы пусьціў пагалоску, што Ленін уночы сыходзіць з пастамэнту і шпацыруе па пасёлку. Я гэтаму ня надта даваў веры, бо здагадваўся, што чуткі распускае Стасік Жалудок, мой сусед па лесьвічнай пляцоўцы, каб настрашыць нас — дробную дзятву. Але ўсё адно некалькі разоў апоўначы бегаў зь сябрамі пільнаваць Леніна. Праўда, і позна ўвечары стаяў ён на сваім месцы як укапаны. Мой сябрук Весьнік ня вытрымаў і кінуў у Леніна каменьчык, патрапіўшы яму ў грудзі. Але бэтонны волат, у сваім вечным дэмісэзонным паліто, нават не зварухнуўся.

Большасьць баек пра Леніна датычыліся начных пагулянак, п'янак і выдурваньня старэйшых бэйбусаў. То дзіравы капялюш яму на галаву нацубяць, то пляшку прывяжуць да рукі, то адно вока перавяжуць анучай на пірацкі ўзор. Пасьля з тыдзень новая байка

абрасталa рознымі вясёлымі падрабязнасьцямі ў расповедах сьведкаў і выканаўцаў.

Але мне запомніўся Ленін зь іншай нагоды. Неяк падумалася, а вось калі б Кастрычніцкая рэвалюцыя адбылася летам, скажам у ліпені. Вучні на вакацыях, многія дарослыя ў адпачынках, шмат хто дапамагае бацькам у вёсках, сенакос там ці яшчэ што. Карацей, хто б хадзіў на дэманстрацыі? Пытаньне гэтае сапраўды мяне ўзрушыла. Вырашыў распытаць бацьку. Неяк, па-дзіцячы наіўна, запытаўся: а што, Ленін адмыслова прыдумаў рэвалюцыю па восені, калі сканчваюцца ўсе вакацыі і адпачынкі? Трэба было ў тую хвіліну пабачыць майго бацьку. Ён гучна, зь нейкай непрыхаванай асалодай, зарагатаў, а калі супакоіўся, папрасіў, каб больш нікому я гэтае пытаньне не задаваў. Маўляў, рэвалюцыя адбываецца тады, калі паўстае рэвалюцыйная сытуацыя. Летам наўрад ці яна магла паўстаць, бо ва ўсіх, сапраўды, адпачынкі, таму даводзілася чакаць да восені.

Увечары я чуў, як бацька расказваў пра маё пытаньне маці і яны разам пасьмяяліся. Мне нават стала крыху ніякавата, нібыта нейкае глупства зрабіў. І больш нікому тое пытаньне не задаваў.

* * *

Сваю першую кватэру я памятаю цьмяна. Я жыў у ёй зь пяці ад васьмі гадоў.

Дакладней, кватэра не была цалкам наша — у ёй мелі свой дах над галавой дзьве сям'і і адзінокая жанчына. У той час кабета мне здавалася лядашчай сварлівай бабуляй, але сёньня я б падкарэктаваў гэтую ацэнку і сказаў інакш — жанчына сталага ўзросту. Нам належалі два прахадныя пакоі — на левы бок кватэры. На правы бок жыла сям'я з двума дзецьмі — хлопчыкам і дзяўчынкай. Жыльлёвай плошчы ў іх было значна менш, але яны мелі гаўбец, які выходзіў у двор. Дом быў трохпавярховы, мы жылі на другім паверсе. З гэтага дому практычна пачынаўся наш пасёлак. Пад намі знаходзілася крама «Прамтавары». Калі спусьціцца ў двор і выйсьці на галоўную вуліцу пасёлка, то пабачыш яшчэ дзьве крамы — «Мяса-Рыба» і «Хлеб», якія разьмешчаныя адна супраць другой праз дарогу. Побач з крамай «Мяса-Рыба», што на нашым баку вуліцы, спакусьліва вабіла вакенца шапіка, у якім гандлявалі марозівам, цукеркамі, печывам і напоямі, у тым ліку й півам для дарослых. Паміж шапікам і крамай — два апараты з мінэральнай вадой. За тры капейкі — з сыропам, за капейку — без сыропу. Практычна ўсе спакусы тагачаснага дзяцінства знаходзіліся амаль у нашым двары.

У той кватэры не было майго асабістага кутка, акрамя ложка, на якім мы спалі ўдвох з малодшым братам. Наўрад ці меў я і сваю нейкую шуфлядку. Хіба палічку, калі пай-

шоў у першы кляс. Да школы трэба было ісьці праз увесь пасёлак, у супрацьлеглы яго канец. У сем гадоў мы рабіліся самастойнымі — ніхто нас у школу не вадзіў. Да таго ж я меў абавязак забіраць з садка брата.

Калі бываю ў родным пасёлку і іду побач зь першым маім домам, імкнуся зазірнуць у двор. Здаецца, ён застаўся такім самым, які быў за часамі дзяцінства. І таполі тыя ж самыя, якія ў чэрвені зацярушваюць сваім пухам увесь двор. І той самы бэтонны агаловак пасярод двара — запасны выхад з бомбасховішча. І тыя ж самыя ходнікі, і старыя, лядашчыя дзьверы ў пад'ездах. Нібыта тут спыніўся час.

І калі думаю, ці магло тут штосьці застацца ад мяне, то з сумам пагаджаюся — нічога. Нічога не магло застацца і не засталося. Хіба што менавіта тут мог згубіць тры капейкі, ідучы да апарата з газіроўкай, і недзе ляжыць той траячок у зямлі паміж бэтоннымі пліткамі ходніка. І калі раптам здарыцца цуд і надумаюць адрамантаваць гэтыя ходнікі і пакласьці новую плітку, то нехта, магчыма, знойдзе той траячок. Толькі цяпер ён ужо нічога ня варты. А колькі было сьлёз, калі я яго згубіў.

Затое з нашых вокнаў, як на далоні, была бачная электрастанцыя, якая так істотна зьмяніла ўвесь уклад мясцовага жыцьця. Два высокія коміны і груваcткі корпус ДРЭС. Нават дзіцёнак ад нашага дома мог зайсьці да станцыі за пятнаццаць хвілін. Вось так было

побач. Менавіта дзякуючы гэтай спарудзе ўзьнік мой пасёлак і людзі з навакольных вёсак перабраліся ў гарадзкія кватэры. Са сваімі козамі, парсючкамі і курамі.

І толькі той баран пад шатамі бальнічных клёнаў ня ведаю адкуль узяўся. Мой першы двор таксама межаваў з бальнічнай тэрыторыяй. Зь яе супрацьлеглага боку. Гэта была галоўная прастора нашых дзіцячых гульняў. І таго барана, на тоўстай доўгай вяроўцы, я ведаю вельмі даўно. І часам мне здаецца, што зусім гэта быў не баран, а нейкае стварэньне, над якім мэдыкі рабілі свае таемныя вопыты. Штосьці падобнае да ваўкалака. Толькі чалавек перакінуўся не ў ваўка, а ў барана. Не пакладзеш жа яго ў бальнічную палату. Таму пасадзілі на вяроўку і спрабавалі вярнуць чалавечае аблічча. Бо які баран можа так доўга жыць? Усё маё дзяцінства ён там пасьвіўся. Побач з моргам. Ці атрымалася што ў лекараў? Наўрад ці хто ўжо адкажа на гэтае пытаньне.

* * *

— А ты заўважыў, які ключавы сказ у гэтым тэксьце? — спытаў у мяне Кастан.

Я паказаў яму старонку з дзёньніка гаспадара. Навадворскі з паўгадзіны старанна яе вывучаў.

— І якое? — Ягонае вучнёўскае дамарослае шэрлакхолмства мяне крыху пацешыла. Ён нават на прасьвет агледзеў старонку.

— На траве і кустах зіхацела раса, — працытаваў ён такім голасам, нібыта зрабіў вялікае адкрыцьцё.

— І што гэта значыць? — Я па-ранейшаму зь іроніяй успрымаў гэтую пінкертоншчыну.

— А тое й значыць, што гаспадар глядзеў на раку праз куст бэзу, які быў увесь у расе. Таму і зьявіўся гэты аптычны падман. Усё! Вось і ўся твая загадка. — Ён з выглядам пераможцы закрыў сшытак і ляпнуў па ім зьверху даланёй.

— Ну дапусьцім. А голас з гарышча? — Я не зьбіраўся здавацца. Кастан насамрэч, хоць і любіў пра *гэта* пагаварыць, ня верыў у цуды, прывіды і дзіўныя здарэньні. Быў ён зацятым атэістам. Усё ў нашым сьвеце тлумачыцца законамі навукі — паўтараў ён. Таму з такой утрапёнасьцю пачаў шукаць тлумачэньні дзіўным гісторыям, якія апісаў былы гаспадар сядзібы.

— І тут усё проста. Ты заўважыў: гаспадар напісаў, што гукі былі сумбурныя, немагчыма было ўцяміць сэнс. І як ты думаеш, што гэта значыць? А значыць, што гэта было хутчэй за ўсё рэха. Хтосьці з суседзяў мог уначы слухаць радыё, або сварыцца, ці гучна гаварыць. Уначы зусім іншая чутнасьць і гарышча магло тыя гукі, так бы мовіць, рэтрансьляваць. Вось і ўся таямнічасьць.

Кастан яшчэ раз ляпнуў даланёю па сшытку. І ў гэты час, як па камандзе, з моцным суправаджальным гукам паваліліся ўсе кіліш-

кі ў правым крыле буфэту. Кастан сядзеў да яго сьпінай на невялікай адлегласьці. Але зачапіць буфэт ён ня мог. Сябар ад нечаканасьці зьбялеў. Ён паволі павярнуўся і пачаў аглядаць буфэт. Перш за ўсё паспрабаваў яго пакратаць, спадзеючыся, што мэбля стаіць незбалянсавана на няроўнай падлозе. Але буфэт стаяў мёртва і непарушна.

Я сам атрымаў шок ад нечаканасьці. Як тыя кілішкі маглі ўсе разам адначасова паваліцца, прычым толькі ў правым крыле буфэту? Нават калі Кастан незаўважна і штурхнуў яго, то кілішкі павінны былі паваліцца і ў левым яго крыле. Яны там таксама ёсьць. Але такога не адбылося. Значыць, нехта штурхнуў толькі самі кілішкі, а не буфэт. І як гэта магчыма, калі яны за закрытымі шклянымі дзьверцамі?

— Ну што, Пінкертон, на гэты раз скажаш? — спытаў я сябра.

Кастан маўчаў. Устаў, яшчэ раз пакратаў буфэт.

— Тут сапраўды ў цябе нейкая чартаўшчына, — нарэшце пагадзіўся ён.

## ЧАСТКА ДРУГАЯ

На двары забрахаў сабака. Брэх рабіўся ўсё мацнейшым. Відавочна, нехта ішоў да мяне ў госьці. Было позна, недзе а дзясятай вечара. Я толькі што прынёс у хату абярэмак дроваў, падкінуў у печ і сеў за чытаньне. Сапраўды, у дзьверы нехта пагрукаў і адразу, не дачакаўшыся з майго боку ніякага знаку, у хату ўвайшоў невядомы. Быў гэта мужчына гадоў сарака, у чорнай балоньневай куртцы, безь якога-кольвечы галаўнога ўбору, хоць на вуліцы мароз ужо адолеў дваццаціградусную адзнаку.

— Добры дзень у хату... сусед ваш... во прыйшоў пазнаёміцца, — сказаў незнаёмец. На яго твары сьвяцілася не сказаць што блазнаватая, але нейкая зьбянтэжаная ўсьмешка. Чалавек, відавочна, ня ведаў, як яго тут сустрэнуць.

Мы парукаліся і пазнаёміліся. Суседа звалі Мікалай. Жыў у бацькоўскай хаце зь сям'ёй. З ранейшым гаспадаром гэтага дома, Валодзем, можна сказаць, быў сябрам.

Я прапанаваў яму крэсла, і ён асьцярожна прысеў. Ледзь улоўная ягоная ўзрушанасьць не зьнікала.

— Што, хату абаграваеш? — пачаў ён размову з самага простага пытаньня.

— Трэба, інакш мароз парве ўсе батарэі, — лякана патлумачыў суседу праблему.

— Ну так, мароз бярэцца добра... пад раніцу будзе амаль трыццаць. То трэба паліць тваю грубачку ўсю ноч. Бо ўраньні з-пад коўдры ня вылезеш. — Ён абвёў поглядам увесь пакой і чамусьці перасмыкнуў плячыма.

— Ды мне хаця б плюс трымаць, я тут не начую. Маю недалёку кватэру. А дом купіў для жонкі як майстэрню. Яна ў мяне мастачка. Галоўнае, каб вада не замерзла ў трубах. — Ці не дзясятаму чалавеку тлумачыў я патрэбу майго тутэйшага дзяжурства.

— І ўчора тут не начаваў? — неяк насьцярожліва спытаў сусед.

— Не, канешне. Мне да кватэры пятнаццаць хвілінаў пешкі. Нават замёрзнуць не пасьпяваю. — Я пасьміхнуўся, спрабуючы «прабіць» насьцярожлівую ніякаватасьць госьця.

— Дзіўна, — сказаў ён, памаўчаў некалькі сэкундаў і дадаў: — А я сёньня раніцай бачыў, як у гэтым тваім вакне свечка гарэла. — І ён паказаў рукой на вакно. — Выходзіў на працу, мне ажно ў Баравуху дабірацца, вакол цемень поўная, а ў тваім вакне кволы агеньчык. Ну, думаю, сусед ужо таксама на нагах.

— А чаму ты кажаш, што менавіта сьвечка гарэла? — Мяне больш за ўсё зьдзівіла, што сусед згадаў пра сьвечку, бо ў доме няма ніякай праблемы з электрычнасьцю.

— Ну таму што сьвятло было не ва ўсім вакне, а толькі зьнізу. Я сам гэтаму зьдзівіўся. Але, думаю, сусед электрычнасьць эка-

номіць. — Мікалай хмыкнуў, нібыта зьбіраючыся засьмяяцца, але спыніўся, як быццам перадумаўшы.

— Можа, падалося? Можа, вакно адлюстроўвала нейкае іншае сьвятло? Вобліск які-небудзь? — Разважаць пра прывіды са сьвечкамі мне ніяк не хацелася.

— Магчыма, — няўпэўнена пагадзіўся ён і адразу перайшоў да справы. — Я тут на хвілінку. Спытаць толькі. Ці не пазычыш сто тысячаў? Сябры прыйшлі, пачаставаць трэба. — Пасьля гэтай просьбы ён адчуў сябе яшчэ больш ніякавата і заёрзаў на крэсьле.

— Ты ведаеш, ня маю ніякіх грошай. Не бяру з сабой, бо няма патрэбы. Хіба што гэтымі тысячнымі паперкамі ў катле паліць. — Я зноў паспрабаваў пажартаваць.

Але мае жарты абсалютна не цікавілі госьця. Ён устаў з крэсла і зазьбіраўся сыходзіць.

— Ну тады добра, мушу ісьці... бо ў хаце госьці чакаюць, — вінавата сказаў ён і пасунуўся да дзьвярэй, выйшаў на вэранду, але затрымаўся, зрабіў пару крокаў назад і, выглядаючы з-за дзьвярнога вушака, сказаў: — А ўсё ж сьвятло было ў тваім вакне. — І пайшоў.

* * *

— Ты якую будзеш гарбату: чорную, зялёную, а можа, зёлкі? — спытаў я ў Кастана. Той сядзеў за сталом побач з самаварам і штосьці пісаў у сваім нататнічку.

— Натуральна, зёлкі! Чаго пытаесься? — Кастан узьняў галаву і дадаў: — Увогуле, гэта ў нас ад саветаў засталося. Любім усё замежнае, чужое, імпартнае. І нават калі гэта поўная херня. Вось хто ведае, як там тую гарбату зьбіралі, як захоўвалі? Мне здаецца, карыснае для чалавека толькі тое, што расьце побач, да чаго чалавек звыклы ў сотым, тысячным пакаленьні. Таму наш яблык карысьней любога апэльсына і банана. Але ідзі паспрабуй... патлумач гэта нашым людзям! — Кастан любіў чытаць лекцыі пра карысьць айчыннага. Гэтыя яго развагі пра яблыкі і апэльсыны я ўжо чуў можа раз пяты.

— Ну тады запару табе збор маёй мамы — чабор, мацярдушка, мята і штосьці яшчэ. Раз ты такі прыхільнік роднага. — Шчыра кажучы, я й сам быў аматар зёлак, але часам, калі прапаноўваў іх гасьцям, бачыў дакорлівыя погляды: маўляў, вось гэта гасьціннасьць, нават гарбаты шкадуе.

— І што ты там пішаш? Ці не натхненьне прыйшло? — спытаў я сябра, заліваючы імбрык зь зёлкамі кіпенем з самавару.

— Ды вось, нарадзілася ў мяне ідэя. Хачу напісаць дэтэктыў. Штосьці такое, для паспалітага чытача. А ведаючы сваю ляноту, вырашыў друкаваць дэтэктыў у нашай газэце на літаратурнай старонцы. Старонка выходзіць раз на месяц. Таму буду абавязаны штомесяц абавязкова напісаць нейкую частку твора. То за год і атрымаецца дэтэк-

тыў цалкам скляпаць. Да таго ж, спадзяюся, павялічу цікавасьць да газэты. Як табе мая ідэя? — Кастан засьмяяўся, быццам бы прыдумаў сапраўды нешта геніяльнае.

— Магутна, — падтрымаў я сябра. — Дык што, ужо пачаў пісаць?

— Ды не, складаю толькі плян твору. — Кастан паказаў нейкія накіды ў нататніку. — Пакуль пачатак прыдумаў, з фіналам праблема. Трэба неяк фэерычна скончыць. Фінал — гэта аснова ўсяго твору.

— І пра што будзе твор? — Мне ня вельмі верылася, што Кастан сапраўды возьмецца за рэалізацыю падобнага праекту. Бо колькі іх у яго было дагэтуль. О! Нават і цяжка падлічыць.

— Твор будзе гістарычны. Ты чытаў пра тое, што Стэфан Баторы падараваў жаўнеру, у якога атрымалася падпаліць полацкую абарончую сьцяну падчас вайны з маскавітамі, свой каралеўскі кубак, усыпаны каштоўнымі камянямі? Дык вось, твор будзе пра лёс гэтага кубка.

— Магутна. І што там зь ім здарыцца? — Я пачаў пацьвельваць сябра.

— А вось не распавяду, бо чытаць будзе нецікава, — сказаў Кастан і захлопнуў свой нататнік.

* * *

Сабака лапай адчыніў дзьверы і зайшоў у хату. Гэта быў вялікі чорны дварняк зь

белымі «шкарпэткамі» на пярэдніх лапах. Заходзіў ён асьцярожна. Спачатку прапіхнуў пысу, прынюхаўся і навастрыў вушы. У хаце, здавалася, нікога не было. Тады сабака сьцярожка выйшаў на сярэдзіну пакоя. Справа ад яго, прысунуты ўсутыч да вакна, стаяў стол, аточаны з трох бакоў крэсламі. На стале зырка блішчэў самавар — адлюстроўваў сонечныя промні, якія праз вакно кляліся якраз на яго пукатыя бакі. Сабака прыжмурыў вочы і адвярнуў галаву ў іншы бок. Зьлева ён пабачыў дзьверы ў іншы пакой, шчыльна прычыненыя. Сабака зрабіў яшчэ колькі крокаў і падышоў да буфэта. Адразу за буфэтам можна пайсьці налева — прамінуць чыгунную ванну і выйсьці ў бакоўку, там у падвале стаяў ацяпляльны кацёл; з бакоўкі быў выхад на задні двор; а калі пайсьці направа — то трапляеш у маленькі кухонны пакой з лядоўняй, невялікай тумбай, якую гаспадары скарыстоўвалі як стол, і чарупінай з кранам, у якой мылі посуд. Сабака зноў пастаяў колькі хвілінаў незварушна, зноў прынюхаўся. На кухні моцна пахла сырым мясам — на тумбе стаяў ладны рондаль, літры на тры, запоўнены кавалкамі сьвініны. Гаспадары, па ўсім было бачна, рыхтаваліся да нейкай імпрэзы: звычайна такія мерапрыемствы суправаджаліся гатаваньнем шашлыкоў. Сабака нібыта пасьміхнуўся, прыжмурыў вочы і нягучна віскнуў. У такія дні тое-сёе перападала і яму. Затым

скокнуў пярэднімі лапамі на тумбу і пысай амаль дакрануўся да рондаля. Прынюхаўся. Лізануў рондаль языком. Але пакінуў яго ў спакоі і зноў стаў на чатыры лапы. Сабаку цікавіла тут штосьці іншае. Ён зноў пачаў прынюхвацца. Падышоў да чарупіны і лёг на жывот. Паспрабаваў прапіхнуць пысу пад дзьверцамі пад чарупінай. Але шчыліна паміж дзьверцамі і падлогай была зусім малая і ўдалося торкнуць туды толькі нос. Сабака выцягнуў пысу са шчыліны і чмыхнуў. Паспрабаваў тое ж зрабіць лапай. І гэта атрымалася. Тады ён павіскваючы, як быццам бы нэрвуючыся, пачаў драпаць лапай падлогу пад чарупінай, нібыта спрабуючы адтуль нешта выцягнуць. Зрабіць гэта, відаць, было ня так проста. Таемны госьць памяняў лапу і з падвоенай актыўнасьцю задрапаў па дошках падлогі. Хвілінаў праз пяць яму нарэшце пашчасьціла і ён выдрапаў штосьці з-пад чарупіны. Сабака радасна віскнуў, схапіў зубамі сваю знаходку і трушком выбег на двор. Госьці і гаспадары былі за хатай у альтанцы, таму ніхто таемны візыт не заўважыў. Сабака са знаходкай адразу зьнік у сваёй будцы. Праз нейкі час ён вылез вонкі, пазяхнуў і паглядзеў уверх. Сонца пачало хіліцца на вечар. Сабака абабег хату і спыніўся непадалёку ад альтанкі. Нейкі час яго ніхто не заўважаў. Гаспадары і госьці былі занятыя размовай.

— Таня, паглядзі, твой Жуль адвязаўся. — Нарэшце хтосьці з жанчын заўважыў сабаку.

Сабака вінавата схіліў галаву і пракудліва прыжмурыў вочы. Гаспадыня ўстала і, зьвяртаючыся да сабакі, жартаўліва прамовіла:

— Пайшлі ўжо, жульлё, навяжу, а то зараз не дасі з шашлякамі ўправіцца.

Сабака ўзьняў галаву на гаспадыню, замахаў хвастом, зноў пракудліва прыжмурыў вочы, крутануўся і пайшоў за ёю сьледам.

* * *

Тацяна адкрыла вечка куфра, дзе ляжалі ніткі, і пачала шукаць бабіну патрэбнага колеру. На вуліцы бралася на дождж. Нібыта і хмараў сур'ёзных на небе не было, як ішла на сядзібу, а вось зь нечага ўзялося і палілося. Кроплі дажджу спорна барабанілі па даху. Вецер шамацеў у галінах дрэваў. Дзьве разгалістыя вышэзныя грушы, якія амаль прыхіналіся да чырвонай цаглянай сьцяны гаража, былі падобныя да двух старажытных волатаў падчас двубою. Сваімі галінамі яны бязьлітасна калацілі адна адну.

«Яшчэ грушы добра не пасьпелі, ды во абтрасе навальніца», — падумала Тацяна.

Учора яна цэлы дзень малявала эскізы новага габэлену. Тацяна даўно вынайшла свой уласны мэтад нараджэньня твору. Спачатку зьяўляецца пачуцьцё, якое асацыюецца з пэўнымі колерамі. Пачуцьцё ўсплывае з глыбіняў памяці, прычым яго цяжка апісаць

словамі, бо ня мае якіх-кольвечы візуальных абрысаў. Паўстае толькі пачуцьцё, без тлумачэньня яго паходжаньня. І толькі затым нараджаліся вобразы. Яны ўсплывалі ва ўяўленьні як розныя фігуры і малюнкі, нібыта ўтвораныя аблокамі, якія можна ўбачыць у залежнасьці ад тваёй фантазіі і настрою. Не абавязкова гэта маглі быць нейкія рэалістычныя фігуры і малюнкі. Часам нараджалася штосьці абстрактнае. І тады колер увогуле ператвараўся ў галоўную дзеючую асобу. І тады мог дапамагчы чароўны куфар зь ніткамі.

«Калі не знайду патрэбны колер, тады можна злучыць дзьве ніткі розных колераў, нібыта зьмяшаць фарбы», — падумала Тацяна.

Дождж мацнеў. Стала чутна, як спорна пачала зьлівацца вада па ліўнёўцы з даху. Тацяна выбрала некалькі бабін. Аднесла іх да варштату. І раптам бакавым зрокам убачыла, хутчэй адчула, нейкі рух за вакном. Яна падышла да вакна і пачала аглядаць двор. Дождж размываў усе абрысы. Найбольш утрапёна хісталіся і хіліліся зямлі кветкі на доўгіх сьцяблінах.

«Магла моцна хіснуцца галіна, магла праляцець-мільгануць птушка, шмат што магло праявіць рух. А можа, і падалося», — пачала супакойваць сябе Тацяна.

...Увечары, калі яна сыходзіла пасьля працы зь сядзібы, на мокрай сьцяжыне да

сядзібнай брамы яна заўважыла размытыя дажджом сьляды босых чалавечых ног.

* * *

Дзед прасачыўся праз мэталічны плот як туман. Ён прайшоўся пад вокнамі хаты і скіраўвася ў найбольш аддалены кут прысядзібнага пляцу.

Сьледам за ім ляцела сава.

Ніхто гэтага ня мог бачыць.

І толькі сабака, які спаў перад будкай, расплюшчыў вочы, узняў галаву і прыслухаўся. Недзе пад антонаўкай, у густой траве, зашамацела мыш. Вецер ледзь прыкметна варушыў лістоту на галінах. Першыя промні сонца толькі-толькі крануліся даху дома. З боку ракі цягнула вільгацьцю. Нават адсюль, ад будкі сабакі, праз дрэвы і праз высокія кветкі, было бачна, што раку ўкрывала шчыльная коўдра туману.

Менавіта ў такі туман уздоўж берагоў Полацку праплываюць вараскія дракары. Незаўважна. І толькі ўсплёскі рыбы парушаюць цішу. Як усплёскі вёслаў. І туман, які зьмяняе рэальнасьць, рассоўвае яе каардынатныя восі, пашырае прастору дзейснага, блытае час і вяртае мінулае.

Дзед робіць нейкія магічныя кругі па пляцы. Постаць яго празрыстая, як з туману. І толькі на грудзях штосьці зырка адбівае промні сонца. І чым вышэй сонца, тым больш

празрыстым робіцца постаць дзеда, але затое ўсё зырчэй зіхаціць у яго штосьці на грудзёх.

Сава сядае на тэлевізійную антэну і аглядае навакольле.

Сабака здымае нашыйнік, а рабіць гэта ён налаўчыўся даўно, абыходзіць хату і спыняецца каля альтанкі. І адсюль заўважае дзеда. Іх позіркі сустракаюцца. Сабака робіць ледзь прыкметныя рухі хвастом. Нібыта вітаецца з госьцем. Цішыня гучным зумэрам азываецца ў вушах. Здаецца, можна пачуць, як цячэ рачная плынь. Дзед адварочваецца і ўглядаецца ў туман. Нібыта сабака яго больш не цікавіць. Затым, не спыняючы ўзірацца, падае рукой знак чатырохногаму гаспадару — паманіў яго. Той паслухмяна сьцярожка робіць крокі насустрач. Падыходзіць да дзеда і становіцца побач зь ім праваруч. Дзед кладзе яму руку на галаў. Сабака заплюшчвае вочы і стаіць незварушна.

Так яны стаяць абодва, застыла і ціха, хвілін дзесяць.

Дзед здымае руку з галавы сабакі. І толькі зараз робіцца заўважным, што ў левай руцэ ён трымае кій. Дзед нахіляецца і амаль на вуха штосьці шэпча гаспадару. Затым выпростваецца, робіць некалькі крокаў і зьнікае за мэталічнай агароджай сядзібы.

Сабака стаіць яшчэ пару хвілінаў на ранейшым месцы. Вочы ў яго заплюшчаныя. І як толькі першы промень кранаецца яго поўсьці, ён ажывае — адкрывае вочы і кру-

ціць галавой, нібыта хоча аднекуль яе вызваліць.

Бяжыць да сядзібнай брамы, падлазіць пад яе і па адхоне ляціць у бок ракі. Сьледам за ім па густой берагавой траве ляціць цень савы.

* * *

Калі мяне хтосьці спытае: якія мае любімыя птушкі і рыбы, то я не задумваючыся адкажу: птушка — сіваграк, рыба — лінь. Такое ўпадабаньне склалася яшчэ ў дзяцінстве. І сіваграк, і лінь мне здаваліся нейкімі містычнымі, казачнымі, нетутэйшымі істотамі. Большасьць навакольных птушак шэранькія, сьціплыя, някідкія. І тут раптам гэты цуд — сіваграк. Птушка, якая нібыта размаляваная каляровымі алоўкамі, перадусім сінімі і блакітнымі. Кожны раз, калі мае бацькі вазілі мяне ў лес па грыбы ці ягады, я бачыў гэтую птушку. Звычайна яна сядзела на слупе з нумарам лясьнічай дзялянкі. Усё, што зьвязанае з гэтай птушкай, было для мяне таямніцай, нават назва яе. На мае роспыты бацькі толькі паціскалі плячыма. Такая вось гісторыя. Жыве побач птушка (не ў Афрыцы і не ў Аўстраліі), і нічога пра яе невядома. Ні ў казках прачытаць, ні ў заапарку пабачыць. Ёсьць птушкі начныя, напрыклад совы. Іх ня так часта ў лесе пабачыш, але зь імі ўсё вядома — і ў казках, і ў фільмах, і ў заапарках, і нават дзіцячыя цацкі ў выглядзе та-

кой птушкі ня рэдкасьць. То бок птушка мае свой пэўны імідж і міталягічнасьць. Малому дзіцёнку скажы «сава», і ён зразумее, пра што гаворка.

Ёсьць яшчэ больш таямнічыя птушкі, як, напрыклад, дзяркач. Ён большасьць свайго часу праводзіць сярод густой травы і рэдка паказваецца на вочы. Дзеркача я ніколі ў жыцьці ня бачыў, але ягонае «дзеркачаньне» шмат разоў чуў і дакладна ведаў, каму яно належыць.

А тут поўная таямніца. Скажыце нават даросламу: «сіваграк» — або інакш «сіваворонка», — і большасьць вас не зразумее. Што гэта яшчэ за сівы грак?

Вось такая таямнічая птушка. Маё дзіцячае захапленьне. Мая ўласная легенда.

Іншая справа зь лінём. Гэта, хутчэй, мой сымбаль посьпеху. Ніякая іншая рыба, злоўленая ў дзяцінстве, не прыносіла такой радасьці, як залаты тлусты лінь. Такі прыгожы, што яго можна разглядаць гадзінамі. За маім дзяцінствам у рачулцы Пліса, на якой я рос, лінь быў не такой ужо рэдкай рыбай. Ясна, што плоткі, уклейкі, печкуры, акунькі, карасі траляліся часьцей. Але ці быў бы для мяне лінь сымбалем посьпеху, калі б яго можна было так лёгка злавіць?

Ня ведаю, ці застаўся хоць адзін лінь у маёй рачулцы, якая штогод плытчэе і плытчэе. Можа, у якім віры і застаўся. Жадаю яму, каб ніколі ня трапіў ні на кручок, ні

ў сетку. Бо гэта мой лінь. І я веру, што посьпех магчымы, пакуль жыве недзе мой лінь.

* * *

Кастан Навадворскі любіў рабіць макет газэты. І нават калі матэрыялу на нумар зьбіралася няшмат, ён прымудраўся ўладкаваць усё такім чынам, што нумар выглядаў нібыта нядрэнна і не зусім гола. Для гэтай працы ў яго была адмысловая жалезная лінарка. Бярог ён яе як нейкую асаблівую каштоўнасьць, нікому ў рукі не даваў. Ня тое што пазычыць на час.

У Кастана нават настрой уздымаўся, калі трэба было нарэшце брацца за стварэньне макету. У гэтыя хвіліны творчага гарэньня ён звычайна нешта мурлыкаў сабе пад нос. А мог нават і апавядаць штосьці вясёлае.

— А ты ведаеш, ёсьць такія прыборы, якія фіксуюць анамальныя зьявы. — Тое ўражаньне, якое ён атрымаў на маёй сядзібе, відавочна, не пакідала яго ў спакоі. — Хаця, па-мойму, усё гэта шарлатанства. Сюжэты для мульцікаў пра лаўцоў прывідаў. Бо калі штосьці і ёсьць, штосьці мэтафізычнае і эзатэрычнае, то яно існуе ў некім паралельным сьвеце, які абсалютна не кантактуе з нашым сьветам. Як думаеш?

— Калі не кантактуе, дык хто тады паваліў кілішкі? — пытаньнем на пытаньне адказаў я.

— У любым правіле ёсьць выключэньні, так званыя збоі праграмы. Думаў я пра тыя кілішкі, але пакуль нічога не прыдумаў. Аднак павінна быць нейкае тлумачэньне.

Кастан устаў, адчыніў вакно. Сеў на падваконьне і закурыў. Кабінэт быў разьлічаны толькі на нас дваіх. Я не курыў. Але асабліва не сварыўся з тае нагоды на сябра і калегу.

— Увогуле, не люблю бязладную разнастайнасьць, якая ўносіць вэрхал ва ўстаноўлены парадак, — з філязофскай глыбінёю ў голасе прамовіў Навадворскі. — Вось, напрыклад, я купляю заўжды шкарпэткі толькі аднаго колеру. Пэрыядычна выбракоўваю дзіравыя і камплектую новую пару.

Кастан дыхнуў тытунёвым дымам у мой бок і засьмяяўся блазнаватым сьмехам.

— Ты зрабіў макет? Давай завязу ў друкарню. — Па шчырасьці, я даўно чакаў, калі Навадворскі зробіць макет, каб зьліняць з рэдакцыйнага пакоя. Гэтае пустое балабольства мяне не цікавіла.

— Зараз, крыху засталося. — Ён устаў з падваконьня, прайшоў да сьметніцы, якая стаяла побач зь дзвярыма, кінуў у яе недапалак і вярнуўся на працоўнае месца. Пачаў нешта шукаць і запытаўся: — А ты ня браў маю лінарку?

— Навошта яна мне? Я з-за стала не ўставаў, як я мог яе узяць, — абурана адказаў я.

Удваіх мы пачалі яе шукаць. Ні на стале, ні пад сталом, ні ў шуфлядах стала — нідзе яе не было.

* * *

Стасік Жалудок меў брата-блізьнюка Паўліка. Жыў я зь імі на адной лесьвічнай пляцоўцы — іх кватэра знаходзілася насупраць нашай. Стасік і Паўлік — найстарэйшыя хлопцы, зь якімі я вёў кампанію ў двары. Розьніца паміж мною і імі — усяго год. У нашым доме жылі і больш дарослыя мальцы, але яны мелі свае кампаніі і іх жыцьцё з нашым амаль не перасякалася.

Увогуле, я ніколі больш ня бачыў такіх блізьнюкоў, якія настолькі непадобныя паміж сабой. Як з выгляду, так і з характару. Стасік меў арліны, кручкаваты вялікі нос, больш дзябёлы па камплекцыі. Харызматычны, балагурысты, кампанейскі. Паўлік — хударлявы, крыху вышэйшы за Стасіка, меў нейкія млявыя, невыразныя вочы. Замкнёны, негаваркі. Карацей, зблытаць іх было абсалютна немагчыма.

Абодва яны хадзілі ў музычную школку на клярнэт. Стасіку музыка давалася больш пасьпяхова. Ён нават музычную кар'еру зрабіў пазьней — граў у вайсковым аркестры. Іх маці працавала вартаўнікам нашай пасялковай музычнай школкі. Часам, калі маці мела нейкі пільны клопат, то прасіла сыноў падзяжурыць гадзінку-другую, напрыклад да адзінаццатай ці дванаццатай. Бывала, на такім дзяжурстве зьбіралася амаль уся нашая дваравая кампанія, у тым ліку і мой малодшы брат. Стасік ня быў бы Стасікам,

каб такімі вечарамі не прыдумляў чарговую забаву. Звычайна ўсё пачыналася з супольнага канцэрту ў невялічкай актавай зале школкі. Ужо ня памятаю, які музычны інструмэнт мне даставаўся. Але калі ўлічыць, што з усёй нашай банды толькі Стасік і Паўлік хадзілі ў музычную школку, то канцэрт атрымліваўся фэерычны і чымсьці нагадваў фільм «Вясёлыя рабяты», асабліва тыя сцэны, калі музычны выступ аркестра ператвараўся ў балаган і бойку. Не сказаць, што мы нацаблівалі барабаны на галовы адзін аднаму, але чымсьці кідаліся, чымсьці фэхтавалі, а таксама вадзілі насамі па клявішах піяніна.

Шкада, што на той час не было ні мабілак, ні пляншэтаў, таму відэа зрабіць не было чым.

Мы так разыходзіліся, што, здаецца, не спыніць, не стрымаць — вось-вось разьнясем на кавалачкі ня толькі музычныя інструмэнты, але і сам будынак школкі. І тут прыходзіла маці Стасіка і Паўліка. Кабета пачынала ўсіх нас сарамаціць, а Стасіку нават даставалася нейкім жгутом па дупе. Мы з рогатам выскоквалі адзін за адным на вуліцу. Вярталіся па Спартовай дахаты, па дарозе працягвалі штурхаць адзін аднаго, рагатаць і гучна пераказваць толькі што адбыўшуюся дзею.

Я сваім ключом адчыняў дзьверы, імкліва праходзілі з братам у свой пакой. Бацькі ў гэты час звычайна глядзелі тэлевізар. Маці

ўставала і ішла на кухню штосьці згатаваць нам на хуткую руку.

Спалі як забітыя. У сьне гралі на музычных інструмэнтах. Суладна і прыгожа. І часам здаецца мне, што ўсё ж хадзіў я ў музычную школку. Толькі ня ведаю, ці здаў іспыты.

* * *

— У вас тут будзе як у лазьні, усё зробім як мае быць.

Гэтага майстра мясцовага будаўнічага трэсту нам параіў адзін знаёмы. Тацяна патэлефанавала і дамовілася. «Няхай сапраўдныя спэцыялісты зробяць справу, а не якія-небудзь халтуршчыкі», — сказала Тацяна.

Майстар аблазіў усе закуткі дома, хвілінаў дваццаць вывучаў кацёл. Затым сеў за стол і пачаў маляваць схему ацяпленьня хаты. Паводле ягонай схемы трэба было змантаваць яшчэ адну трубу да самага кутняга пакоя. «Гэта для цыркуляцыі», — патлумачыў майстар. «Вада кепска цыркулюе, таму доўга і кепска награваюцца батарэі», — працягваў тлумачыць ён і пры гэтым паказваў нам свой экспромт на паперы, зроблены алоўкам, нібыта абараняў перад намі курсавую працу на катэдры «Водазабесьпячэньне і каналізацыя».

— І вы гарантуеце, што пасьля вашых трубаналадачных дзеяў у хаце зімой будзе цёпла? — спытала ў майстра Тацяна.

— Ну канешне. У гэтай справе галоўнае цыркуляцыя. Праўда, кацёл у вас стары і слабы. Але, думаю, пацягне яшчэ.

— Добра. Пачынайце, — дала дазвол на будаўніча-рамонтныя працы ў сваім доме Таццяна.

Праз паўгадзіны на сядзібе зьявіліся тры работнікі. Яны прыцягнулі з сабой зварачны апарат, трубы і яшчэ безьліч нейкага начыньня-інструмэнту, утварыўшы на тэрыторыі сядзібы сапраўдны гармідар.

Працы доўжыліся тры дні. Па іх сканчэньні, на дзень здачы аб'екта, прыехаў майстар, зноў аблазіў усе закуткі хаты і ляканічна заявіў: «Усё ў парадку. Будзе як у лазьні. Я максымальна вам тут разьлічыў».

Таццяна вырашыла праверыць новую цеплапанагравальную гаспадарку на практыцы. Яна распаліла кацёл і пачала чакаць, калі ж будзе як у лазьні. У бліжэйшую гадзіну вялікага прагрэсу цеплагаспадарка не прадэманстравала.

Майстар заявіў, што ня мае часу далей тут з намі бавіцца, бо шмат працы на іншых аб'ектах. А сыстэма павінна яшчэ саманаладзіцца, папрацаваць, паганяць ваду па трубах.

Таццяна разьлічылася з майстрам. Батарэі ў рэшце рэшт нагрэліся, але як там цяпер будзе ўзімку, было цяжка сказаць. Летняе надвор'е не дазваляла правесьці зімовы эксперымэнт.

* * *

Я сядзеў у альтанцы і назіраў за рыбакамі, якія лавілі рыбу. На дзьвінскую ваду акварэльна клаліся адбіткі дрэваў, якія расьлі на супрацьлеглым баку ракі — Востраве. Рыба відавочна не клявала, таму два рыбакі, якія траплялі ў мой зрокавы сэгмент назіраньня, былі падобныя да манэкенаў у краме «Рыбалка і паляваньне».

Сонца з нарастаючай хуткасьцю кацілася ў бок Рыгі, нібыта гнаная плыньню Дзьвіны. Вечаровыя промні залацілі вершаліны дрэваў на Востраве і бліскаўкамі рассыпаліся па воднай паверхні.

Кірлі нястомна патрулявалі раку, выглядаючы рыбак, якія грэлі сьпіны на вечаровым сонцы ля мяжы вады і паветра. А недзе на таемных глыбінях, як субмарыны, ляжалі вялікія самы і толькі варушылі сваімі сур'ёзнымі вусамі, чакаючы, калі ўжо нарэшце гэтае сонца схаваецца і тады можна будзе выйсьці на паляваньне.

Суладна рачной плыні плылі і мае думкі.

Я разважаў пра лёсы тых людзей, якія жылі ў гэтым доме раней. «Не спазналі мы тут шчасьця, на жаль», — сказала былая гаспадыня сядзібы, разьвітваючыся з намі. «Чаму не спазналі? Тут так прыгожа!» — наіўна спытала Тацяна. «Напэўна, у кожнага свой лёс», — унікліва адказала гаспадыня і апусьціла вочы. Відавочна, яна хацела нешта яшчэ дадаць, удакладніць, але перадумала,

разьвіталася і пашыбавала да весьніц, несучы ў руках важкі пакет зь нейкімі рэчамі, якія адшукала ў хаце пры апошнім аглядзе сваёй былой маёмасьці.

І гэтыя словы не давалі мне спакою. Дакладней, ня самі словы, а тая інтанацыя, зь якой яны былы прамоўлены, тое хваляваньне, якое адчувалася і ў яе голасе, і ва ўсіх рухах, і ў апушчаных вачах, ну і, канешне, тыя словы, якія былая гаспадыня не рашылася прамовіць.

Сумная думка не давала мне спакою: жыць сярод такой прыгажосьці, штодзень бачыць крыжы Сафіі і не спазнаць шчасьця. Чалавечае шчасьце, відаць, сапраўды вельмі капрызьлівае. Але, магчыма, былая гаспадыня мела рацыю, што шчасьце залежыць не ад месца жыхарства, а ад канкрэтнага чалавека. І дзе б ты ні быў, куды б ні зьяжджаў, дзе б ні шукаў сваю долю, тваё пэрсанальнае шчасьце або няшчасьце ўжо дэталёва расьпісана, і квітанцыя дасланая адрасату.

Нібыта спадзеючыся пачуць думку Сафіі, я павярнуў галаў у яе бок. І ў гэты самы час выразна пабачыў на шкельцах акуляраў адбітак — пасярод Дзьвіны ў бок сядзібы ішоў дзед з доўгай барадой. Я рэзка крутануў галаў у ягоны бок, але мяне неспадзявана асьляпіў промень сонца і на некалькі сэкундаў зьнік зрок. Калі зрок аднавіўся, я ўзняўся з лаўкі і пачаў пільна аглядаць Дзьвіну.

Ніякага дзеда ані на самой рацэ, ані на беразе не было.

* * *

Кастан Навадворскі заклаў папяровы аркуш у друкарку і тэатральна, вялікімі літарамі, выстукаў назву свайго будучага твору: ТАПЕЛЕЦ У ДЗЬВІНЕ. Затым узняўся з крэсла, падышоў да адчыненага вакна і закурыў. Відавочна, у гэтыя хвіліны ён абдумваў сюжэт. Яго міміка выдавала то задаволеную ўсьмешку, то засяроджанасьць. Часам здавалася, што ён бязгучна нешта прамаўляе, нібыта актор, які згадвае сваю ролю перад выхадам на сцэну. Затушыўшы недапалак у попельніцы, Кастан зноў сеў на крэсла перад друкаркай і пачаў хутка выстукваць тэкст.

*Раніцай 14 жніўня 1908 году, ля дзьвінскага берагу ў заходняй частцы Запалоцьця, дзеці знайшлі тапельца. Гэткія прыгоды здараліся ў Полацку нярэдка — ўсё ж Дзьвіна вялікая рака, зь імклівымі вірамі і плынямі, зь ёю ня варта жартаваць, асабліва калі твае здольнасьці плыўца пасрэдныя.*

*Але гэты тапелец быў незвычайны — у ягонай сьпіне тырчалі тронкі нажа.*

*Першым яго заўважыў Рыгорка, сын паромшчыка Ігната Кундалевіча. Дом Кундалевічаў стаяў на самым беразе ракі. Бацька Рыгоркі з раніцы да зьмярканьня завіхаўся на пароме, які злучаў Запалоцьце з Экіманьню. Гэтай справай Кундалевічы займаліся з даўніх ча-*

*соў. Рыгорка таксама цэлы дзень бавіўся на рацэ — лавіў рыбу, купаўся, гуляў зь сябрамі ў піратаў і маракоў.*

*Цела нерухома ляжала на меліне, заўважыць яго з узвышша Запалоцкага пасаду не дазваляла высокая балотная трава.*

*— Вунь тапелец, — закрычаў Рыгорка, зьвяртаючыся да гурмы падлеткаў, якая непадалёку, як купка вераб'ёў, сядзела на цёплым пяску ўзьбярэжжа. Сябрукі паўскоквалі зь месца і пабеглі на кліч. Упэўніўшыся, што на беразе сапраўды ляжыць мярцьвяк, з крыкам «Тапелец! Тапелец!» дзятва пабегла ў бок сядзібаў.*

*Высьветліць асобу памерлага паліцыі не ўдалося. Ніякіх дакумэнтаў у ягоных кішэнях не аказалася. Супрацоўнікі сьледчага аддзелу былі ўпэўнены, што пацярпелага спачатку забілі ўдарам нажа ў сьпіну, а затым скінулі ў раку. Магчыма, скінулі недалёка ад берага, таму цела не падхапіла плынь, а на меліну, трэба меркаваць, выкінулі хвалі ад начнога парахода. Забіты належаў да дваранскага саслоўя, гэта было відаць па вопратцы і рэчах, знойдзеных у кішэнях, — дарагім гадзіньніку, ста рублях у прыгожым скураным партманэце, грабянцы з панцыру чарапахі. Памерлы меў невялікую акуратную бародку і радзімку на левай скроні.*

*Сьледчы Адам Цісковіч, які звычайна займаўся падобнымі справамі, адразу зразумеў, што разблытаць гэты клубок будзе няпро-*

*ста. Забіты быў чалавекам нетутэйшым — у Полацку Цісковіч ведаў усіх прадстаўнікоў дваранскага саслоўя.*

*Ня ведаючы імя забітага і магчымых матываў забойства (рабаўніцтва адпадала, бо грошы засталіся пры забітым), было бессэнсоўна будаваць якія-кольвечы гіпотэзы. Апытаньні дзяцей, што знайшлі труп, і жыхароў запалоцкіх сядзібаў — бліжэйшых да месца здарэньня, ніякай карыснай інфармацыі не далі. Ніхто нічога ня ведаў, нічога падазронага не назіраў.*

*Пра здарэньне паведамілі ў паліцыю губэрнскага цэнтру. Адпаведную аб'яву зьмясьцілі ў «Витебских губернских ведомостях».*

*Адам Цісковіч не зьбіраўся пускаць справу на самацёк. Ён быў вопытным майстрам вышуку — больш пятнаццаці гадоў служыў у паліцыі. Пра яго казалі, што Адам Мікадзімавіч мае адмысловае пачуцьцё, як ганчак. Гэтае пачуцьцё слушна было б называць інтуіцыяй і гнуткасьцю розуму. Добра ведаючы норавы тутэйшых месьцічаў (ён сам быў карэнным палачанінам) і псыхалёгію прадстаўнікоў асобных саслоўяў, Цісковіч лёгка мадэляваў розныя сытуацыі і вэрсіі, дакладна вызначаў самыя неверагодныя матывы злачынстваў. Сьледчы меў някідкі выгляд — невысокі рост, русявыя валасы з сымэтрычнымі залысінамі, маленькі правільны нос, які крыху губляўся на шырокім твары,*

*шэрыя вочы — у іх заўжды прысутнічала ці то схаваная ўсьмешка, ці то зацікаўленасьць да суразмоўцы. Адметнай прыкметай сьледчага зьяўлялася, бадай, прымятасьць яго правага вуха, — такая асаблівасьць надаецца чалавеку ад нараджэньня. Калегі ж пасьмейваліся, маўляў, гэта ў Цісковіча баявая метка — вуха пакамечылі ў бойцы злачынцы.*

*У запалоцкай справе не было нават кволай зачэпкі, таму Адам Цісковіч заняўся высьвятленьнем незвычайных здарэньняў, якія адбыліся ў Полацку за апошнія некалькі дзён. Распытваў рамізьнікаў, чыгуначнікаў, рыбакоў, паромшчыкаў, гандляроў, пакаёвак гатэляў, гаспадароў мэбляваных пакояў, шынкароў.*

*Пра адно незвычайнае здарэньне яму ўсё ж удалося даведацца.*

* * *

*Іван Зяновіч паходзіў зь вядомага беларускага шляхецкага роду. Ягоны продак — кашталян полацкі Юры Зяновіч — удзельнічаў у аблозе і вызваленьні старажытнай крыўскай сталіцы ад стральцоў Івана Жахлівага. На чале вялікага аб'яднанага войска Кароны і Вялікага Княства Літоўскага ў той выправе стаяў сам кароль Стэфан Баторы. У стракатую саракатысячную вайсковую армаду ўваходзілі польскія, нямецкія, вугорскія, украінскія аддзелы. Беларускіх ваяроў узначальвалі ваявода троцкі Сьцяпан Збаражскі, вая-*

*вода полацкі Мікалай Дарагастайскі і продак Івана Юры Зяновіч.*

*У XIX стагодзьдзі род Зяновічаў зьбяднеў. Бацька Івана Сьцяпан Зяновіч працаваў у Полацку выкладчыкам-выхавацелем у запалоцкім дзіцячым прытулку. У 1892 годзе ён раптоўна памёр. Сям'я — жонка Кацярына з непаўнагадовымі сынам і дачкою — засталася без кармільца. Маці Івана, а ён меў на той час трынаццаць гадоў, вырашыла пераехаць у Маскву, куды яе запрашаў старэйшы брат, абяцаючы дапамогу і апеку. Да пераезду жанчыну схілялі і іншыя абставіны. Па-першае, трэба было вызваліць для новага выхавацеля пакой у прытулку. Па-другое, катастрафічна не ставала сродкаў на жыцьцё. Так Іван Зяновіч стаў масквічом, скончыў Маскоўскі ўнівэрсытэт, атрымаў прафэсію юрыста, пачаў рабіць кар'еру.*

*З пакаленьня ў пакаленьне род Зяновічаў захоўваў вялікую сямейную рэліквію. Гэта быў залаты кубак, інкруставаны каштоўнымі камянямі. Некалі ён належаў самому Стэфану Баторыю. У якасьці ўзнагароды з рук караля кубак атрымаў ваяр украінскага аддзелу, што здолеў падчас аблогі Полацку, у якім заселі расейскія стральцы, падпаліць абарончую сьцяну Верхняга замку. Каралеўскі кубак у ваяра выкупіў полацкі кашталян Юры Зяновіч — хоць і надаў кароль сьмельчаку разам з узнагародай шляхецкую годнасьць*

*і адпаведны герб, ваяру найперш патрэбны былі грошы.*

*З таго часу кубак Баторыя перадаваўся ў родзе Зяновічаў з пакаленьня ў пакаленьне як найкаштоўная рэліквія, як сымбаль сьмеласьці, посьпеху і імкненьня да волі.*

*Прадзед Івана Васіль Зяновіч актыўна ўдзельнічаў у паўстаньні Касьцюшкі, за што Зяновічаў пазбавілі ўсіх радавых маёнткаў. У XIX стагодзьдзі Зяновічы канчаткова зьбяднелі. Аднак кубак Баторыя ўсё адно знаходзіўся ў сям'і, праўда, ужо таемна. Дзе перахоўвалася каштоўнасьць, часам ведаў толькі гаспадар рэліквіі.*

*Вось і Сьцяпан Зяновіч не давяраў таямніцу нават жонцы, бо баяўся, каб тая не прымусіла прадаць каралеўскую ўзнагароду.*

*Ад'яжджаючы з Полацку, Кацярына, колькі ні шукала, так і не знайшла залаты кубак.*

*Пра страчаную сямейную рэліквію Іван Зяновіч даведаўся ад маці, калі ён вучыўся ў Маскоўскім унівэрсытэце. Таямніца кубка Баторыя не давала юнаку пакоя. «Куды падзелася сямейная каштоўнасьць?» — разважаў Іван. Бацька, відавочна, недзе яе хаваў. Але дзе? У банку? Дык павінны быць паперы.*

*Іван некалькі разоў пераглядаў бацькавы архіў. Гэта былі лісты ад сваякоў, накіды нататак па гісторыі, якія Сьцяпан Зяновіч пісаў для «Витебских губернских ведомостей», розныя рахункі, справаздачы, пляны*

*заняткаў, а таксама выцінкі з газэт. Нічога з таго, што магло б дапамагчы ў пошуку.*

*Аднойчы, ці не дзясятым разам, Іван пачаў пераглядаць бацькавы архіў. У тэчцы з артыкуламі па гісторыі ён зьвярнуў увагу на маляваную ад рукі мапу Полацку. Мапа раней не выклікала ў яго цікавасьці, бо ляжала паміж аркушаў артыкула па гісторыі Запалоцкага пасаду. Таму не ўзьнікала і пытаньня, чаму Запалоцьце на мапе намалявана гэтак дэталёва. Вось тут, ля самай сутокі Палаты, некалі стаяла ўніяцкая драўляная царква Кузьмы і Дзям'яна, побач — паромная пераправа. Вось галоўная вуліца пасаду, Махіроўская, — яна выцягнулася з усходу на захад і скрыжоўваецца з чатырма папярочнымі. Вось печы на беразе ракі, у якіх выпальвалі вапну. Вось паром, які злучаў Запалоцьце з Экіманьню, побач лодачны прычал. Іван згадаў, што тут можна было ўзяць лодку ўнаймы. А вось і будынак дзіцячага прытулку, у якім жыла сям'я выхавацеля Зяновіча.*

*Разглядаючы мапу, Іван заўважыў невялічкі крыжык, намаляваны ў двары прытулку. Каля крыжыка стаяла літара «К». «Магчыма, гэта калодзеж», — падумаў малады Зяновіч. Зь дзяцінства ён памятаў, што ў двары сірочага дому сапраўды быў калодзеж. А магчыма... Нечаканая думка-здагадка бліснула ў нетрах сьвядомасьці: «Слова "кубак" таксама пачынаецца на літару "К"».*

Кастан Навадворскі паставіў кропку і задаволена пацёр рукі. Справа атрымала ўдалы пачатак. Ён склаў у стос аркушы з надрукаваным тэкстам і пачаў яго перачытваць, па ходзе выпраўляючы памылкі. Затым намаляваў газэтны макет літаратурнай старонкі, у якой увесь «падвал» развароту газэты аддаў пад першую частку свайго дэтэктыўнага аповеду. Назаўтра «Тапельца ў Дзьвіне» ўжо абмяркоўвалі чытачы.

# ЧАСТКА ТРЭЦЯЯ

— Ты ніколі ня думаў, што ў большасьці нашых птушак два дамы — летні і зімовы? — сказаў Кастан Навадворскі, седзячы на маёй альтанцы і пацягваючы піва. — Вось гэты шпак, акрамя тваёй шпакоўні, зімой недзе яшчэ жыве. І ў гэтым далёкім краі ён жыве палову свайго жыцьця. Але радзіма ў яго адна — вось гэтая шпакоўня. Уяўляеш!

— Ну ты адкрыў Амэрыку! Пра гэта яшчэ Францыск Скарына напісаў. Памятаеш? «Як ад нараджэньня зьвяры, што ходзяць у пустыні, ведаюць ямы свае; птушкі, што лятаюць у паветры, ведаюць гнёзды свае; рыбы, што плаваюць па моры і ў рэках, чуюць віры свае; пчолы і тым падобныя бароняць вульлі свае, — так і людзі, дзе нарадзіліся і ўскормлены, да таго месца вялікую ласку маюць», — прамовіў я, цытуючы Скарыну па памяці.

Піва я ня піў, бо меў харчовую алергію на дражджавыя напоі. Таму падтрымліваў сябра чырвоным віном.

— Ну, скажу табе, Скарына сапраўды аўтарытэт, — пагадзіўся з маёй заўвагай сябар. — Магутны чалавек, волат духу і ведаў. Дарэчы, недзе тут ён хадзіў, па гэтых берагох. Тут быў ягоны дом і радзіма.

— Скажу больш, ня проста хадзіў, а сядзеў за партай і вучыў латынь. Якраз амаль на

тым месцы, дзе мы зараз сядзім з табой. — Нядаўна археолягі правялі раскопкі на суседняй сядзібе і знайшлі рэшткі драўлянага бэрнардынскага кляштару, які першапачаткова, за часамі Скарыны, быў тут пабудаваны. У тагачасным Полацку Скарына мог вывучыць латынь, каб паступіць у кракаўскую акадэмію, толькі ў бэрнардынаў. Бязь веданьня лацінскай мовы ніхто б яго туды не прыняў. Таму гэтую вэрсію, што Скарына першапачаткова вучыўся ў запалоцкай пачатковай бэрнардынскай школе, я падтрымліваў і пашыраў у народзе.

— Цікава. Ніколі не задумваўся пра патрэбу для Скарыны лацінскай мовы. Але слушна, амаль уся тагачасная навука была на лаціне. — Кастан азірнуўся назад, нібыта спрабуючы пабачыць недзе побач Скарыну, або хаця б ягоны цень, і дадаў: — Цікава, а ці вяртаўся ён сюды пасьля сьмерці?

— Ты ж ня верыш у прывіды і розную ненавуковую мэтафізыку, — пажартаваў я зь сябра.

— Я ня веру ў бога і чорта, але што тычыцца нейкіх астральных сьветаў, па-за нашай рэальнасьцю, адчуваньняў і кантактаў... то хто яго ведае... ніхто адтуль не вяртаўся, але гэта яшчэ не азначае, што там нічога няма. — Кастан яшчэ раз азірнуўся, паставіў шклянку на стол, узьняўся з лаўкі, дастаў з кішэні пачак цыгарэт і закурыў. Ён глядзеў на Дзьвіну і пра нешта думаў. Мне падалося, што думаў пра свой дэтэктыўны аповед.

Кінуць, не дапісаўшы яго да канца, цяпер ён ня мог.

* * *

— Толькі не спадзявайся, што я табе тут буду вырошчваць буракі, моркву і капусту, — сказала мне Тацяна адразу, як мы купілі сядзібу.

Зямлі пры хаце хапала для вядзеньня прысядзібнай гаспадаркі — восем сотак. Ранейшыя гаспадары скарыстоўвалі кожны лапік. Яны вырошчвалі ня толькі садавіну ды гародніну, але і галоўны беларускі прадукт — бульбу. У першы год мы паспрабавалі не парушаць традыцыі былых гаспадароў і засадзілі ўвесь прысядзібны ўчастак. Але па восені бульбы выбралі зь зямлі менш, чым пасадзілі, і зарakліся займацца надалей бульбагадоўляй.

Тацяна пакінула сабе некалькі градак пад цыбулю, агуркі і клубніцы. Астатнюю зямлю засадзілі газонкай. Затое хату з усіх бакоў атачылі кветкамі. Тут ужо Тацяна не шкадавала сваіх сілаў і часу.

— Ну, па-першае, у іх было шмат вольнага часу. Ім ня трэба было ткаць габэлены і пісаць кнігі, — тлумачыла Тацяна наш зыход з выкананьня сельскагаспадарчай праграмы. — Па-другое, нават прыканцы дваццатага стагодзьдзя прысядзібная гаспадарка была добрай падтрымкай у сям'і. І кожная бульбіна, бурак, капуста не былі лішнімі.

Гэта сёньня прасьцей купіць, чым вырошчваць, а затым яшчэ думаць, дзе і як свой ураджай захаваць. Не, я лепш лішні раз у краму схаджу, — не супакойвалася Тацяна адноснаградаў і бульбяных разораў.

Праполваючы кветкі, Тацяна час ад часу знаходзіла нейкі гістарычны артэфакт — то якую капейчыну часоў Расейскай Імпэрыі, то нацельны крыжык. Гэтым разам яе знаходка была адмысловай — бронзавы кружок з вушкам. Калі знаходку ачысьцілі, то выявілася, што насамрэч круг утварае зьмяя, якая скруцілася роўна па коле. Прынамсі, добра была бачна яе галава. І што гэты сымбаль мог атаясамляць? Ад чаго бараніць?

— А глядзі, як усё пераплецена на гэтай зямлі, — сказала Тацяна. — Тысячы гадоў тут жылі людзі. Міналі цывілізацыйныя эпохі. Усё перайначвалася. І толькі людзі заставаліся тымі ж самымі, якімі і былі.

— Чаму ты думаеш, што тымі самымі? — спытаў я яе.

— Таму што ніякім чынам яны не мяняюцца. Іх жыцьцёвы ўклад зьмяняецца з часам. Але самі людзі застаюцца тымі ж самымі. Прынамсі, у бліжэйшым тысячагодзьдзі.

— Але яшчэ больш цікава тое, што на гэтай зямлі і паганства, і хрысьціянства талерантна суіснавалі побач доўгі час. Таму ў адным культурным пласьце, напрыклад, XIV стагодзьдзя, археолягі знаходзяць і

хрысьціянскія крыжы, і паганскія амулеты. Побач.

— А я не зьдзівілася б, каб і тое і другое насіў на сабе адзін і той жа чалавек. Для лесу і ракі ў яго адзін амулет. Для ўлады, гораду, людзей — нацельны крыжык. Так і жылі. Паміж лесам і горадам.

На рацэ нешта гучна плёхнулася.

— Ну во, хтосьці са мной пагаджаецца, напэўна шчупак, — пажартавала Тацяна.

* * *

Сабака зьняў нашыйнік, вызваліўся і застыў на месцы. Ранішні цень ад елкі дзяліў сабаку на дзьве часткі — асьветленую промнямі галаву і ўсё іншае, з тулавам, лапамі і хвастом, схаванае ў цені. Было ў гэтым малюнку штосьці містычнае, паганскае. Жывая галава, якая мружыла вочы і пра нешта думала.

Затым сабака зрабіў некалькі крокаў. Зноў спыніўся і прынюхаўся. Ад ракі цягнула цьвільлю і вільгацьцю. Даваў аб сабе знаць і яшчэ нейкі знаёмы пах, які то ўзмацняўся, то зьнікаў.

Сабака згадаў, як ён гуляў з маленькай дзяўчынкай. Дзяўчынцы было ўсяго 3—4 гады. Яна кожнай раніцы выбягала на ганак і адразу бегла да яго. Сьмяялася, цягала за вушы і за вусы. Часам было балюча і непрыемна, але сабаку падабалася і сама дзяўчынка, і яе голас, і яе блазнаватая любоў

да яго. Ён цярпеў, час ад часу робячы спробу лізнуць у твар. Дзяўчынкі не было ўжо гадоў пяць, а можа і шэсьць. Сабака добра ведаў, дзе яна зараз, і ад гэтага сум апаноўваў усю сабачую душу.

Раптам нешта засакатала, і на яблыневай галінцы зьявілася сарока. Убачыўшы сабаку, тая таропка ўзьляцела і зьнікла за гаражом. Сабака разьвярнуўся і закалдыбаў назад да будкі. Залез у яе і выцягнуў нешта, трымаючы ў пашчы. Гэта была старая брудная лялька. Менавіта яе некалі кідала сабаку дзяўчынка, а ён паслужліва вяртаў яе назад. Яна забірала ляльку ў сабакі і зноў кідала ў траву пад яблыню. Так яны маглі гуляць з паўгадзіны, пакуль дзяўчынка не стамлялася і не сыходзіла ў хату. Або яе клікала маці.

Сабака паклаў ляльку ў траву і прынюхаўся. Затым крутнуўся, зноў падхапіў ляльку і пабег у бок альтанкі. Побач зь ёю на сьцежцы грэлася на ранішнім сонцы вялізная вужака. Сабака ведаў, што вужака жыла пад альтанкай. Ён не баяўся зьмяі, але нейкае глыбокае, патаемнае пачуцьцё не дазваляла яму пераступіць халоднае доўгае цела.

Вужака млява хіснула галавой, відаць, адчуўшы побач нейкі рух. Сабака сышоў са сьцежкі і абмінуў зьмяю. Затым амаль паляцеў у самы аддалены прысядзібны кут. Менавіта тут ён апошні раз сустракаўся зь дзедам. Але нікога там не было.

Сонца ўжо нагрэла зямлю, і ад яе ішло прыемнае цяпло. Сабака спыніўся і пачаў

углядацца ў бок ракі. Туман над вадой амаль разьвеяўся, і ўся рачная прастора добра праглядалася.

Паглядзеўшы на раку, сабака паклаў лялькy на тое месца, дзе нядаўна стаяў дзед, і лёг побач з ёй. Ён заплюшчыў вочы і нібыта заснуў. Два разы цела сабакі нэрвова тарганулася. Але вочы ён не расплюшчыў. Магчыма, яму штосьці сьнілася.

* * *

Трэба добра ведаць Кастана Навадворскага, каб здагадацца, што загадзя, то бок хаця б за пару дзён да выхаду чарговай літстаронкі, ён ня будзе пісаць наступную частку свайго дэтэктыўнага апаведу. Кастан сеў за друкарку роўна за пару гадзінаў, калі нам трэба было здаваць нумар. Спачатку выканаў свой традыцыйны рытуал з цыгарэтай. Але гэтым разам выкінуў недапалак у вакно і сказаў: «Трэба раззлавацца». Навошта трэба раззлавацца, я не зразумеў, хутчэй за ўсё, патрэбны быў штуршок да працы. Кастан заклаў аркуш у друкарку, і творчы працэс авалодаў сябрам.

* * *

*Сьледчы Адам Цісковіч найперш наведаў два мясцовыя чыгуначныя вакзалы: Рыска-Арлоўскі і Мікалаеўскі. Вакзальным служачым сьледчы на словах апісаў партрэт забітага мужчыны, спадзеючыся, што нехта яго бачыў сярод пасажыраў. Ніхто не прыгадаў.*

*Варта было распытаць і каманды з параходаў, якія ходзяць у Дзьвінск і Віцебск, але адзін прыбудзе толькі ўначы, а другі — заўтра ўдзень.*

*Калі мужчыну забілі ў Полацку (нельга было адкідаць вэрсію, што цела да запалоцкага берагу прынесла цячэньне), дык нечым жа ён прыехаў у горад? І недзе ж спыняўся? Значыць, варта пагаварыць з пакаёўкамі гатэляў і гаспадарамі мэбляваных пакояў.*

*На гэтыя роспыты Цісковіч змарнаваў амаль цэлы дзень.*

*А пятай гадзіне ў мэбляваных пакоях «Брыстоль» сьледчага знайшоў хлопчык-пасыльны з паліцыі, які паведаміў, што яго шукаюць. У паліцыі Цісковіча чакаў начальнік запалоцкага прытулку Аляксей Валынец, мужчына гадоў сарака пяці, паўнаваты, з двайным падбародзьдзем. На лоб і добра паголеныя шчокі выхавацеля пэрыядычна накатваліся кроплі поту, якія той далікатна прамакаў хустачкай.*

*Пра здарэньне ў двары прытулку распавяла паліцыі кухарка сірочага дому, трэба было яшчэ раз пагаварыць з Валынцом.*

*— Я ўжо прыходзіў а палове адзінаццатай і распавядаў пану прыставу. Але мяне папрасілі прыйсьці яшчэ раз, — госьць гаварыў з непрыхаваным раздражненьнем у голасе, маўляў, такая ўжо тут справа, што мушу выбірацца ў цэнтар гораду другі раз на дзень.*

*— І што ў вас здарылася, Аляксей Васільевіч?*

*— Ды, Адам Мікадзімавіч, нічога нібыта і ня здарылася. Нехта сёньня ўночы перакапаў наш двор.*

*— Што значыць перакапаў?*

*— А тое і значыць. Прачнуліся ўраньні, а на дварэ нібы рыдлёўкай зямлю паперавалрочвалі. Дзірван парэзаны, зямля раскапана.*

*— І вялікая плошча перакапаная?*

*— Ня дужа каб, ўсё вакол вялікага каменя, што ў нас на двары зь зямлі вытыркаецца. Ды вы можаце і самі паглядзець.*

*— Паедземце, Аляксей Васільевіч.*

*Мужчыны селі ў брычку і накіраваліся па Рыскай вуліцы ўздоўж вала Івана Жахлівага на Чырвоны мост праз Палату. Аказаўшыся на правым беразе невялікай рачулкі, спрытны конік пакаціў экіпаж у Запалоцьце.*

*Зямля вакол вялікага валуна, які больш чым напалову ўрос у зямлю, сапраўды была пакапаная. Відавочна, тут нешта шукалі. Але чаму ўночы? Гісторыя выглядала таямнічай.*

*— І вы нічога ноччу ня чулі? — спытаў сьледчы ў Валынца.*

*— Ня чуў. Я распытаў усіх, хто начаваў у пакоях, вокны якіх выходзяць на гэты бок. Сабакі з суседніх дамоў брахалі, дык ніхто на іх не зьвяртае ўвагі. Тут па начах абавязкова нехта швэндаецца. Хто на працы затрымаўся, хто ў шынку.*

*— Не раўнуючы, скарб шукалі, — уголас выказаў вэрсію сьледчы.*

*— Які тут скарб! Сродкаў ледзь хапае пракарміць сіротаў, — Валынец чарговы раз прамакнуў твар і глыбока ўздыхнуў, напэўна, згадаў пра нейкія неадкладныя праблемы сірочага дому.*

*Адам Цісковіч разьвітаўся з начальнікам прытулку і накіраваўся ў адваротную дарогу.*

* * *

*Пасьля таго як Івана Зяновіча заінтрыгавала бацькава мапа Запалоцьця, ён вырашыў падчас жнівеньскага адпачынку наведаць Полацак. Іван дабраўся чыгункай да Віцебску, купіў квіт на параход і скіраваў у Полацак — ён даўно марыў пра гэткую выправу па Дзьвіне. На параходзе ён і пазнаёміўся з юнаком Ігнатам Смыкам, які вяртаўся дахаты, — хлопец вучыўся ў віцебскай фэльчарскай школе.*

*Часу на размовы было багата. Параход «Герой», на якім яны кіраваліся ў старую крыўскую сталіцу, мусіў скінуць трап на полацкі прычал толькі ўвечары.*

*Маладыя людзі сядзелі на палубе першай клясы, разглядалі прырэчныя краявіды і няспешна гутарылі. Неяк незаўважна размова перайшла на тэмы гісторыі.*

*— Усё ж Полацак — гэта каталіцкі горад, прынамсі, тое, што мы зараз маем, — гэта плён менавіта каталікоў, — задуменна пра-*

*мовіў Ігнат Смык. Ягоныя рэдкія, саламянага колеру валасы былі хаатычна разбэрсаны ветрам: хлопец спрабаваў іх утаймаваць рукой, але безвынікова.*

*— Ну ня толькі, але і ўніятаў таксама, — адказаў яму Іван Зяновіч. — Вось і Сафійскую царкву менавіта ўніяты аднавілі.*

*— І што з таго? Якім чынам гэта паўплывала на лёс гораду? — Ігнат ажывіўся, нібыта меў пэўныя перакананьні, якія мусіў бараніць.*

*— Уніяты працавалі з простымі людзьмі, зьвярталіся да іх на тутэйшай, зразумелай мове. Згодны, у іх не было вялікай падтрымкі сярод мясцовай арыстакратыі, ды і ў Варшаве таксама, таму здавалася, што яны былі на другім пляне, але ўніяты мелі пэрспэктыву зрабіцца вялікай сілай, народнай царквой.*

*— Аднак прыйшла расейская ўлада і разагнала ўніятаў... Пэрспэктыву яны мелі б, калі б гэты край набыў самастойнасьць. У нашай сытуацыі беларусы мусілі выбіраць паміж праваслаўем і лацінізмам, паміж пэрспэктываю захаду і пэрспэктываю ўсходу.*

*— Але гэта значыць — выбіраць ня свой лёс. Калі тутэйшыя людзі адчуюць патрэбу ва ўласным лёсе, дык зьмены пачнуцца імклівыя. Гэтым і трэба займацца — тлумачыць.*

*— І колькі часу давядзецца тлумачыць? Прасьцей і хутчэй зрабіў Стэфан Баторы.*

*Іван Зяновіч пасьміхнуўся. Ён узьняў вочы на суразмоўцу, затрымаў позірк, памаўчаў некалькі хвілін, напэўна, думаючы пра нешта асабістае, і годна прамовіў:*

*— А менавіта мой продак, полацкі кашталян Юры Зяновіч, разам з каралём Баторыем вызваляў ад маскавітаў Полацак.*

*— Праўда? — гэтае слова ў Ігната атрымалася расьцягнутым, зь нейкім таемным прыдыханьнем. — Але дзе вашыя маёнткі і землі? Няўжо вам нічога не дасталося ад тае перамогі?!*

*— У тым і праблема, што нічога не дасталося. Нават сямейная рэліквія, залаты кубак самога Баторыя, недзе згубіўся ў Полацку.*

*Маладыя людзі змоўклі. Кожны паглыбіўся ў свае думкі. А Ігнат Смык падумаў: «Напэўна, едзе ў Полацак шукаць кубак».*

*У Полацку маладыя людзі разьвіталіся, але дамовіліся абавязкова сустрэцца, Ігнат паведаміў новаму знаёмаму свой адрас.*

*Іван Зяновіч пераправіўся на пароме на іншы, левы бераг ракі ў Задзьвіньне, узяў рамізьніка і накіраваўся да сястры маці Клаўдзі Капцюг, якая жыла ў невялікім фальварку ў Казьянках. Муж Клаўдзі, Міканор Капцюг, працаваў справаводам на мясцовай тытунёвай фабрыцы і штодзень, акрамя суботы і нядзелі, езьдзіў у сваю кантору ў Полацак.*

*Першы дзень маскоўскі госьць нікуды з фальварку не выяжджаў.*

* * *

*Адам Цісковіч вельмі сур'ёзна паставіўся да незвычайнага здарэньня, якое адбылося на двары запалоцкага прытулку. Найперш яго насьцярожыла невялікая адлегласьць ад сірочага дому да месца знаходкі трупа. Нейкая сувязь паміж гэтымі зьвёнамі падзей мінулых сутак, відавочна, была. Але якая?*

*На другі дзень сьледчы працягваў роспыты сярод рамізьнікаў і гандляроў. Гандляр у адной з кнігарняў прыгадаў, што на мінулым тыдні мужчына з радзімкаю на скроні купіў у яго кнігу Івана Далгова «Полоцкий кадетский корпус». Маўляў, было відаць адразу, што чалавек не тутэйшы, бо цікавіўся выданьнямі па гісторыі Полацку.*

*З пачутай інфармацыі сьледчы Цісковіч зрабіў дзьве высновы: забіты прыехаў у Полацак амаль тыдзень таму; мужчына цікавіўся старасьветчынай. «А ці не прыехаў ён у Полацак шукаць скарбы?» Гэтая гіпотэза дазваляла аб'яднаць у адну справу і здарэньне ў прытулку.*

*Неўзабаве сьледчы ведаў і дакладную дату прыезду невядомага ў Полацак: капітан «Героя» паведаміў, што сапраўды малады мужчына з радзімкаю на скроні быў ягоным пасажырам, і, калі ён не памыляецца, гэта было 9 жніўня.*

*Капітан таксама згадаў, што прыехаў у Полацак гэты мужчына не адзін — разам зь юнаком з даўгімі сьветлымі валасамі.*

*Заставалася даведацца месца, дзе спыніліся госьці. Недзе ж, амаль тыдзень, яны жылі?*

* * *

— Гэта нейкае насланьнё, — абуралася Тацяна. — На градах нічога не расьце. Нават не ўзыходзіць. Тры разы рамантавалі ацяпленьне — усё адно належным чынам ня грэе. Ну нейкае насланьнё. Штосьці з гэтым домам ня так.

Мы сядзелі ў альтанцы. Я, Тацяна і яе сяброўка Галіна.

Сонца ўжо імкліва кацілася ў бок Рыгі. Недзе ў Балтыйскім моры яно мусіла схавацца, каб на раніцу зноў прыкаціцца ў Полацак, але ўжо з боку Віцебску. Як яно пасьпявала за ноч трапіць у Віцебск — было загадкай.

— Бяды той, — супакойвала Тацяну Галіна. — Ты ўсё адно зімой тут не працуеш. А грады тым больш табе не патрэбныя.

— Але хацелася б з гэтай хаты зрабіць штосьці прыстойнае. Бо чаму й не пажыць тут узімку. Паглядзі, якая навокал прыгажосьць. — Тацяна рукой паказала ў бок Дзьвіны. Зьнікаючае сонца разаслала па рацэ сваю залатую дарожку. І так гэта было прыгожа, што я выцягнуў свой кішэнны фотаапарат і пачаў фатаграфаваць.

— Калі так, то мусіш схадзіць да Марыі і спытаць пра дом, — Галіна сказала гэта неяк па-дзелавому і будзённа, нібыта пасылала да начальніка ЖКГ гораду Полацку.

— У сэнсе, да якой Марыі? — Тацяна дакладна ведала, што полацкі начальнік ЖКГ мужчына, а таму ніяк ня мог мець імя Марыя.

— Ёсць тут у Полацку адна жанчынка, якая ведае ўсё і можа табе дапамагчы, калі гэта па яе парафіі.

У гэты час да альтанкі падбег Жуль. Ён паклаў главу Тацяне на калені і паглядзеў ёй у вочы.

— Толькі цябе тут не хапала, — абурылася Тацяна на сабаку. — Ідзі ў будку.

Жуль не скрануўся. Толькі заплюшчыў вочы.

Тацяна саштурхнула сабачую галаву са сваіх каленяў.

— Хочаш, каб мае джынсы сьмярдзелі на ўсё Запалоцьце?! — Тацяна ўстала з крэсла і тупнула нагой. — Ну-ка, давай у будку! А то зараз навяжу.

Жуль падаўся назад і сеў.

— Ну чаго ты на яго сварысься? — заступілася за сабаку Галіна. — Няхай сабе слухае. Сумна яму цэлы дзень у будцы сядзець.

— Ну так, пагарачылася, — пасьміхнулася Тацяна, узяла са стала лусьцік з каўбасой і кінула Жулю. Той зь лёту злавіў пачастунак і імгненна пракаўтнуў.

— Добра, сядзі там, толькі не падыходзь блізка, трэба цябе на Дзьвіну звадзіць, памыць, — ужо лагодным голасам прамовіла Тацяна і, зьвяртаючыся да Галіны, спыта-

ла: — Дык што ты там казала пра нейкую жанчыну?

* * *

— Ну й чаго ты не выказваеш ніякіх думак пра мой твор? — спытаў Кастан.

Мы сядзелі за сваімі працоўнымі сталамі і думалі — чым запоўніць новы нумар газэты. Кастан схіліўся над новай брашуркай з крыжаванкамі. А я чытаў Кастанэду.

— Пра які твор?

— Ну як пра які. Пра «Тапельца».

— А, пра «Тапельца». Ну, па-першае, ты яго яшчэ не дапісаў да канца. Па-другое, па-мойму, задужа непраўдападобна пакуль.

— У сэнсе?

— Ну нейкі схематычны твой сьледчы. Штосьці ты пад Сымэнона косіш.

— А што, толькі ў Парыжы можа быць кемлівы сьледчы? Разумееш, мы самі павінны ствараць мастацкую рэальнасьць. Сёньняшні рэальны Парыж, зь ягонымі мітамі і легендамі, стварылі францускія пісьменнікі дваццатага стагодзьдзя. А чаму нам не стварыць мітычную рэальнасьць Полацку? Наш горад мае дастакова гістарычнага матэрыялу, каб выканаць гэтую працу. Таму й пішу пра Полацак. Таму й у жанры дэтэктыву. Бо гэта самы дэмакратычны жанр, які лёгка ўспрымаецца чытачамі любых сацыяльных слаёў.

— Ну добра. А ў чым сэнс пошуку кубка Стэфана Баторыя? Тут проста прага да

багацьця? Ці гэты кубак — як сымбаль чагосьці?

— Ну, складанае пытаньне. Відаць, хутчэй сымбаль. Хоць усе дэтэктывы кружляюць вакол грошай і багацьця. Таму я мусіў трымацца канону. Разумееш, кубак Баторыя сапраўды сымбаль. Па-першае, сымбаль вызваленьня Полацку ад маскавітаў. Па-другое, сымбаль мужнасьці й адвагі аднаго чалавека, які сваім учынкам зьмяніў, ну не ходу гісторыі, але ходу падзеяў. І па-трэцяе, гэта сымбаль роду — калі нейкая рэч перадаецца з аднаго пакаленьня ў другое і зьяўляецца яго галоўнай рэліквіяй.

— То бок ты ў сваім творы хочаш сказаць, што, згубіўшы рэліквію, род Зяновічаў пачаў занепадаць, гэтаксама як і яго Бацькаўшчына? І толькі мужны ўчынак нейкага чалавека можа зьмяніць ходу падзеяў?

— Ну, прыкладна, так. Толькі, як сказаў паэт: «Ёсьць выканаць каму загад, няма каму змагацца разам».

* * *

Тацяна пачапіла Жулю на нашыйнік ланцужок і павяла да Дзьвіны.

— Я чалавек слова, абяцала цябе памыць, вось і прыйшоў, нарэшце, той час, — сказала яна сабаку, які ад радасьці заскакаў ва ўсе бакі.

— Толькі без асаблівых эмоцыяў і лізаньня, — сувора папярэдзіла Тацяна ахоўніка сядзібы.

Яны выйшлі са свайго завулку на галоўную вуліцу Запалоцьця й рушылі ў бок мастка да Сафійкі. На масток не ўзьняліся, а спусьціліся ўніз — да сутокі Палаты з Дзьвіной. Жуль намагаўся йсьці стрымана, без рыўкоў і сабачага хваляваньня. Але па яго вачох было відаць, што зараз даў бы лататы з усіх чатырох лап у бок вялікай ракі.

Тут амаль нікога не было. На супрацьлеглым беразе Палаты ўздоўж берага да мастка ішоў хлопец з дзяўчынай. Бліжэй да Дзьвіны, бо трава там не такая густая і высокая, дакладней там ужо не было аніякай травы — толькі пясок, Таццяна заўважыла вялікі саламяны капялюш. Зрабіўшы яшчэ крокаў дзесяць-пятнаццаць, пабачыла бабульку, якая сядзела на зэдліку і чытала кнігу. Таццяна неаднойчы сустракала яе тут — тая пасьвіла сваіх чатырох коз, якія блукалі па беразе, але нідзе не маглі згубіцца — з аднаго боку была рака, а з другога — платы сядзібаў запалачанаў.

— Добры дзень! — павіталася Таццяна з бабулькай, калі параўнялася зь ёй.

— Добры! — адказала бабулька, адарвалася ад чытаньня і пачала разглядаць парушальнікаў яе самоты.

Таццяна прамінула бабульку і адразу, не здымаючы сланцаў, зайшла па калена ў раку. Для сабакі гэта было значна вышэй калена. Вызваляць ад ланцужка ахоўніка сядзібы Таццяна не зьбіралася, бо ведала, што той па-

чаў бы, як шалёны, наразаць кругі і наўрад ці пагадзіўся б вяртацца дахаты ў бліжэйшыя 3—4 гадзіны.

Тацяна нахілілася і пачала абліваць сабаку вадой. Той толькі мружыў вочы і пэрыядычна атрэсваўся, пырскаючы вадой на гаспадыню. Тацяне гэта, зразумела, не падабалася. Яна сварылася на сабаку. Але той толькі пракудліва мружыў вочы і зноў атрасаўся, нібыта знарок.

За ўсім гэтым зь цікавасьцю назірала бабулька.

Калі Тацяна і Жуль выйшлі на бераг і параўняліся з бабулькай, тая запыталася:

— А гэта ваш сабака?

— Вядома, мой, калі я прыйшла зь ім, — з усьмешкай адказала Тацяна.

— Разумны сабака, — неяк дзіўна прамармытала бабулька.

— Чаму разумны? — Тацяна чакала пачуць што заўгодна пра свайго шкодніка-сябра, нават скаргу, але ня гэта.

— Таму што шмат ведае, — яшчэ больш загадкава адказала бабулька і вярнулася да чытаньня.

* * *

Верабей прамахнуўся і ледзь не пратараніў дзюбай глебу. Матыль зрабіў манэўр вышэйшага пілятажу — рэзка ўніз амаль да самай зямлі і крута ўверх. Аэрадынамічныя здольнасьці вераб'я, відаць, не былі разьлі-

чаныя на такія крутыя віражы. Птушка пасьпела выканаць функцыю прызямленьня, выпусьціўшы наперад лапкі-шасі. Паляваньне скончылася няўдачай. Верабей зрабіў некалькі рухаў галавой, нібыта панаракаў — вось, ізноў не пашанцавала. Узьляцеў і зьнік за кустом бэзу.

Суседзкая котка Багіра як цень прамільгнула паміж кустоў парэчак і агрэсту. Летам яна зноў рабілася старожкай і таямнічай. Хоць зімой круцілася ля самых ног і выпрошвала якой-кольвечы спажывы. Нават дазваляла сябе палашчыць.

Галава вужакі высірнула з-за хломазду вецьця, якое штогод наганяе паводка пад альтанку. Як кіплінгаўскі Каа, вужака мудра аглядзела наваколье. Над Дзьвіной нястомна лёталі дзьве кірлі. Час ад часу яны пікіравалі ў раку, але ці ўдавалася ім штосьці выхапіць з рачной плыні, невядома. Бо яны лёталі і лёталі. І ніякіх авосек для рыбы ў іх з сабой не было.

Вужака нетаропка выпаўзла з-пад кучы вецьця і папаўзла ў бок ракі. Ці то на паляваньне, ці проста прыняць водныя працэдуры. Усе тутэйшыя мышы і жабкі ў жаху пазашываліся ў гушчары прыбярэжнай травы і сядзелі там здраньцьвела і незварушна, усім цельцам адчуваючы жахлівы шоргат зьмяінай лускі аб зямлю.

Калі вужака дапаўзла да сьцежкі, якая вілася ўздоўж берага ракі, яна прыпыніла-

ся. Як быццам штосьці згадала або некага сустрэла. І тут здарылася незразумелае: вужака ўзяла ўправа і абмінула абсалютна роўнае, чыстае месца на сьцежцы. Нібыта нешта або некага напаткаўшы на ім.

* * *

*Пляменьніка з Масквы ў Казьянках прымалі гасьцінна. Толькі на другі дзень Іван Зяновіч здолеў выбрацца ў Полацак. У горад яго падвёз на сваёй брычцы дзядзька Міканор. Меў ён гадоў сорак ад роду, шырокі ў плячах, з моцнымі вялікімі рукамі. Голас ягоны гучаў груба — з хрыпатой. Твар меў чырвоны — як у людзей, якія шмат працуюць пад адкрытым небам. Міканор аніяк ня быў падобны на клясычнага справавода. Іван ведаў, што ў маладосьці дзядзька ганяў плыты па Дзьвіне, аднак не плытагонам, а наглядчыкам за работнікамі і таварам. За гэта яму добра плацілі. Празь нейкі час Міканор набыў невялікі фальварак у Казьянках, ажаніўся, пачаў працаваць на тытунёвай фабрыцы ў таго самага полацкага габрэя Янкеля Рыўліна, якому некалі сплаўляў лес у Рыгу, які зрабіў яго сваёй правай рукой.*

*У Капцюгоў былі позьнія дзеці — два хлопчыкі васьмі і пяці гадоў. Прыгожыя, кемлівыя — чыстыя анёлы.*

*Па дарозе ў Полацак дзядзька Міканор пачаў распытваць пра жыцьцё ў Белакаменнай. У адказах пляменьнік быў нешматслоўны.*

*— Вось так і выпхнулі Зяновічаў з роднай зямлі! — сказаў дзядзька, выслухаўшы сьціслы аповед маскоўскага сваяка.*

*— Бадай што выпхнулі, — пагадзіўся апошні прадстаўнік Зяновічаў.*

*— А залаты кубак хоць захаваўся? — нечакана спытаў Міканор, відавочна, маці Івана нічога не распавяла сястры аб прапажы.*

*— Я за ім і прыехаў, — упэўненым голасам, як кажуць пра тое, што доўга абдумвалася перш чым прыняць рашэньне, адказаў пляменьнік.*

*Затым ён распавёў дзядзьку гісторыю пра страту кубка. Напрыканцы дадаў, што мае сваю вэрсію адносна таго, дзе кубак Баторыя зараз. Маўляў, спачатку ўпэўнюся, а затым паведамлю.*

*Іван Зяновіч разьвітаўся зь дзядзькам на Катэдральным пляцы. Той паехаў да сябе ў кантору, а маскоўскі госьць, уздоўж Мікалаеўскага сабору і будынкаў Кадэцкага корпусу, пашыбаваў на Верхні замак. З гары над ракою Іван палюбаваўся краявідамі — унізе Палата імкліва ўразалася сваёй «стронгавай» няўрымсьлівасьцю ў велічную Дзьвіну. Усё тут было знаёмае зь дзяцінства.*

*З дапамогаю паромнай пераправы Іван апынуўся ў Запалоцьці. Махіроўскай вуліцай ён пакрочыў у цэнтар пасаду, дзе, сярод драўляных дамкоў, стаяў цагляны будынак сірочага дому. Праз пяць хвілін ён ужо бачыў вакно пакоя, у якім некалі жыў сам.*

*Зьвяртаць на сябе ўвагу мясцовых жыхароў было не ў ягоных інтарэсах. Таму Іван папросту прыцішыў хаду і пачаў пільна аглядаць двор прытулку. Там, дзе на мапе быў намаляваны крыжык і літара «К», ляжаў вялізны валун, напалову схаваны ў зямлю.*

*Літара «К» магла азначаць і «камень». Але навошта было бацьку пазначаць валун? Іх у Запалоцьці шмат. Тады чаму на мапе пазначаны толькі гэты? «Ці не закапаў ён пад ім кубак?» Гэтая думка пачала зумкаць у галаве як заляцелы ў пакой авадзень, шукаючы выйсьця на волю.*

*Вярнуўшыся ў Казьянкі, Іван пачаў распрацоўваць плян. Наступнага дня ён застаўся ў фальварку — трэба было вызначыцца са стратэгіяй.*

*Шукаць кубак прыйдзецца ноччу. Было б някепска, каб быў памагаты.*

*На пытаньне дзядзькі Міканора пра кубак Іван адмоўна пахітаў галавой. Чамусьці браць яго з сабой на пошукі сямейнай рэліквіі пляменьніку не хацелася. Іван адчуваў, што дзядзька ў душы абвінавачваў Зяновічаў у мяккацеласьці і недзелавітасьці. Вось ён — іншая справа! Калі б гэта Міканор Капцюг меў тую маёмасьць, што належала некалі Зяновічам, дык не прафукаў бы яе нізавошта. Зубамі б грыз, але не прафукаў!*

*Гэтая прыхаваная пыха дзядзькі крыўдзіла самалюбства Івана. Малады Зяновіч быў упэўнены, што адшукае кубак безь яго дапа-*

*могі і гэтым прадэманструе былому сплаўшчыку леса, чаго вартыя Зяновічы.*

*13 жніўня Іван зноў паехаў у Полацак. Гэтым разам яго падвёз на брычцы работнік Капцюгоў — сівы Габрусь.*

*У цэнтры гораду Іван пачаў шукаць Плігаўскую вуліцу, на якой жыў Ігнат Смык. Студэнта з параходу «Герой» ён засьпеў дома. Яны парукаліся як старыя сябры. Юнак запрасіў Зяновіча на гарбату. Бацькоў Ігната ў кватэры не было, летам яны жылі ў сваім загарадным доме.*

*— Ці пазналі, Іван Сьцяпанавіч, Полацак? Дзе былі? Што бачылі? — Ігнат засыпаў пытаньнямі госьця.*

*— Быў на Катэдральным пляцы, на Верхнім замку. Вось набыў кнігу Далгова пра Кадэцкі корпус. Па-ранейшаму, кожны куток Полацку дыхае мінуўшчынай. Сучаснасьці заўважыў мала.*

*— Маеце рацыю. Сучаснасьць Полацак абмінае. Няўхільна крыўская сталіца ператвараецца ў сярэднестатыстычнае мястэчка.*

*— Полацкія скарбы разрабаваныя, а тое, што ня здолелі чужынцы адсюль павывозіць, схавана недзе глыбока і надзейна.*

*— Як, напрыклад, кубак Баторыя, — гэтыя словы Ігнат прамовіў голасам чалавека, які далучаны да вялікай таямніцы.*

*Іван сумеўся, запытальна зірнуў на будучага фэльчара і сказаў:*

*— Спадзяюся, кубак папросту чакае свайго законнага ўладальніка.*

*— І я гатовы вам дапамагчы вярнуць сямейную рэліквію.*

*Госьць падаў юнаку руку, і яны абмяняліся моцным мужчынскім поціскам далоняў.*

*Таго ж дня хаўрусьнікі абмеркавалі плян пошуку кубка. Аднак Іван не паведаміў дэталі апэрацыі, сказаў толькі, што на справу выйдуць ноччу і пры сабе трэба мець рыдлёўку. Прызначыў таксама час і месца сустрэчы.*

*Ігнат не задаваў лішніх пытаньняў.*

** * **

*Начальнік запалоцкага прытулку Аляксей Валынец схлусіў паліцыянтам — насамрэч ён бачыў тых людзей, якія капалі рыдлёўкай у двары сірочага дому. Нават больш таго — ён зь імі размаўляў.*

*Недзе а першай гадзіне ночы Валынец пачуў падазроны шум. Ён апрануўся і ціха выйшаў на двор. Было цёмна, аблокі схавалі месяц і зоркі. Але ён разгледзеў невядомых людзей, якія капалі зямлю ў двары.*

*— А што вы тут робіце? — спытаў ён такім голасам, якім звычайна зьвяртаўся да сваіх выхаванцаў, калі хацеў навесьці парадак.*

*Ягонае нечаканае зьяўленьне перапужала двух мужчын, якіх Валынец засьпеў за незвычайнай працай. Яны нават памкнуліся бегчы,*

*але, прыкмеціўшы, што да іх набліжаецца толькі адзін чалавек, засталіся на месцы.*

*— Дык што вы тут робіце? — паўтарыў сваё пытаньне начальнік прытулку.*

*Наперад выйшаў адзін з начных капальнікаў, перад гэтым перадаўшы рыдлёўку таварышу, і прыцішаным голасам сказаў:*

*— Я Іван, сын Сьцяпана Зяновіча. Вы павінны мяне памятаць, Аляксей Васільевіч. Пад гэтым каменем бацька схаваў адну рэч, якая вельмі важная для нашай сям'і. Зьяжджаючы з Полацку, мы ня здолелі яе забраць. І вось я вярнуўся.*

*— І што гэта за рэч? — гэткім жа настаўніцкім голасам спытаў Валынец.*

*— Гэта кубак, які зьяўляецца нашай сямейнай рэліквіяй. Я прашу дазволіць нам адшукаць яго.*

*Валынец ня ведаў, як сябе паводзіць.*

*Начальнік прытулку не любіў выхавацеля Сьцяпана Зяновіча, як ня любяць людзі няўдачнікаў. Быць прадстаўніком магутнага роду — і застацца ля разьбітых начовак! Раздражнялі таксама ягоныя ўсюдыісныя маральныя прынцыпы і праўдалюбства. Колькі з-за гэтага Валынец нацярпеўся, колькі меў непрыемнасьцяў. Вядома, і ён псаваў кроў гэтаму безграшоваму арыстакрату. Калі Сьцяпан Зяновіч памёр, дык Валынец адчуў нават палёгку. Літаральна праз тыдзень пасьля пахаваньня ён загадаў сям'і высяляц-*

*ца з пакоя, маўляў, неўзабаве прыедзе новы настаўнік.*

*Хоць і было цёмна на двары, але Валынец добра разгледзеў падабенства Івана да свайго бацькі. Начальнік прытулку нават зьлякнуўся, як убачыў яго твар, — ці ня ўстаў Сьцяпан з магілы, каб паквітацца зь ім.*

*— І як доўга вы будзеце псаваць наш двор? — гэта адзінае, што ён здолеў прыдумаць за лічаныя сэкунды.*

*— Пакуль ня знойдзем, — адказаў Іван Зяновіч.*

*— А калі я вам не дазволю, — раўналежна з прамаўленьнем гэтых слоў у галаве Валынца зьявілася думка: «Я і сам змагу адшукаць ваш кубак».*

*— Дазволіш, нікуды ня дзенесься, — нечакана, як пярун сярод яснага неба, грымнуў ззаду Валынца грубы, сіпаты голас, у гэты ж самы час у сьпіну нешта балюча кальнула.*

*Валынец не памыліўся — гэта быў лёгкі, толькі каб застрашыць, дотык вастрыя нажа.*

* * *

— Як думаеш, які галоўны міт Полацку? — спытаў мяне Кастан, калі мы разам вярталіся з працы.

— Думаю, пра князя Ўсяслава Чарадзея, — адказаў я адразу, не раздумваючы.

— А чаму так думаеш?

— Тут усё проста. Па-першае, пра яго напісана ў «Слове аб палку Ігаравым». Па-другое, яго асоба дабра міталягізавана ў літаратуры. Пра Ўсяслава хто толькі не пісаў — ад Ларысы Геніюш да Ўладзімера Арлова. Па-трэцяе, уся гэтая міталёгія ўжо замацаваная ў бронзе ў якасьці коннага помніку.

— Можа, і маеш рацыю... толькі ва ўсёй гэтай гісторыі адна дзіўная рэч.

— Якая?

— А дзе пахаваны вялікі князь полацкі, пра якога ў XI стагодзьдзі ведала ўся Ўсходняя і Цэнтральная Эўропа?

— Як пісалі ў некаторых «пахаронках»: месца пахаваньня на сёньняшні дзень невядома.

— А табе не падаецца дзіўным, што не захаваліся зьвесткі пра месца пахаваньня такой значнай асобы ў легендах і паданьнях.

— Хочаш сказаць, што Ўсяслаў не памёр, а жыве па сёньня? — гэты жарт у мяне атрымаўся экспромтам.

— Хачу сказаць, што з полацкай гісторыяй зусім кепска, калі да сёньня невядомыя такія рэчы. Пра што гэта можа сьведчыць? А пра тое, што сярэднявечная полацкая цывілізацыя, як яе называў Вацлаў Ластоўскі, была настолькі адрознай ад усяго навакольнага, што была ў наступных гадах вытручана прыбышамі пад корань. Бо была ім чужая і варожая. Таму не захаваўся ні пантэон полацкіх князёў, ні нават магіла хрысьціцеля і перша-

га хрысьціянскага сьвятога Полацкай зямлі Торвальда Вандроўніка. У XII стагодзьдзі, пасьля сьмерці Торвальда, хрысьціянскі свет на гэтых землях толькі ўмацоўваўся. Каму і навошта трэба было руйнаваць пахаваньне хрысьціянскага сьвятога?

— Гэтыя думкі ў цябе нараджаюцца падчас напісаньня дэтэктыву?

— Гэтыя думкі даўно не даюць мне спакою. Штосьці за гэтым стаіць загадкавае. Ніяк не магу гэтую загадку лягічна разгадаць.

— Калі згадаць розныя гісторыі пра тое, як зьяўляліся людзям і дапамагалі сьвятыя, якія ўжо не жылі на гэтым сьвеце, то, магчыма, і Торвальд недзе тут, у Полацку.

— Хто ведае, хто ведае...

* * *

— Наслухаесься тут, хоць ты паляўнічых на прывіды выклікай.

Тацяна малявала кардон — эскіз, па якім затым тчэцца габэлен — на вялікім аркушы шэрай абгортачнай паперы, якую разаслала на падлозе хаты-майстэрні. Яна поўзала на кукішках і адмысловым вуглём для маляваньня рабіла першыя накіды.

— І што ты мяркуеш гэтым разам выткаць? — спытаў яе я.

— Пра тое, як можна адчуць на сваіх крылах залатую цеплыню.

— Ну і як можна?

— Пабачыш.

З чорных рысаў, якія яна пакідала на паперы, немагчыма было зразумець, што ж у рэшце рэшт з гэтага можа атрымацца.

— І што наконт парады Галіны? Ці сходзіш да той кабеты? — Я адчуваў, пра што яна зараз думае.

— Ведаеш, у мяне цікавасьць выклікае хутчэй сама тая кабета. Ужо начутая пра яе прароцтвы і гаданьні.

Раптам Тацяна выпрасталася і падышла да вакна.

— А хто там у нас па двары ходзіць? — трывожна спытала яна.

— З чаго ты ўзяла?

— Адчула рух ценю. Схадзі, паглядзі.

Я выйшаў на ганак. Нікога перад хатай не было. З адваротнага боку хаты таксама нікога. Пагледзеў за плот. Уздоўж ракі гнала сваіх коз бабуля. І тут падумалася: а дзе наш Жуль? Бо хто, як ня ён, павінен адказваць за прапускны рэжым сядзібнай тэрыторыі. Скіраваўся да будкі. Сабака на працоўным месцы адсутнічаў. Я паклікаў. Не адгукнуўся, не прыбег. Выглядала, што вартаўнік пост пакінуў. Увогуле такое здаралася пэрыядычна. Але звычайна ў той час, калі гаспадароў няма на сядзібе. Бо трэба ж дэманстраваць сваю прафэсійную прыдатнасьць.

Бакавым зрокам я заўважыў, што на вершаліне елкі сядзела сарока.

## ЧАСТКА ЧАЦЬВЕРТАЯ

Рачулка выкрутасіста пятляла ў сваёй абалоне зусім побач — ня больш дзесяці хвілінаў нясьпешнай дзіцячай хады ад пад'езду бацькоўскага дому. Яна была амаль хатняй. З раніцы ідзеш на рыбалку, абедаць вяртаесься дахаты і зноў зьнікаеш з вудамі да самага вечару. Дакладней, да вячэры.

Побач са сваім домам трэба заўжды мець раку — так мне ўяўлялася зь дзяцінства. Навошта рака ў дарослым веку? Гэткае пытаньне ў мяне яшчэ не ўзьнікала. Рака — як працяг тваёй дзіцячай прасторы. Гэта значна лепш, чым розныя сучасныя кампутарныя гульні і мультсэрыялы. Але гэтая прастора абавязкова мусіла знаходзіцца побач з домам. Дом і рака павінны быць злучаныя пупавінай.

І тады дом робіцца працягам ракі, а рака — працягам дома.

І толькі пазьней, калі пройдзе шмат гадоў, ты зразумееш, што нічога ня вечна ў гэтым сьвеце, і самае трагічнае — і дом, і нават рака. Не, рака так хутка не зьнікае. Але робіцца іншай. І ты, наведаўшы праз шмат гадоў свае родныя мясьціны, ледзь пазнаеш яе. Цябе зьдзіўляе ня тое, што яна стала значна плытчэйшай — з мосту ты бачыш дно ў любым месцы ракі, — але нейкай чужой, неахайна зарослай водарасьцямі, са

зьніклымі стромкімі берагамі, зь якіх раней можна было даваць нырца ў ваду. І самае дзіўнае, нечаканае і неверагоднае — ты з прыкрасьцю заўважаеш, што яна зьмяніла канфігурацыю свайго рэчышча. Ты не пазнаеш гіерогліфы, якія рачулка пакідала ў абалоні за часамі твайго дзяцінства. Няма той вытанчанасьці, той дакладнасьці прамалёўкі вялікага майстра.

Але ўсё адно ты любіш гэтую раку. Хоць, як кажуць мясцовыя рыбакі, у рачулцы амаль зьніклі галаўлі і ліні — твая любімая рыба дзяцінства. Калі няма ў рачулцы гэтай рыбы, то што тут рабіць і табе.

Ты ня верыш пабачанаму, мусіш яшчэ раз пераканацца. Увечары зноў ідзеш да рачулкі шукаць страчанае. Шэрань паціху затушоўвае далягляд. Зьмярканьне насоўваецца так хутка, як у кінатэатры твайго дзяцінства зьнікала сьвятло. Яно цьмянела паступова, і табе тады здавалася, што задужа паступова. Але насамрэч гэтае зьмярканьне доўжылася ня больш за хвіліну. І пачынаўся спачатку кіначасопіс. Часам пазнавальны і займальны. Напрыклад, пра тое, што ня варта верыць розным шарлатанам, якія абвяшчаюць сябе празарліўцамі і чараўнікамі. Нават могуць паказаць, як праводзяць над імі вопыты. Як яны памыляюцца, як нічога ў іх не атрымліваецца. Поўны канфуз. І дыктар сталёвым, упэўненым голасам выкрываў шарлатанаў

і навучаў гледачоў ня верыць у розныя містыфікацыі і прыдумкі цёмных людзей.

Але як ня верыць рачулцы, якая ўмее гаманіць? І ты, амаль у змроку, які шчыльна ахутвае навакольле, пазнаеш гэты голас. Хо, думаеш, ня вер вачам сваім. Сутнасьць хаваецца недзе за візуальным. Яе немагчыма ўбачыць. Яе можна адчуць шостым, сёмым, нейкім іншым пачуцьцём, якое ня мае назвы, якое немагчыма патлумачыць і апісаць.

* * *

Мы ляжалі з Кастанам у траве і глядзелі ў неба. Па небе беглі бухматыя аблокі. Гаваркія вольхі штосьці нам нашэптвалі, але мы ня слухалі іх. Нас удвох пакінулі на гаспадарцы. Усе астатнія на чаўнах зьехалі па дабычу — па рыбу. Перад гэтым мы супольна заснавалі букмэкерскую кантору і ўсё паставілі на сваіх магчымых пераможцаў.

Штогод наша сябрына выбіралася на адну з выспаў, якіх шмат на беларускіх азёрах, і там жыла некалькі дзён. Гэтым разам мы атабарыліся на высьпе возера Нешчарда. Таго самага, легендарнага, зь берагоў якога паходзіць галоўны чараўнік беларускай літаратуры Ян Баршчэўскі.

Мы з Кастанам ляжалі ў траве і не зьбіраліся ў бліжэйшую гадзіну нічым займацца.

— Ты можаш сабе ўявіць, як тут, на высьпе, жылі людзі? Гэта табе нават ня хутар.

Вакол вада. А выспа невялікая, — разважаў Кастан, гледзячы ў неба.

На высьпе дакладна раней жылі людзі, пра што сьведчылі рэшткі падмурка хаты.

— Затое ні табе старшыні калгаса, ні нават брыгадзіра. Сам сабе гаспадар, — падтрымаў я разважаньні сябра.

Мне сапраўды было цікава ўявіць, як тут жылі людзі. Сярод возера. Рабінзоны Крузы з уласнага жаданьня.

— Але, як на маю думку, сумнавата. — Кастан прыбіў на сваім жываце авадня — мясцовыя інсэкты, відавочна, былі не задаволеныя нашым лайдацтвам.

— Гэта ж ня сёньняшняе жыцьцё, калі ў выходны прачнуўся і ня ведаш, чым заняцца. У часы натуральнай гаспадаркі не было вольнага часу. Хіба што зімой. Але і тады хатніх жывёл і птушак пакармі, дроў нарыхтуй, сена прывязі зь вялікай зямлі — справа заўжды знойдзецца.

Гэтае возера мне ўяўлялася вялікай грамафоннай кружэлкай, на якой запісаны тысячы, мільёны розных гісторый, песень, легенд, чалавечых лёсаў. Толькі дзе ўзяць такі прайгравальнік, на якім можна праслухаць усё гэта? Хіба Ян Баршчэўскі быў апошнім з мясцовых магіканаў, хто меў да гэтай крыніцы інфармацыі неабмежаваны доступ.

— Цікавы яшчэ і міталягічны бок іх жыцьця.

— У сэнсе? — спытаў я сябра. — Ты хочаш сказаць, ці верылі яны ў дамавікоў і прывідаў?

— Ну штосьці такое.

— Думаю, яны хутчэй верылі ў вадзяніка і лесавіка, якія маглі ўплываць і на іх гаспадарку, і на ўласныя лёсы. А ўрэшце пра тое, у што яны верылі, можна прачытаць у Яна Баршчэўскага. Хто-хто, а гэты чарадзей слова меў багатыя веды ў фальклёрна-міталягічнай справе.

Далей нашую эзатэрычную гаворку прыпынілі мясцовыя інсэкты, якія з падвойным імпэтам заатакавалі двух лайдакоў, што ляжалі ў траве на высьпе возера Нешчарда. Мы паўскоквалі на ногі, адбіваючыся ад ваваднёў, і пасунуліся да намётаў за вопраткай. Далей трэба было навесьці хоць нейкі парадак у лягеры, разьвесьці вогнішча, згатаваць вэрмішэляў па-флоцку і чакаць рыбу для юшкі.

У рыбным спаборніцтве перамог адзін наш сябар, які адразу накіраваў свой човен у вёску Мурагі і купіў там у мясцовых вядро рыбы.

* * *

І заўтра, і пасьлязаўтра, і пасьляпасьлязаўтра Жуль не аб'явіўся. Ён зьнік. Раней такога ніколі не здаралася. Сабака мог пакідаць сядзібу, але на некалькі гадзін, максымум на дзень. А тут прайшло пяць дзён, а Жуль не падаваў знаку.

Па-за тэрыторыяй сядзібы з сабакам магло здарыцца што заўгодна: мог трапіць пад машыну, маглі загрызьці бадзячыя супляменьнікі, мог патрапіць да скурадзёраў, ды й мала яшчэ чаго.

Тацяна штодзень гатавала Жулю харчовую пайку, а ўвечары вымушана была яе аддаваць суседзкім барбосам. Яна прайшлася па Запалоцьці і параспытвала тутэйшы люд. Ніхто нічога канкрэтна сказаць ня мог. Хтосьці бачыў чорнага вялікага сабаку, але калі і пры якой нагодзе — не памятаў. І толькі бабуля, што пасьвіла коз уздоўж ракі, паведаміла, што бачыла, як Жуль пераходзіў па мосьце на другі бераг. Можа, у Экімань падаўся, можа, на Востраў. Але там яго шукаць было бессэнсоўна.

Жуль прыйшоў праз тыдзень. Ён моцна кульгаў на пярэднюю правую лапу. У левага вуха не хапала надвершша, відавочна, хтосьці яму тое вуха добра патрапаў.

Сабака пазьбягаў глядзець у вочы. Ён моўчкі, апусьціўшы галаву, пракалдыбаў да сваёй будкі і схаваўся ў сярэдзіне.

— Уяўляеш, наш валацуга аб'явіўся, — сказала Тацяна, зайшоўшы ў хату. — Але паглядзі на яго — ледзь жывы. Абдзёрты, пабіты. Нібыта з Грунвальдзкай бітвы вярнуўся.

— І дзе ён?

— У будку схаваўся.

Я выйшаў на двор. Падышоў да будкі. Сабака ляжаў на дашчанай падлозе, паклаў-

шы галаву на лапы. Левае вуха яшчэ крывавіла. На мяне ён зіркнуў адным вокам і замружыўся. Маўляў, не турбуй, не да цябе зараз.

На ягоным нашыйніку я заўважыў прывязаную вузкую чырвоную стужачку. Паспрабаваў да яе дацягнуцца і адвязаць. Але Жуль глыбей схаваўся ў будцы.

* * *

*Скончваўся другі дзень росшукаў, а Адам Цісковіч усё яшчэ ня меў ніякай вэрсіі забойства. Ні ў адным полацкім гатэлі або ў мэбляваных пакоях малады мужчына з радзімкай на скроні не спыняўся. Паніч, як назваў для сябе Адам забітага, мог жыць у знаёмых або сваякоў, аднак ніхто з палачанаў не паведаміў у паліцыю пра раптоўнае зьнікненьне свайго госьця.*

*І гэтае капаньне зямлі ў двары прытулку. Ці мела яно сувязь з забойствам? Ды й Валынец падаўся дзіўным. Як быццам нешта ўтойваў. Чаму яго раздражнялі роспыты пра здарэньне?*

*Капітан «Героя» кажа, што незнаёмы прыехаў у Полацак зь юнаком. Гэтая інфармацыя таксама не станавілася ў ланцуг падзей. Юнак мусіў ужо абʼявіцца ў паліцыі. Калі толькі ня ён і ёсьць забойца.*

*Трэба шукаць юнака.*

*І раптам Цісковіч згадаў, што яшчэ не размаўляў з запалоцкім паромшчыкам. Ён сеў у брычку і зноў накіраваўся ў Запалоцьце.*

*Паромшчык Іван Кундалевіч нібыта чакаў яго на запалоцкім баку. Ён сядзеў на беразе і курыў самакрутку. Жадаючых патрапіць на іншы бок ракі не было.*

*Павітаўшыся з паромшчыкам, сьледчы пачаў распытваць пра падзеі 13 і 14 жніўня. Нічога адметнага Кундалевіч згадаць ня мог. Маладога мужчыну з радзімкай на скроні ён ня бачыў і на сваім пароме не перавозіў.*

*— А ўвечары 13 жніўня нічога незвычайнага не назіраў? Можа, хто па Дзьвіне на лодцы плыў? Ці хто па запалоцкім беразе гуляў?*

*— Плавалі. Бачыў, праўда, здалёк. Позна ўвечары, ужо зьмяркалася. Добра не разгледзеў. Яны з задзьвінскага боку прыплылі, ад Крыўцовага пасаду. Тут, у Запалоцьці, адзін зь іх выйшаў, а другі паплыў назад.*

*— І як яны выглядалі?*

*— Я ж кажу, далёка было, ды ўжо і зьмяркалася. Здаецца, не мужыкі былі.*

*— Чаму?*

*— Не па-простаму былі апранутыя.*

*— Ты ж кажаш, далёка было — не разгледзеў.*

*— Твары не разгледзеў, а адзеньне было бачна.*

*— А куды дзеўся той, што застаўся ў Запалоцьці?*

*— Ня ведаю, падняўся да сядзібаў і зьнік, я ж за ім не назіраў.*

*Чуцьцё падказвала Адаму Цісковічу — менавіта аднаго з гэтых двух і забілі тае начы.*

*Калі гэта былі не рыбакі і не перавозчыкі, дык варта адшукаць уладальніка лодкі, якую невядомыя, верагодна, наймалі. Дзеля гэтага сьледчы мусіў патрапіць на левы бераг ракі ў Задзьвіньне. Пераправіцца яму дапамог Іван Кундалевіч.*

* * *

*Ад самага пачатку, калі вандроўка толькі задумвалася, Іван Зяновіч меркаваў прабавіцца ў Полацку ня больш тыдня. Раніцай 13 жніўня госьць паведаміў сваякам, цётцы Клаўдзі і дзядзьку Міканору, што заўтра, начным цягніком, мусіць вярнуцца ў Маскву. Сваякі паўшчувалі пляменьніка за хуткі ад'езд. «Мушу быць на працы», — патлумачыў малады маскоўскі юрыст.*

*Зь дзядзькам Міканорам госьць пагутарыў асобна, таемна.*

*— Я спадзяюся на вашу дапамогу, — адразу, без якіх-кольвечы прэамбул, зьвярнуўся Іван да дзядзькі.*

*Былы сплаўшчык лесу запытальна паглядзеў у вочы пляменьніку.*

*— Уночы перад ад'ездам я мушу зрабіць адну справу. Мне трэба, каб вы сёньня адшукалі човен, а позна ўвечары, калі паромы спыняць працу, пераправілі мяне ў Запалоцьце.*

*— Гэта зьвязана з кубкам?*

*— Так.*

*Дзядзька Міканор пільна паглядзеў у вочы Івану, працягнуў руку і прамовіў:*

*— Дамовіліся.*

*У гэты ж дзень Міканор Капцюг знайшоў лодку — гаспадару сказаў, што зьбіраецца наладзіць начную рыбалку на самоў.*

*Разьвітаўшыся з цёткай Клаўдзяй, Іван Зяновіч сеў у Міканораву брычку, і яны ўдвух пакацілі ў бок Полацку. Сонца ўжо пачало заходзіць. Да Задзьвіньня даехалі без прыгод. Міканор спрабаваў разгаварыць пляменьніка, але той выглядаў зацята-напружаным, унураным у свае думкі, — гутарка не атрымлівалася.*

*Не распрагаючы каня, брычку пакінулі ў двары гаспадара лодкі. У дамоўленым месцы Міканор знайшоў падрыхтаваны для яго човен. Вёслы яны прынесьлі з сабой.*

*Іван папрасіў дзядзьку толькі аб адным — перавезьці яго на другі бераг, праўда, высадзіць не каля Верхняга замку, а ў Запалоцьці. Маўляў, больш ніякай дапамогі ня трэба.*

*У Запалоцьці яго павінен быў чакаць Ігнат Смык. Але пра гэта Іван дзядзьку, вядома, не паведаміў.*

*Менавіта Ігнат прынёс рыдлёўку. Сустрэліся яны на беразе Палаты. Счакалі яшчэ якую гадзіну — каб Запалоцкі пасад зусім аціх, — і асьцярожна пайшлі ў бок сірочага дому.*

*Іван толькі пачаў капаць, як начальнік прытулку Аляксей Валынец перапыніў іх пошукі.*

*Зьяўленьне яшчэ адной дзейнай асобы, ды яшчэ з нажом у руцэ, стала поўнай нечаканасьцю для ўсіх траіх. Твар невядомага хавала хустка.*

*— Стой ціха і маўчы, — сказаў начны прывід Валынцу і яшчэ раз прыціснуў вастрыё нажа да ягонай сьпіны.*

*Іван пазнаў голас — гэта быў дзядзька Міканор.*

*Раптам Ігнат Смык, які перапужаўся начнога прывіду ня менш за Валынца, кінуў рыдлёўку і пабег уздоўж цэнтральнай запалоцкай вуліцы ў заходні бок пасаду. Усьлед яму забрахалі некалькі сабак. Спыніць юнака Іван не наважыўся, бо тады мусіў неяк тлумачыць зьяўленьне дзядзькі Міканора, які, відавочна, не хацеў, каб нехта іншы, акрамя пляменьніка, даведаўся яго імя.*

*— Няхай бяжыць, — сказаў начны прывід Івану і дадаў: — Бяры рыдлёўку і капай.*

*Іван падняў рыдлёўку і пачаў ёй секчы дзірван вакол валуна. Затым, сьпяшаючыся, стаў абкопваць камень з усіх бакоў. У адным месцы рыдлёўка на нешта натыкнулася. Іван асьцярожна адгроб зямлю, — намацаў штосьці драўлянае. Стаў на калені і рукамі пачаў вызваляць зь пяску даволі вялікую скрыню. Яшчэ колькі хвілін, і скрыня аказалася ў ягоных руках. Знаходка ўяўляла сабой невялікі куфэрак. Ён паспрабаваў яго адчыніць, але ў яго не атрымлівалася. Пакруціўшы ў руках скрыню, зразумеў — верхнюю дошчачку*

*проста трэба адсунуць убок. Зрабіўшы гэта, Іван выцягнуў са скрыні нешта ўкручанае ў тканіну. Разгарнуў.*

*У руках ён трымаў залаты кубак, які нават у гэтую цёмную ноч зіхацеў каштоўнымі камянямі.*

*— Так, гэта ён, бацькавы кубак Баторыя! — сказаў усхвалявана апошні прадстаўнік роду Зяновічаў.*

*На нейкі час усталявалася цішыня. Усе ўтрох глядзелі на кубак.*

*Адчуўшы, што начны прывід больш увагі надае знаходцы, чым яму, Валынец рвануўся, спрабуючы вызваліцца ад апекі невядомага, і зрабіў некалькі крокаў у бок уваходных дзьвярэй прытулку. Прывід спрытна дагнаў уцекача і паваліў долу. Прыставіўшы нож да горла бегляка, Міканор пагрозьліва прасіпеў:*

*— Яшчэ адзін рух або гук...*

*Хустка зьляцела з твару былога сплаўшчыка лесу, і Валынец пазнаў прывіда:*

*— Міканор Трафімавіч, гэта вы! — пудлівым голасам прамармытаў начальнік прытулку.*

*— Маўчы, сволач, — яшчэ больш пагрозьліва засіпеў Міканор.*

*«І што зь ім цяпер рабіць?» — мітусілася думка ў галаве справавода тытунёвай фабрыкі Рыўліна. Забіваць у гэтых абставінах пацучынага таўстуна было больш небясьпечна, чымся пакідаць жывым.*

* * *

*У Задзьвіньні Адам Ціськовіч вельмі хутка знайшоў лодачніка, які здаваў лодку ў наём 13 жніўня двум невядомым панічам. Інтуіцыя Ціськовіча не падвяла — адзін зь іх, маладзейшы, меў радзімку на скроні. Гэта той, якога забілі. А хто другі? Па словах лодачніка, другі быў старэйшы гадоў на 15—20. Шырокі ў плячах, з грубым, нізкім голасам, з чырвоным тварам. Відавочна, ён жыў недзе непадалёку ад Полацку, на левым беразе Дзьвіны, бо невядомы прыехаў да лодачніка на сваёй брычцы.*

*— Дык той, старэйшы, сказаў, што лодка ім патрэбна для начной рыбалкі? — спытаў сьледчы ў лодачніка.*

*— Ну так, так і сказаў: хочам парыбачыць на самоў. Хаця наўрад ці яны рыбачылі — ніякага рыбацкага рыштунку я ў іх ня бачыў, ды і апранутыя былі не для рыбалкі.*

*— А калі старэйшы паніч забраў сваю брычку? Дарэчы, ён забіраў яе адзін?*

*— Так, адзін. Другога не было. А забраў ужо пад раніцу. Прыйшоў зусім мокры. Без чаравікаў, у адной кашулі. Заплаціў за човен, сказаў, што перавярнуўся на сярэдзіне ракі.*

*— Перавярнуўся?*

*— Ну так. Човен, вядома, зьнесла цячэньнем. Я спрабаваў яго адразу знайсьці, але дарэмна.*

*Гэтая інфармацыя тое-сёе праясьніла. Цяпер Ціськовічу стала зразумела, чаму не*

*знайшоўся мужчына з радзімкай сярод пастаяльцаў полацкіх гатэляў і мэбляваных пакояў. Паніч, відавочна, жыў у кагосьці са знаёмых ці сваякоў за межамі горада ў фальварку. Аднак па-ранейшаму ў Цісковіча не было ніводнай вэрсіі адносна матыву забойства. Плюс зьявілася яшчэ адно «мёртвае» пытаньне: чаму перакуліўся? Быў п'яны? Ці нехта паспрыяў? Маглі ж човен прадзіравіць.*

*Калі сьледчы ўвечары прыехаў у паліцэйскае аддзяленьне, яго чакала яшчэ адна сэнсацыйная вестка — днём знайшлі забітага начальніка прытулку Аляксея Валынца. Яго застрэлілі ў самым цэнтры гораду — на Віцебскай вуліцы.*

*Цісковіч быў упэўнены, што гэтае, другое, забойства неяк зьвязана зь першым. Але якой повязьзю? Што шукалі пад каменем? Магчыма, Валынец быў сьведкам забойства паніча, таму яго і прыбралі. Зь іншага боку, калі начальніку прытулку штосьці пагражала, ён мог зьвярнуцца па дапамогу ў паліцыю? Ці ня быў ён асабіста замяшаны ў забойстве і пацярпеў з-за гэтага?*

*У Цісковіча расколвалася галава ад пытаньняў.*

* * *

На нашай вуліцы ўсё менш і менш застаецца ранейшых гаспадароў. Старыя людзі паміраюць. Спадчыньнікі прадаюць іх дамы. Купляюць тыя, у каго ёсьць добрыя грошы.

Набываюць часьцей з-за кавалку зямлі, на якім будуюць новы, сучасны дом. Праўда, Запалоцьце знаходзіцца ў ахоўнай зоне мясцовага гісторыка-культурнага запаведніка, таму проста так тут не пабудуесься. Прынамсі, праект дома мусіць быць зацьверджаны ў розных гарадзкіх інстанцыях, а перад будаўніцтвам павінны адбыцца археалягічныя дасьледаваньні будучай будаўнічай пляцоўкі. То бок клопаты досыць сур'ёзныя. Але гэтую справу звычайна вырашаюць іншым шляхам — пачынаюць нібыта рэканструяваць стары дом, праўда, па выніку ад ранейшай пабудовы нічога не застаецца, нават першапачатковага выгляду. А замест былой традыцыйнай беларускай хаты паўстае трохузроўневы катэдж з мудрагелістым фасадам. Новае жыцьцё патрабуе новых формаў.

* * *

Прадплечча Полацка спрадвеку Запалоцьце, —
Ў абдымках Палаты, Дзьвіны ды ручаёў.
Яшчэ й цяпер вятры зь вякоў прыносяць
Гарматны гром, і горкі дым, і звон мячоў.

За Палатой — гарышча, гэта Верхні замак,
Сафійкі гмах узьнёслы і сьвяты.
Крынічка і Барысаў шэры з крыжам камень
Ды Усяслававы нябачныя сьляды...

Узьнёсла прадэклямаваў паэтычныя радкі Кастан, нібыта вядоўца нейкага тэлевізійнага

шоў, накшталт «угадай мэлёдыю» альбо «пытаньне на засыпку», і спытаў у мяне:

— Ну як думаеш, хто напісаў? Падказка: мясцовы аўтар.

— Зьмітрок Куніцкі, — адказаў я, згадаўшы першае імя мясцовага паэта, якое мне прыйшло ў галаву.

— У вас засталося дзьве спробы.

— Відаць, ты.

— Зноў памылка.

— Здаюся.

— Віктар Леаненя.

— Добры паэт. Але я перадусім яго цаню як краязнаўцу. А чаго раптам табе прыйшлі ў галаву гэтыя радкі?

Мы сядзелі ў альтанцы на сядзібе. Кучаравыя аблокі плылі ў бок Сафіі. На тэлевізійнай антэне, як нейкі засланы шпег, круцілася сарока і падазрона касавурыла на нас адно вока. Недзе пад альтанкай скручвалася ў кола вужака.

— З-за апошняга радку верша пра «Усяслававы нябачныя сляды». Уяўляеш, ён недзе тут таксама хадзіў. І калі той час раўналежна з нашым адбываецца і сёньня, то мы ходзім аднымі сьцежкамі. — Прамовіўшы гэта, Кастан засьмяяўся так залівіста, што небараку прабіла на кашаль.

Я па-сяброўску пару разоў выцяў яго па сьпіне. Кастан перастаў кашляць і пачаў шукаць па кішэнях пачак цыгарэт.

— Ну што, лайдакі, можа, вам якую працу даць? — Гэта прыйшла Тацяна. У яе заўсёды ў запасе ёсьць праца. Пакасіць. Прыбраць сьмецьце. Падрэзаць гальлё на дрэвах за плотам. Бо ўжо Сафійкі ня бачна. Альбо самае простае — дапамагчы ўпарадкаваць ніткі, зматаць у клубкі.

— Занятыя мы. Мы тут сур'ёзную справу абмяркоўваем. Ці хадзіў нашай сьцежкай князь Усяслаў, — пажартаваў я.

— Наконт Усяслава ня ведаю. Але вось нядаўна прыходзіў нейкі сур'ёзны, з партфэлем, дзядзечка і прасіў прадаць нашую сядзібу. Сур'ёзныя грошы прапаноўваў.

— І што далей? — Пра гэтага дзядзечку я чуў упершыню, таму мая цікавасьць была не жартаўлівай.

— Сказала, што ў гэтым доме жывуць прывіды, таму ня раю зь імі зьвязвацца, — ці то жартам, ці то на поўным сур'ёзе адказала Тацяна.

— Так і сказала? А ён што? — па-дзіцячы наіўна зноў запытаўся я.

— Пакруціў пальцам каля скроні. І сказаў, каб падумалі. Пакінуў свой тэлефон.

— О, дык хутка будзеце багатымі, — убіўся ў размову Кастан.

— Дык мы й так багатыя. А што вы там казалі пра Ўсяслава? — Тацяна села побач з намі, узяла пачак з рукі ў Кастана і дастала зь яго цыгарэту.

* * *

За вячэраю я ўзьняў тэму пра сур'ёзнага дзядзечку з партфэлем.

— І гэта праўда, што прыходзіў нейкі дзядзечка? — Мяне расьпірала цікавасьць — пажартавала Тацяна, ці сапраўды хтосьці хоча купіць наш дом.

— А ты хочаш прадаць сядзібу? — пытаньнем на пытаньне адказала Тацяна.

— Ды пакуль не... але цікава...

— Цікава, колькі прапаноўваў? 50 тысяч даляраў прапаноўваў. — Тацяна выпрасталася і паглядзела мне ў вочы. — І што думаеш?

— Думаю, што сумна будзе бяз прывідаў. — Жарт быў не зусім удалы, але прадаваць сядзібу мне сапраўды не хацелася, нават і за 100 тысячаў.

— І я таксама пра гэта падумала. — Тацяна пасьміхнулася, узьнялася, адчыніла кухонны шапік і дастала пляшку «Бэхераўкі». Села на ранейшае месца. — Налі крыху. Ёсьць размова. І пра прывідаў, і пра сядзібу.

* * *

Уночы мне сьнілася, як нейкая жахлівая бабця, дакладная кіношная баба Каргота, рабіла шабас у нас на сядзібе. Шпурляла посуд, які з гучным звонам разьлятаўся на драбочкі. Нішчыла Тацяніны габэлены. Рагатала зь дзікім хрыпам. Ну чыста сцэна з фільму жахаў.

Прычым у сьне я стаяў як зачараваны, як бэтонны слуп, і ня мог зварухнуцца. Баба хадзіла вакол мяне, час ад часу набліжалася ўсутыч да майго твару і сваім разьюшаным поглядам зыркала мне прама ў вочы. Ад чаго па маёй сьпіне ня тое што мурашы, па ёй беглі тарантулы і паўзьлі гадзюкі.

— Тут мой дом! Ты чаму прыйшоў у мой дом? — раўла бабуленцыя як шалёная.

У сьне я хацеў паказаць гэтай вядзьмарцы дамавую кнігу, у якой чорным па беламу напісана, што гэты дом належыць маёй Тацяне. Што ўсе падаткі на нерухомасьць сплочаныя і запазычаньняў няма, што лічыльнік на ваду стаіць і шлянгам мы не палівaем грады, бо й градаў тых у нас няма, няма чаго паліваць. Дык за што так злавацца?

Сіліўся, але нічога ня мог сказаць і паказаць, стаяў незварушна, а міма маёй галавы лёталі талеркі, кубкі, патэльні і рондалі.

* * *

*Ігнат Смык ніяк не чакаў такога павароту спраў. Калі ў двары сірочага дому іх аклікнуў Валынец, будучы фэльчар калі і спужаўся, дык толькі ад нечаканасьці. Па вялікім рахунку, ніякага злачынства яны не рабілі. Ну калупаліся рыдлёўкай у зямлі. Хіба гэта злачынства?*

*Іншая справа, калі зь цемры вымкнуў чалавек у хустцы і з нажом. Па яго голасе не складана было здагадацца, што ён не жар-*

*таўнік і ад яго можна чакаць сур'ёзных непрыемнасьцяў.*

*Пазьней юнаку цяжка было самому сабе патлумачыць — што падштурхнула яго да ўцёкаў. Згадвалася толькі адно: чамусьці ён быў упэўнены, што Іван пабяжыць за ім сьледам.*

*Юнак спыніўся каля Міхайлаўскіх могілак. Івана побач не было. Значыць, ён застаўся там, у двары. Пачуцьцё сораму апанавала Ігната — калі б сьвяціла поўня, дык можна было б заўважыць, як увесь твар юнака густа заліла чырвань.*

*Гэтае пачуцьцё падзялялася на дзьве складовыя часткі: па-першае, было сорамна перад Іванам, якога сваімі ўцёкамі ён фактычна прадаў; па-другое, было сорамна яшчэ з адной нагоды. Ігнат Смык належаў да радыкальнага крыла партыі сацыялістаў-рэвалюцыянэраў, якое не адмаўляла палітычны тэрор і нават рыхтавала ў сваім асяродку ўзброеных Робін Гудаў. Уласны партыйны рэвальвэр меў і Ігнат, але з сабой у Запалоцьце зброю студэнт ня ўзяў, бо нават не ўяўляў, што ў гэткай простай справе магла ўзьнікнуць небясьпека. І вось ён, будучы прафэсійны рэвалюцыянэр, гэтак баязліва павёў сябе ў звычайнай бытавой сытуацыі. Ганьба!*

*Ігнат разьвярнуўся і пакрочыў назад да сірочага дому.*

*Ішоў ён сьцярожка, прыслухоўваючыся. У двары прытулку, навастрыўшы зрок, ён убачыў жахлівую карціну. Цела Івана ляжала на траве. Побач стаялі Валынец і той незнаёмы, які нечакана вымкнуў зь цемры і так напужаў юнака. Гэтыя двое па-змоўніцку аб нечым ціха размаўлялі. Ігнат прыслухаўся.*

*— Што здарылася, то здарылася, гэта Божы вырок, — няўцямна мармытаў Валынец, — мы мусім падумаць пра сябе, нічога ўжо ня зьменіш. Івана не ажывім...*

*Далейшае мармытаньне начальніка прытулку немагчыма было разабраць.*

*— Памаўчы, сьлімак! — сувора абарваў яго невядомы. — Ты хочаш так лёгка пазбыцца сваёй віны? Не атрымаецца! Праз дзень, а 12-й гадзіне, я чакаю цябе каля гатэлю «Віцебскі» зь пяцьцю сотнямі рублёў. За тое хаця б, што буду маўчаць і што не задушыў цябе вось гэтымі рукамі. А зараз трэба пазбавіцца цела. Падымай, панясем да ракі.*

*Невядомы адной рукой дапамагаў Валынцу цягнуць цела Івана, другой — нёс загорнуты ў матэрыю кубак Баторыя.*

*У Ігната Смыка наварочваліся сьлёзы, яго трэсла як у ліхаманцы. Пайсьці сьледам за злачынцамі ён не насьмеліўся.*

* * *

*Калі Міканор Капцюг пачуў ад пляменьніка просьбу завезьці яго на чаўне ў Запалоцьце, ён адразу зразумеў: кубак схаваны ў дзіцячым прытулку, дзе некалі працаваў Сьцяпан і жыла яго сям'я. Ніякага адмысловага пляну ў ягонай галаве тым часам ня ўзьнікла. Адзінае, Міканор вырашыў прасачыць за Іванам. Высадзіўшы пляменьніка з лодкі, ён адчаліў ад берага і пачаў грабсьці ў бок Крыўцовага пасаду, адкуль і прыплыў. Кіраваць чаўном супраць цячэньня было няпроста, але рукі Міканора з маладосьці былі звыклыя да гэткай справы. Параўняўшыся з сутокам Палаты, ён разьвярнуў човен і паграб у бок палатоўскай паромнай прыстані. У гэты позьні час нікога на беразе не было. Толькі некалькі кірляў упарта кружлялі над ракою — ці то яны ўсё яшчэ спадзяваліся на рыбацкае шчасьце, ці то шукалі якую прапажу. Супрацьлеглы бераг пачаў губляць свае контуры. У вечаровым прыцемку амаль зьніклі і абрысы Сафіі на гары Верхняга замку.*

*Міканор больш за гадзіну праседзеў у кустоўі бэзу, які разросься ў адным з кутоў двара прытулку. Ён упарта чакаў пляменьніка. Зьдзівіла і нават пакрыўдзіла тое, што Іван аб'явіўся з кампаньёнам. Атрымліваецца, пляменьнік даверыў сакрэт некаму іншаму, а не яму, сваяку.*

*Каб аказацца за сьпінай Валынца, яму спатрэбілася некалькі сэкундаў. Міканор*

*разумеў: калі хлопцы зараз сыдуць са двара, кубак дастанецца гэтаму тлустаму пацуку, які і быў адной з прычын сьмерці бацькі Івана. Гэтага нельга было дапусьціць. Нож Міканор узяў з сабой на ўсялякі выпадак — і вось ён спатрэбіўся.*

*Зіхаценьне кубка загіпнатызавала Міканора. Ён ніколі ня бачыў гэтай рэчы, толькі чуў легенды. Ён глядзеў на кубак, як трус у вочы пітона.*

*Ня менш уражаным быў і Валынец. Такі скарб ляжаў столькі гадоў зусім побач! Які ён бязмозглы, што не абшукаў усю ваколіцу пасьля ад'езду Зяновічаў! Ля скроні запульсавала думка: «Але яшчэ ня позна. Варта ўзьняць вэрхал, каб сабраліся людзі, і абвінаваціць начных візытэраў у рабаўніцтве...»*

*«І ўсё ж гэта рызыкоўна, — згадаўшы пра нож Капцюга, падумаў таўстун, — гэты бамбіза запраста прырэжа, як авечку, толькі адкрыю рот».*

*Згадка пра Капцюгоў нож вярнула Валынца на грэшную зямлю. «А раптам яны ўжо вырашылі мяне забіць? Прычынаў дастаткова. І са Сьцяпанам варагаваў. Ды і сьведка ім не патрэбны».*

*— Закопвай зямлю, — амаль у загадным тоне сказаў Міканор малодшаму Зяновічу.*

*Той загарнуў кубак у матэрыю, асьцярожна, нібыта быў ён з тонкага шкла, паклаў сямейную рэлiквію ля ног і павярнуўся сьпінай да Капцюга з Валынцом, шукаючы вачыма*

*рыдлёўку. У гэты час таўстун моцна штурхануў свайго вартаўніка ў грудзі. Міканор ніяк не чакаў ад гэтага сьлімака супраціву. Шырока расставіўшы рукі, ён паляцеў долу разам з Іванам, якога, падаючы, зачапіў. Аднак імкліва падхапіўся на ногі і пасьпеў другі раз злавіць няўклюду Валынца. Перш чым яны разам упалі на траву, Міканор рукой моцна выцяў уцекача ў жывот. Таўстун скурчыўся і застагнаў.*

*— Гэта табе апошняе папярэджаньне, — сказаў былы сплаўшчык лесу, — наступны раз разьвітаесься з жыцьцём.*

*Міканор ціха гукнуў:*

*— Іван.*

*Пляменьнік неварушна ляжаў на зямлі. Толькі цяпер Міканор заўважыў, што ў ягоных руках няма нажа. «Няўжо!!!» — думка апякла ўсё цела.*

*Міканор падышоў да пляменьніка. Са сьпіны пляменьніка тырчэлі знаёмыя тронкі.*

*Да берага ракі мёртвага Івана зацягнулі за якія пяць хвілінаў. Капцюг з Валынцом зайшлі па калена ў ваду і ўкінулі цела ў чорны цёплы дзьвінскі паток.*

*— Празь дзень я цябе чакаю! — груба, не прыцішваючы голасу, сказаў Міканор.*

*Валынец, унурыўшы галаву, пасунуўся да прытулку.*

*Капцюг берагам ракі пайшоў да паромнай прыстані ля сутоку Палаты, дзе яго чакаў човен. Яго разьдзіралі супярэчлівыя пачуцьці.*

*З аднаго боку, сьмерць пляменьніка цяжкім каменем прыціскала сэрца. З другога — думкі пра кубак Баторыя ўскрылялі душу. «А чаму гэтая каштоўнасьць не належыць мне? Чым мой род горшы? Магчыма, гэта наканаваньне. Цяпер мае дзеці будуць сапраўднымі каранаванымі гаспадарамі ў Полацку».*

*Ён сьпяшаўся — трэба было пераправіцца праз Дзьвіну да сьвітаньня. Калі выплыў на сярэдзіну ракі, яму закарцела яшчэ раз паглядзець на кубак. Ён разгарнуў матэрыю і ўзяў кубак аберуч. Першыя промні сонца бліснулі з усходу. Моцныя пачуцьці нагарнуліся на Міканора, як хвалі цунамі. На ўсю грудзіну разросься пякучы агонь. Згубіўшы пачуцьцё асьцярогі, Капцюг устаў на ногі і ўзьняў над галавой кубак. Сонечныя промні зайгралі на залатым баку кубка, усыпанага каштоўнымі камянямі, усімі колерамі вясёлкі. З грудзей Міканора вырваўся сьмех радасьці. Яму нават закарцела падскочыць на месцы, закрычаць, засьпяваць. Човен раптам моцна хіснуўся. Інстынктыўна Міканор расьціснуў рукі, каб схапіцца за борт лодкі і не дазволіць ёй перакуліцца. Кубак боўтнуўся ў ваду, следам за ім паляцеў і сам Міканор.*

*Адшукаць кубак на глыбіні з такім моцным цячэньнем аказалася Міканору не пад сілу. Стаміўшыся безвынікова ныраць, ён, гучна боўтаючы рукамі, паплыў у бок задзьвінскага берагу.*

*Вярнуўшыся ў фальварак, Капцюг паведаміў жонцы, што праводзіў пляменьніка, пасадзіўшы на цягнік да Масквы, а ў ваду зваліўся з парому па неасьцярожнасьці.*

* * *

*Ігнат Смык увесь час, пакуль вяртаўся з Запалоцьця да хаты, паўтараў тры словы: «Я мушу адпомсьціць».*

*Назаўтра раніцай ён ужо ведаў, як гэта зрабіць. Дастаў з гарышча рэвальвэр і цэлы дзень яго чысьціў і змазваў.*

*Забіваць Валынца побач з сірочым прытулкам ён ня мог. На вачах у дзяцей?! Не, так рабіць нельга.*

*Жахлівыя малюнкі, убачаныя ў двары сірочага дому, самохаць усплывалі ў сьвядомасьці. Згадаліся словы прывіда з нажом пра грошы, якія ён чакае ад Валынца. Лепшых абставінаў для помсты нельга было і прыдумаць. Ён падпільнуе забойцу Івана на Віцебскай вуліцы, калі той будзе ісьці на сустрэчу, і застрэліць. Калі прывід прызначыў яму сустрэчу? Ну так, а 12-й гадзіне.*

*Палова на дванаццатую Ігнат выйшаў з дому. Рэвальвэр ляжаў ва ўнутранай кішэні пінжака. Гэтую кішэню ён адмыслова прышыў яшчэ год таму, калі атрымаў рэвальвэр. Яна адпавядала памерам зброі і знаходзілася ў зручным месцы — на ўзроўні сагнутай рукі.*

*Ігнат меркаваў, што Валынец будзе ісьці з боку Катэдральнага пляцу. Стаяць і ча-*

*каць ахвяру было небясьпечна — выклікаў бы падазрэньне. Таму юнак пайшоў ‘ пляцу па сваёй Плігаўскай вуліцы. Людзей у горадзе гэтым часам было няшмат, і гэта радавала Ігната.*

*Валынца ён заўважыў ля Мікалаеўскага сабору — той валюхаста, як гэта робяць таўстуны, крочыў яму насустрач. Ігнат счакаў крыху і пайшоў за ім сьледам па суседняй Азараўскай вуліцы. Затым зьвярнуў у двары і разьлічыў так, каб выйсьці на Віцебскую на якія 10—15 сэкундаў раней, чым там зьявіцца Валынец.*

*Юнак стрэліў два разы ў сьпіну Валынцу практычна з 3—4 мэтраў, і той снопам абрынуўся на ходнік. Побач зь месцам здарэньня Ігнат нікога не заўважыў. Схаваўшы ў кішэню рэвальвэр, ён дварамі пашыбаваў у бок свайго дому. Праз тры хвіліны, зайшоўшы ва ўласную кватэру, ён зачыніў за сабой дзьверы.*

* * *

*— Вы кажаце, ваш муж зьехаў учора ў Рыгу па справах? — яшчэ раз, каб удакладніць, пацікавіўся сьледчы Цісковіч у Клаўдзі Капцюг, гаспадыні фальварку Казьянкі.*

*— Ну так, зьехаў, цягніком. Казаў, праз тыдзень вернецца. А што здарылася?*

*— А ці ведаеце вы, што ваш пляменьнік, Іван Сьцяпанавіч Зяновіч, ноччу 14 жніўня быў забіты ў Запалоцьці?*

*— Што?! — толькі і пасьпела вымавіць Клаўдзя, губляючы прытомнасьць.*

*Міканор Капцюг больш не аб'явіўся на Полаччыне. А юнака з даўгімі сьветлымі валасамі паліцыя не знайшла.*

*Гэта была адна з самых заблытаных і дзіўных спраў, з усіх тых, якія за сваё жыцьцё даводзілася расьследаваць вядомаму полацкаму сьледчаму Адаму Ціcковічу.*

## ЧАСТКА ПЯТАЯ

Жанчына нічым не нагадвала нейкага экстрасэнса альбо вядзьмарку. На выгляд ёй было гадоў трыццаць пяць. У такім узросьце многія кабеты пачынаюць губляць дзявочыя фігуры, набіраюць вагу, менш сочаць за сабой. У ранішнім аўтобусе падобных кабет большасьць. Яны паслухмяна, самнамбулічна рухаюцца па калідоры свайго лёсу. Ці можна з таго калідору неяк вымкнуць? Яны пра гэта нават і ня думаюць. Дома муж, дзеці. На працы — начальнік, каляжанкі, нейкі заробак, які дазваляе, прынамсі, не ўпадаць у роспач перад заўтрашнім днём.

Тацяна чакала, што жанчына будзе мець больш паважны ўзрост. Ёй здавалася, што незвычайныя, паранармальныя здольнасьці набываюцца з гадамі, як нейкі жыцьцёвы досьвед. І варожка альбо экстрасэнс мусіць быць мудрай бабулькай зь сівізной у валасах.

Кабета ня мела ўвогуле ніякай сівізны. Валасы былі чорныя, падстрыжаныя пад карэ. Калі б яе Тацяна сустрэла на вуліцы, то наўрад ці зьвярнула б на яе ўвагу.

Жанчына назвалася:

— Марыя, — і запрасіла прайсьці ў пакой. Пакой не адрозьніваўся жыцьцёвай утульнасьцю. Звычайная стандартная мэбля, якая ні на каліўца не зьмянілася з часоў Савецкага Саюза. Канапа, сэрвант, шафа і цёмна-бурач-

ковы прамакутнікавы стол пасярод пакоя. Вакол стала — чатыры крэслы. На адно зь іх адразу села Марыя і прапанавала Тацяне сесьці насупраць. Марыя заўважыла на твары Тацяны рэакцыю на хатнюю няўтульнасьць і пачала тлумачыць:

— Мы з мужам здымаем гэтую кватэру. Год таму пераехалі з Прыднястроўя. Там у бліжэйшыя гады ня будзе парадку і міру. Гэта ўжо другая кватэра, якую здымаем у Полацку. У Полацку нам падабаецца, таму вырашылі тут спыніцца надоўга. Можа, назаўсёды.

У руках кабета трымала калоду карт. Яна ўважліва глядзела на Тацяну, нібыта нават прыязна пасьміхалася. Прынамсі, імкнулася заваяваць у госьці давер.

— Вы напэўна чулі пра мяне ад знаёмых. Бо інакш як бы мяне знайшлі. Так, я варажу на картах. Але мушу ад вас пачуць вашую праблему.

Марыя паклала калоду карт на стол і максымальна засяродзілася на госьці.

— Ня ведаю, з чаго пачаць, — няўпэўнена прамовіла Тацяна, — можа, гэта і нейкае трызьненьне, але мне здаецца, што ў маім доме, які я купіла некалькі гадоў у Запалоцьці, існуюць дзіўныя праблемы. Што ні раблю, абавязкова не атрымліваецца. Адрамантавала сыстэму ацяпленьня, усё адно ў хаце холадна — сыстэма належным чынам не працуе. Пабудавала печку. І ў печкі

таксама адразу ўзьніклі праблемы. Карацей, штосьці не дазваляе мне зрабіць у гэтым доме так, як я хачу.

* * *

Жулю стала кепска. Яго хістала ў бакі і ванітавала. Ён глядзеў такімі жаласнымі вачыма, што ў нас з Таццянай наварочваліся сьлёзы.

Прыйшоў сусед, абыякава пагледзеў і сказаў, што калі сёньня не дадзім яму сто грамаў гарэлкі, сабака памрэ: напэўна, нечым атруціўся. У суседа гарэлка, відаць, была ўнівэрсальным лекам. Нічога не заставалася, як ісьці ў суседнюю краму зь вялікім надпісам над уваходам — «Палата» — і купіць пляшку гарэлкі. Хто ня ведаў, што Палата — назва ракі, якая побач упадае ў Дзьвіну, відаць, моцна зьдзіўляўся, пабачыўшы такую вывеску. Бо націск у гэтым слове хутчэй за ўсё паставіў бы на другой літары «А». Гранавітая палата? Ці палата № 6? І першае, і другое ў Запалоцьці гучыць хутчэй зьдзекліва, чым вынаходліва.

Але сабаку гэта не зразумець. Ды й не да шыльды над крамай было ў той час Жулю.

Я расчапіў чацьвераногаму сябру зяпу, а Таццяна ўліла ў горла кілішак гарэлкі. Жуля спачатку асалапеў, не зразумеўшы, што зь ім зрабілі. І некалькі сэкундаў стаяў незварушна. Затым пачаў трэсьці галавой, нібыта тую гарэлку можна было вытрасьці вонкі.

Пераканаўшыся, што нічога кепскага не адбылося, ён супакоіўся і паклыпаў да сваёй будкі.

Што зрабілі з астатняй гарэлкай, ужо ня памятаю. Але наўрад ці пакінулі для іншых магчымых сабачых атручваньняў.

Але, о дзіва, — гарэлка сапраўды дапамагла.

* * *

У маім пакоі ў бацькоўскай кватэры было двое дзьвярэй. Адны выходзілі ў бок кухні. Другія злучалі пакой з гасьцёўняй. Навошта архітэктары-праекціроўшчыкі так прыдумалі, па сёньня для мяне загадка. Зразумела, дзьверы, якія вялі ў гасьцёўню, мае бацькі зачынілі, з боку гасьцёўні заставілі сэкцыяй, а з майго пакоя — завесілі дываном, пад якім уладкавалі канапу. Якраз на той канапе я і спаў. І заўсёды адчуваў, што за дываном ёсьць дзьверы. Амаль як у казцы пра Бураціна. І нават уяўляў, што тыя дзьверы вядуць зусім не ў гасьцёўню, а можа, нават у іншы, дзіўны і казачны сьвет. У сьне, напрыклад, я тыя дзьверы мог адчыніць і адчыняў.

І па сёньня памятаю дзіцячыя фантастычныя сны. Найбольш мяне зьдзіўляла, што сны мелі працяг. То бок з ночы ў ноч адна і тая ж гісторыя разгортвалася ў цэлы фільм. Прычым я нават ведаў, дзе тыя падзеі адбываліся, мог туды схадзіць. Праўда, наяве там ўсё выглядала інакш. Зусім іншыя будынкі.

Іншыя дрэвы. Не, якраз дрэваў з тых сноў не памятаю. Нібыта нават іх і не было. Але будынкі й сёньня магу прыгадаць. Яны нечым нагадвалі элеватары — ёсьць такія высотныя збудаваньні для захоўваньня збожжа. Ці былі ў іх вокны? Магчыма, былі.

Вельмі часта ў тых снах на вуліцах было пустэльна і бязьлюдна. І я вяртаўся дахаты па гэтым голым, мёртвым урбаністычным ляндшафце. І часам будынкі, якія я бачыў наперадзе свайго шляху, былі як горы. Здавалася, да іх было зусім недалёка, а гэтае недалёка насамрэч ператваралася ў дзясяткі кілямэтраў. І цэлы сон трэба было ісьці і ісьці, ісьці і ісьці. За будынкамі быў спуск да маёй рачулкі, а там і знаёмы масток. За мастком стадыён. І дадому ўжо зусім блізка.

І ва ўсіх гэтых снах я чамусьці толькі вяртаўся дадому. Адкуль? Чаму адзін? Што азначала гэтае вяртаньне? Бадай, у свае юначыя гады я такіх пытаньняў сабе не задаваў. Прычым я асьцярожна прабіраўся, імкнуўся, каб быць найменш прыкметным. Штосьці варожае, я гэта ведаў дакладна, магло мяне перастрэць на дарозе.

І толькі ва ўласнай кватэры я адчуваў сябе ў поўнай бясьпецы.

І сёньня мне здаецца, што бацькі адмыслова хавалі ад мяне гэтыя патаемныя дзьверы. Бо ў іх нельга было заходзіць наяве. Інакш можна не вярнуцца.

* * *

— Я так і не знайшоў тлумачэньня, — нечакана сказаў Кастан, калі мы разам вярталіся вечаровымі полацкімі вуліцамі з імпрэзы Віктара Леанені. Прэзэнтацыя ягонага новага паэтычнага зборніка не была мнагалюднай. У верасьнёвы суботні вечар ня так проста сабраць людзей, нават у такім цудоўным месцы, як Музэй беларускага кнігадрукаваньня. Ды і цікавасьць да паэзіі ўпала, як сказаў бы Кастан, ніжэй ватэрлініі.

— Чаго тлумачэньне? — я не зразумеў, пра што гэта ён.

— Ну, чаму тады паваліліся кілішкі ў цябе на сядзібе. — Кастан крыху прыпыніўся і паглядзеў на мяне — ці то вінавата, ці то запытальна.

— Ты ведаеш, я так часта не знаходжу разуменьня для розных падзеяў і зьяваў, што ўжо й не імкнуся гэта рабіць. — Мне абсалютна не хацелася гэтую тэму далей абмяркоўваць.

Нейкі час мы ішлі моўчкі. На плошчы Свабоды панавала цішыня і бязьлюдзьдзе — ніводнай постаці. Лістота яшчэ трымалася галін дрэваў, але ўжо ня верыла ў сваю несьмяротнасьць. Адсюль не было як пабачыць Сафію, бо яе закрылі ад гораду вялізным дзевяціпавярховым гмахам, які ў народзе празвалі «дом з вушамі».

— Пайшлі лепш я пакажу табе горад. — Раптам у мяне нарадзілася ідэя і я вырашыў

зьдзейсьніць даўнюю мару — узьняцца ўвечары на дах «дома з вушамі». Сярод дня я ўжо там быў — уздымаліся з апэратарам, каб зьняць гарадзкую панараму для дакумэнтальнага фільму пра Полацак. Панарама гэтая мяне ня вельмі ўразіла. Была яна нейкай будзённай, казённа-сымэтрычна-правільнай. І нават Сафія выглядала не як храм з птушынага палёту, а толькі як элемэнт краявіду на паштоўцы. І тады падумалася: а як усё будзе выглядаць увечары, калі змрок пачне паглынаць горад, калі з таемных схаваў павылазяць гарадзкія таямніцы, якім і сто, і тысячу гадоў?

— У сэнсе, прапаноўваеш прайсьціся па горадзе? — азваўся Кастан без вялікага энтузіязму.

— Ды не, паглядзець на яго з вышыні.

Я памятаў, што трэба зайсьці ў трэці пад'езд і ўзьняцца на дзявяты паверх ліфтам. Менавіта ў гэтым пад'езьдзе мы знайшлі незачынены люк на дах.

У пад'езьдзе пахла нейкай цьвільлю і яшчэ чымсьці, што мае дачыненьне да гатаваньня ежы. Люк адчыняў я, спрабуючы зрабіць гэта асьцярожна і павольна — без непатрэбнага нам рыпу.

На дах вылазілі, нібыта з труму на палубу вялікага карабля. Адразу насупраць выразна праглядаўся будынак гарвыканкаму. Асьветлены такім чынам, нібыта чакаюць там марсіян у госьці, і каб месца міжпля-

нэтнага візыту было бачна ажно з космасу. Далей, за будынкам гарвыканкаму, раўнюткай указальнай стралой ляжаў праспэкт Францыска Скарыны. Упрыгожаны шарамі ліхтароў і кучаравасьцю каштанаў. Куды паказвала гэтая стрэлка — немагчыма было разгледзець. Калі вакол плошчы Свабоды гарадзкое сьвятло нібыта не баялася цемры і высока сягала ўверх, то на адлегласьці, за плошчай Скарыны, сьвятло ўжо паводзіла сябе больш стрымана. Здавалася, што яно сур'ёзна прыціснута зьверху шматлікімі пластамі цемры. Узьнікала нават трывога: ці вытрымае яно да раніцы гэты касьмічны ціск?

— Ну як табе? — спытаў я Кастана, нібыта чалавек першы раз прыехаў у Полацак, яму зрабілі адмысловую экскурсію і цяпер пытаюцца пра ўражаньні.

— Адвал башкі, — узьнёсла адказаў ён. — Раскінуў бы крылы і паляцеў. Вось тут і варта праводзіць прэзэнтацыі кніг паэзіі. Ну скажы, праўда ж, файная ідэя?

— Файная, толькі дазвол ніхто ня дасьць.

— Ну вось так заўжды, калі нешта файнае, то на гэта няма дазволу, — блазнавата вымавіў Кастан і засьмяяўся.

— Але гэта яшчэ ня ўсё. Пайшлі на іншы бок — там нават цікавей.

Мы развярнуліся і старожка пасунуліся на супрацьлеглы бок даху, крыху сьлізгаючы падэшвамі сваіх туфель па рубэройдзе.

Ё-ё-ё, галоўным героем панарамы з гэтага боку быў, канешне, Сафійскі сабор. Яго таксама ў вечаровы час падсьвечвалі з усіх бакоў. Спачатку Сафія мне падалася нейкім унікальным экспанатам у шыкоўным, багатым музэі. Такой перлінай, якую выстаўляюць адну на ўсю вялікую залю. Затым мне падалося, што сабор рухаецца ў бок Дзьвіны. А Дзьвіна — як Млечны Шлях, які адлюстроўвае сотні агнёў у сваёй вадзе — і зоркі, і Месяц, і сьвятло ліхтароў. І Сафія выпраўляецца ў гэты далёкі-далёкі шлях, які нам не ўявіць, не асэнсаваць.

— Ты ведаеш, яны ўпалі, таму што мы ляцім да зор, — паэтычна прамовіў Кастан і раскінуў рукі, нібыта сабраўся насамрэч паляцець.

— Хто ўпаў? — неўразумела перапытаў я. — Такога Кастана раней мне не надаралася бачыць.

— Хто, хто — кілішкі, — выдыхнуў Кастан у цемру.

І тут мяне разабраў такі сьмех, што, здавалася, яго чуюць ва ўсіх кватэрах гэтага жудаснага «дому з вушамі». Я сьмяяўся і сьмяяўся, і гэты сьмех чулі і ў Запалоцьці, і ў Задзьвіньні, і нават у Экімані. Сьмех ляцеў уздоўж Дзьвіны і, як сьвятло навакольных ліхтароў, з дапамогай батуту чорнай вады сягаў у бязьмежжа космасу.

* * *

Тацяна ніяк не магла даўмецца, што гэта за гук. Штосьці ў доме ці то бразгацела, нібыта ў цягніку лыжачка ў шклянцы, ці шархацела, ці драпалася. Спачатку Тацяна падумала, што гэта зноў мышы. Яны па вясьне неяк апанавалі сядзібу. Відаць, даспадобы прыйшліся ваўняныя ніткі, зь якіх добра ладзіць утульныя гнёзды ў норах. Тацяна ў інтэрнэце ўзялася высьвятляць мэтады змаганьня з аматарамі ваўняных гнёздаў. Усялякія пасткі і іншыя сярэднявечныя прылады прыціісканьня, адсяканьня і чацьвертаваньня Тацяна адразу адмяла. Лепш ужо пазбаўляць жыцьця цывілізаваным мэтадам эўтаназіі. Праўда, ніхто не зьбіраўся пытацца ў мышэй, ці праўды яны выбіраюць сьмерць па ўласным жаданьні — проста ў краме купілі адмысловую атруту і расклалі па ўсіх закутках. Праз тыдзень мышы зьніклі. І ваўняныя ніткі атрымалі гарантаваную бясьпеку.

Тацяна ўжо пачала згадваць, у якой такой краме прадаецца атрута для мышэй. Зноў прыслухалася. На гэты раз гук ёй падаўся зусім не мышыным. Па-першае, ён не гучаў ані з паддашку, ані з падпольля. Аднекуль зь пярэдняга пакою. Прычым нібыта з буфэту. Тацяна падышла да яго і пачала адчыняць усе дзьверцы, спрабуючы высьветліць — што гэта за насланьнё такое. І калі зірнула за шкло аддзела, дык там, дзе роўнымі мініятурнымі мінарэтамі грувасьціўся посуд,

пабачыла тое, што ніяк не паддавалася яе разуменьню — у салятніцы ляжаў той самы амулет, які Тацяна ўвесну знайшла ў сябе на градах, ён рытмічна вібраваў, як маленькае бронзавае сэрцайка.

Некалькі хвілінаў Тацяна заварожана назірала за гэтым дзівам. Затым працягнула рукі і ўзяла салятніцу з амулетам. І адразу ўсё зьнікла. І рухі. І гук. Нібыта ўсё прымроілася. Нібыта надарыліся галюцынацыі.

— Нічога сабе! І што гэта было? — уголас сама сабе прамовіла Тацяна.

Яна ўзяла ў руку амулет. Ён паказаўся ёй цёплым. Хаця, можа, толькі паказаўся.

— Во дзіва! — яшчэ раз выгукнула Тацяна і, ужо зьвяртаючыся да амулета, сказала: — Што, спудзіўся як птушаня? Не пакрыўджу, ня бойся.

Але амулет ніяк не адрэагаваў. Ён роўненька ляжаў на далоні.

Тацяна ўважліва пачала яго разглядаць. Нічога ў ім не зьмянілася. Быў дакладна такім самым, якім яна яго знайшла на градах.

— Во дзіва! — яшчэ раз прамовіла Тацяна. — Гэта ўжо нейкія чароўныя казкі братоў Грым.

Яна асьцярожна паклала амулет назад у салятніцу. І пачала чакаць. Але і праз пяць хвілінаў, і праз дзесяць, і праз пятнаццаць нічога не адбылося. Бронзавы кружок са скручанаю зьмяёй ляжаў бездыханна.

* * *

І баран сарваўся з прывязі ў бальнічным двары майго дзяцінства. Зьбег у невядомым кірунку. Магчыма, у бок лесу, які мы называлі Пчэльнік. Недзе побач з гэтым лесам пасьвіліся падвопытныя авечкі навукова-дасьледчага інстытута жывёлагадоўлі. Магчыма, той баран-перавёртыш папсаваў шматгадовыя досьледы вучоных. А магчыма, наадварот — істотна ім дапамог. Верагодна, і сёньня баран ходзіць па Пчэльніку, цягае за сабой кавалак тоўстай вяроўкі. Бо хто можа злавіць перавёртыша? І як ён памрэ, калі ён несьмяротны?

І Ленін сышоў з пастамэнту і пакрочыў-пакрочыў сваімі бэтоннымі чаравікамі па асфальце галоўнай вуліцы. Высякаючы іскры. Бо, зразумела, дзея адбывалася ўначы. Тая сталоўка, якая некалі месьцілася насупраць Леніна і дзе можна было ў часы майго дзяцінства кульнуць кілішак якога трунку, даўно ўжо не сталоўка, а цэх па розьліве воцату. Уяўляеш, во-ца-ту. Які пажадана ня піць. Вельмі пажадана. І які Ленін будзе стаяць побач з цэхам па розьліве воцату? Ясная справа, ён пачне шукаць сабе новае месца. Штоноч. Штоноч. Штоноч. І куды ён мог пайсьці? Мог пайсці ў бок Пчэльніку. Але там гаспадарыць баран-перавёртыш, а зь ім лепш не сустракацца. Ніякі бэтон ня можа супрацьстаяць рагам таго барана. Мог пай-

сьці ў бок Судабоўкі. Але якая карысьць яму ад той вёскі, якую далучылі да гораду і якая так і не стала горадам? Ну ніякай карысьці. Мог пайсьці ў бок мясцовага аўтазаводу. І гэта самы верагодны шлях. Бо там можна правесьці сярод рабочых агітацыю. Раскідаць улёткі па цэху. Стварыць партыйныя ячэйкі. Павесіць кумачовыя транспаранты. Гэта тое, што трэба для Леніна. Але ёсьць адна акалічнасьць. Побач з домам культуры аўтазаводу стаіць свой Ленін. І наўрад ці ён саступіць утульнае, уежнае месца для Леніна з майго дзяцінства. І здарылася тое, што здараецца, калі шмат шукаеш і доўга не знаходзіш. Аднойчы Ленін з майго дзяцінства, пасьля бясьплённых начных пошукаў новага месца, вярнуўся на ранейшае, а там не аказалася пастамэнту. А раніца набліжалася няўхільна. З хуткасьцю міжнароднага цягніка, які пралятае як птушка ўздоўж станцыі майго дзяцінства. Што, што, што рабіць? І пабег Ленін уніз па Спартовай вуліцы да ракі. І скокнуў з моста ў халодную кастрычніцкую ваду. І больш яго ніхто ня бачыў.

* * *

— Ты адмыслова свой дэтэктыўны аповед скончыў такой загадкай? — спытаў я Кастана, калі мы працавалі над чарговым нумарам газэты.

— Якой загадкай? — Кастан прыкінуўся, што нічога не разумее.

— А той загадкай, што кубак Баторыя недзе застаўся ў Полацку. Ты вырашыў стварыць яшчэ адну легенду пра полацкія скарбы?

— Ну так атрымалася, не хацеў я аддаваць кубак гэтаму злодзею Капцюгу. Бо задужа гэта містычная рэч, каб ёю можна завалодаць шляхам забойства. Разумееш.

Нейкі час мы сядзелі моўчкі, займаючыся сваімі працоўнымі справамі. Я пісаў артыкул пра сёлетнія архэалягічныя раскопкі на Вялікім пасадзе, пра тое, што архэолягі раскапалі сядзібу полацкага залатара-ювеліра. Учора я езьдзіў на раскоп і гутарыў з археолягамі. Тыя казалі, што дзівяцца памерам сядзібы, якая была амаль як княская. Да таго ж яе існаваньне якраз прыпадае на час выпрабленьня Лазарам Богшам Крыжа для Эўфрасіньні Полацкай. Ці не сядзіба гэта самога Лазара Богшы? Даказаць гэта было досыць складана. У Полацку не захавалася адрасная кніга XII стагодзьдзя. Але калі ўлічыць, што Лазар Богша ў той час у Полацку быў самым вядомым, а значыць і самым заможным залатаром, бо інакш не атрымаў бы ад Эўфрасіньні такой важнай і адказнай замовы, то цалкам магчыма, што гэта і ёсьць рэшткі сядзібы слыннага майстра. Але якім бы ты ня быў слынным і заможным, прыходзіць час, калі твая заможнасьць ператвараецца ў тлен, вось у такія рэшткі, прысыпаныя тоўстым слоем зямлі.

І толькі вынік працы, але такой працы, якая ператвараецца ў легенду, здольны захоўваць тваё імя ў стагодзьдзях. Можна зруйнаваць магілы, знішчыць курганы, ператварыць у друз храмы, замкі і палацы, але немагчыма зьнішчыць легенду. Так мне думалася, калі я працаваў над артыкулам.

— А ты хацеў бы, каб кубак знайшоў сьледчы Цісовіч? — Кастан адарваў мяне ад маіх філязофскіх развагаў.

— Ды не, якраз гэта быў бы вельмі кепскі фінал. Бо кубак далей абавязкова сплыў бы ў расейскія, можа крамлёўскія, сховы, як і сотні іншых нашых рэліквіяў, як і той самы Крыж Эўфрасіньні Полацкай.

— Так што кубак цяпер захоўваюць падземныя крывічы, пра якіх напісаў у сваіх «Лябірынтах» Ластоўскі, — пажартаваў Кастан.

— Магчыма, гэта лепшы варыянт, — пагадзіўся я зь сябрам.

* * *

Кірля ўпарта ныряла ў ваду Дзьвіны ў адным і тым жа месцы. Рабіла прыгожае піке, як пры палётах на прэстыжных авіяцыйных салёнах, бултых, некалькі сэкундаў у вадзе, узьлёт, новы віраж, заход на тую самую пазыцыю, і зноў бултых.

І што яна там хоча здабыць? Можа, там якая чародка верхаводак сабралася, утва-

рыўшы гарантавана-шчасьлівае рыбацкае месца?

А можа, нырае па кубак Баторыя? — падумалася мне. Бо кубак той павінен моцна блішчэць, прабіваючы наскрозь сваёй зыркасьцю не такую ўжо й глыбокую дзьвінскую ваду.

Вось так часам мастацкі твор уплывае на жыцьцё. Нават кірля паверыла ў рэальны кубак Баторыя. І я пасьміхнуўся такой думцы.

Часам важна ў нешта паверыць, і яно — тое, у што паверыў, — робіцца для цябе рэальнасьцю.

* * *

Галоўная вуліца Запалоцьця, якая раней называлася Махіроўскай, па-ранейшаму заставалася незаасфальтаванай. Ніякія «Дажынкі», калі Полацак перафарбоўвалі і пераасфальтоўвалі цалкам, ніякія прыезды прэзыдэнтаў і патрыярхаў, ніякія тысячагадовыя юбілеі гораду ня мелі ўплыву на вуліцу. Яна ўпарта трымалася сваёй патрыярхальнасьці. Хоць адсюль да галоўнай полацкай плошчы можна прайсьці за пятнаццаць хвілін. Па мастку праз Палату уздымаесься на ўзвышша да Сафіі, праходзіш каля сабору, мінаеш полацкі ўнівэрсытэт, які месьціцца ў былых езуіцкіх мурах, — і вось вам цэнтральная плошча Полацку.

Вуліца Махіроўская ўпарта заставалася ў ранейшай сваёй спрадвечнасьці.

Таму надзвычай натуральна на ёй выглядае невялічкі статак коз, які гоніць добра нам знаёмая бабулька ў сваім дэмісэзонным брызэнтавым плашчы. Чаму яна іх гоніць днём? У прынцыпе, неістотна. Можа, яна мяняе дыслякацыю. Бо акрамя сутокі Палаты і Дзьвіны бабуля пасьвіць сваіх карміліц і на вялікім заліўным лузе паміж мікрараёнам Аэрадром і Запалоцьцем. Там таксама маляўнічая мясьціна. Аднак трэба прызнаць, што на беразе Дзьвіны ёй падабалася больш.

Тацяна мела два шляхі да сядзібы. Можна шыбаваць па маленькіх вулачках і завулках і выходзіць наўпрост на свой Міхайлаўскі завулак. За ўсё шматпакутнае і віхурнае XX стагодзьдзе ніхто так і не даўмеўся гэты невялічкі завулачак перайменаваць. Міхайлаўскім ён, прынамсі, называўся і на мапах XVII стагодзьдзя. Праз квартал амаль такая ж суседняя невялікая вулачка мела назву Якуба Коласа. Там нават на адным з дамоў вісіць мемарыяльная шыльда з тлумачэньнем, праўда, на рускай мове, у гонар каго вулачка названая.

Тацяна добра ведала, што назва яе завулка ня мае дачыненьня ні да аднаго зь беларускіх пісьменьнікаў — ні да Міхася Зарэцкага (а было б някепска), ні да Міхася Лынькова, ні да Міхася Стральцова (таксама было б някепска). Проста завулак выходзіць на вуліцу Міхайлаўскую (якая таксама па сёньня захавала сваю назву), а Міхайлаўская раней

выходзіла да Міхайлаўскай царквы, якая калісьці месьцілася ў Запалоцьці. Ад яе, праўда, не засталося і падмуркаў, а на сьвятым месцы стаіць вялізная, у дзевяць вокнаў, хата. Адметная тым, што яе гаспадары трымаюць пчолаў, якія пэрыядычна люта атакуюць прахожых у навакольлі. Таму ў крытычныя для пчолаў дні Таццяна выбірае іншы шлях да сядзібы — па вуліцы Махіроўскай.

Але вернемся да бабулі з козамі. Калі Таццяна параўнялася з бабцяй, тая яе гукнула:

— Жанчынка, гэта, відаць, вашая стужка.

Бабця дастала з кішэні свайго дэмісэзоннага брызэнтавага плашча невялікую чырвоную стужку і працягнула Таццяне. Таццяна ўзяла і пачала разглядаць. Гэта была льняная стужка грубай ручной працы. Ніткі, зь якіх тую стужку калісьці выткалі, відавочна, самаробныя — мелі розную таўшчыню. У гэтым Таццяна добра разьбіралася. Стужку спачатку выткалі, а затым нечым пафарбавалі. Нейкай моцнай натуральнай фарбай колеру крыві.

— А з чаго вы ўзялі, што гэта мая стужка? — спытала бабцю Таццяна, працягваючы разглядаць гэты дзіўны кавалачак матэрыі.

— А гэта ваш сабака згубіў, я бачыла, дакладна ваш, — адказала бабця з прыязнай усьмешкай на рахманым твары.

— Дзякуй, няхай будзе наша, — аддзячыла бабці Таццяна.

На сядзібе Таццяна пачала разглядаць стужку на святло і заўважыла выразны надпіс Þorvaldr.

* * *

Паўлік забіў Стасіка. Гэтая навіна ў мяне выклікала шок! Пра што можна так горача спрачацца, каб у выніку забіць апанэнта? Прычым брата-блізьнюка. І чаму слабейшы, ціхмянейшы Паўлік забіў мацнейшага, балагурыстага Стасіка? Для мяне гэта невераrодная загадка. Ніхто нічога не патлумачыў. Мае бацькі толькі паціскалі плячыма, маўляў, ведаем толькі тое, што ведаем.

І ўсе нашыя супольныя канцэрты ў дзіцячай музычнай школцы, і рыбалкі, і футбол, і дваровыя гульні адразу набылі іншы колер і смак. Колер смутку. Смак жальбы. Смак трызны.

Мая мама кажа: усё з-за гарэлкі. Але гарэлку п'юць мільёны людзей, далёка ня ўсе зь іх забойцы.

Што гэта было? Ці быў той шлях, якім ішлі браты-блізьнюкі, шлях наканаваньня? Шлях, якім калісьці нібыта мы йшлі побач. Але яны ўвесь час сыходзілі. А я ўвесь час вяртаўся. Сярод небясьпечных вышэзных дамоў-элеватараў. Гэтую дарогу вяртаньня памятаю па сёньня да драбніц. Галоўнае — дайсьці да мастка праз раку. Цяпер я ведаў, што ў гэтым месцы, шчыльна захутаны водарасьцямі, ляжаў Ленін майго дзяцінства. Рука, якой ён указваў дарогу ў лепшы сьвет, даўно адламілася і сплыла ў Чорнае мора. Ленін, захутаны ў водарасьці, як эгіпэцкая мумія, цяпер ня мог мяне бачыць. Магчыма,

ён чуў мае крокі па мастку, але паспрабуй скрануцца, калі ты шчыльна захутаная мумія. Цяпер недзе побач зь Леніным для мяне ляжалі й Стасік з Паўлікам. Паўліка пасадзілі ў турму, там ён захварэў на сухоты, па амністыі выйшаў і неўзабаве памёр у бацькоўскай кватэры. Адзін. Без бацькоў, якія на той час ужо адышлі ў лепшы сьвет, бяз брата-блізьнюка, бязь Леніна.

Мне падавалася, што менавіта Ленін вінаваты ў гэтай трагедыі. Той самы, які ўсё нашае дзяцінства і юнацтва паказваў на сталоўку з бадзёрымі трункамі. Канешне, лёгка ўсё спісаць на Леніна. Але я яму ўсё адно не дарую — ні свайго сябра Дзімыча, ні многіх іншых сяброў дзяцінства. І не дарую Паўліка са Стасікам. Ніколі.

* * *

Пазьней мне некалькі разоў сьнілася, як сава перасьледуе крумкача. Гэта было добра зробленае відэа, верагодна, з удзелам камputарнай графікі, зь вялікімі відэапланамі і вачыма птушак на ўвесь экран.

Я ўсё больш схіляўся да думкі, што сава можа быць добрай паляўнічай птушкай, штосьці на ўзор сокалаў і беркутаў, якіх раней выкарыстоўвалі для паляваньня.

Толькі гэтае паляваньне мусіць быць зусім не на дзічыну. А на каго? — спытаеце вы. На штосьці эзатэрычнае і містычнае. На д'яблавую сілу, напрыклад.

Уяўляю, як вялізны пугач сядзіць у мяне на плячы, па-савінаму мружыць вочы і прыслухоўваецца, і мы разам зь ім выпраўляемся ў цямрэчу начы на паляваньне.

Адразу ў маёй сьвядомасьці ўзьнікаюць гэтыя элеватары зь цёмнымі вокнамі. Цяпер мне ня так страшна. Я нават пачуваюся героем зь мітаў Элады.

Але тут пугач нахіляецца ўсутыч да майго вуха і нейкім мэханічным голасам, якім гавораць уваходныя дзьверы ў пад'езд шматпавярховіка, скрыгоча: галоўнае — ня даць сябе напужаць.

Затым вялізная птушка адштурхнулася ад майго пляча і паляцела праз Дзьвіну ў бок Вострава. Некалькі хвілінаў мне здавалася, што я чуў сьвіст яе магутных крылаў.

* * *

Жанчына ўвайшла ў хату. Зрабіла колькі крокаў па пярэднім пакоі і неяк прыгнечана вымавіла:

— О, у вас тут як у склепе.

— У сэнсе? — перапытала яе Тацяна.

— Ня ў тым склепе, дзе захоўваюць бульбу, а ў тым склепе, дзе нябожчыкі.

Тацяна перасмыкнула плячыма і нічога не адказала. Яшчэ ўчора ўсё гэта здавалася ёй нейкім танным шарлатанствам. Але сёньня было не да скепсысу і жартаў.

— Дык вы купілі сьвечкі, як я прасіла? — спытала жанчына.

— Так, вось яны, адмыслова хадзіла ўчора ў Спаса-Эўфрасіньнеўскі манастыр. — Таццяна працягнула жанчыне пучок сьвечак. Тая ўзяла яго, выбрала адну сьвечку, іншыя паклала на стол. Дастала з кішэні свайго цёмна-зялёнага плашча запалкі і пачала падпальваць сьвечку. На зьдзіўленьне Таццяны, як толькі сьвечка загарэлася, пайшоў густы чорны дым.

— Ну вось, бачыце, якія тут праблемы? — сказала жанчына, нібыта праводзіла якісьці вопыт па хіміі і тлумачыла яго першыя вынікі. — Як я вам ужо казала, у гэтым доме раней жыла кабета, якая мела такія ж здольнасьці, як і я. Яна тут і засталася. Яна па-ранейшаму лічыць сябе гаспадыняй дому, і ўсе людзі, якія тут пасяляюцца, для яе ворагі. І нашая задача сёньня яе адсюль выправадзіць.

Жанчына зрабіла колькі крокаў і зайшла ў невялічкі пакой, дзьверы ў які месьціліся зьлева. Адтуль загучаў яе ўпэўнены, нават крыху ваяўнічы голас. Яна штосьці хутка-хутка прагаворвала, часам вельмі неразборліва, але асобныя пачутыя словы падказвалі Таццяне, што жанчына чытала нейкую малітву.

Дзеяньне доўжылася каля гадзіны. За гэты час жанчына спаліла некалькі сьвечак і абышла ўсе пакоі дома. Было бачна, што

«выгнаньне» далося ёй няпроста. На яе твары чыталася стомленасьць.

Жанчына прысела на адно з крэсел, якія атачалі стол у пярэднім пакоі, і рухам рукі прапанавала сесьці побач Таццяне.

— Што магла, я зрабіла. Думаю, у мяне ўсё атрымалася. Толькі вось што. Тая бабця, якая замінала вам тут гаспадарыць, любіла глядзецца вунь у тое люстэрка. — І жанчына паказала пальцам на вялікае прастакутнае люстэрка, якое вісела ў пакойчыку зьлева. — Яго трэба завесіць цёмнай матэрыяй, зьняць, занесьці на сьметнік і там разьбіць. Гэта трэба зрабіць абавязкова. Зразумелі? — па-настаўніцку, калі пытаньне патрабуе абавязковага адказу, спытала жанчына.

— Зразумела, — разгублена адказала Таццяна.

— І ня бойцеся. Цяпер павінна быць усё нармальна. Калі што здарыцца незвычайнага, паведаміце мне.

Жанчына ўстала з крэсла. Яна яшчэ раз агледзелася вакол, нібыта хацела праўдзіць — ці не забылася чагосьці. На яе твары ўзьнікла пытаньне, яна памкнулася штосьці сказаць, але, відаць, перадумала.

— Ну тады да пабачэньня! Посьпеху вам. — Жанчына адчыніла дзьверы.

— Да пабачэньня, — ці то з палёгкай, ці то з удзячнасьцю гукнула ёй усьлед Таццяна.

Жанчына зрабіла колькі крокаў і затрымалася на вэрандзе, павярнулася тварам да Тацяны і прамовіла: — Ведаеце, вам нехта тут дапамагаў. Хтосьці вельмі моцны. І тая бабця нічога не магла вам зрабіць, толькі злавалася. Але я ня ведаю, хто гэта. Магчыма, ваш які продак. І гэта для вас сёньня самая добрая навіна. — І жанчына пашыбавала ў бок весьніц. Тацяна, на невялікай адлегласьці, пакрочыла сьледам.

З будкі выскачыў Жуль і для прыліку падаў голас. Пабачыўшы, што на яго ніхто не зьвяртае ўвагі, змоўкнуў. Ён пракудліва змружыў вочы і нібыта пасьміхнуўся.

Жанчына адчыніла мэталічныя весьніцы і выйшла за межы сядзібы. Тут яна зноў затрымалася і паглядзела ў бок Дзьвіны. Зьлева, бліжэй да сутокаў Палаты і Дзьвіны, мірна пасьвіліся чатыры казы. Іх гаспадыні не было бачна. Над Дзьвіной лёталі некалі кірляў. Яны час ад часу пікіравалі ў ваду — то бок рыбачылі сваім традыцыйным мэтадам.

І тут нечакана выбухнула гучнае сакатаньне сарокі, якая ўвесь гэты час сядзела недзе ў глыбіні галін вышэзнай грушы.

І жанчына, і Тацяна сынхронна здрыгануліся. Жанчына ўзьняла галаў на грушу. Затым зноў паглядзела на Дзьвіну. Штосьці яна хацела там убачыць.

— Да, яшчэ... ледзь не забылася, — прамовіла жанчына, зьвяртаючыся да Тацяны. — Выкіньце ў раку той амулет, які вы знайшлі

на градах. Ён вам не належыць. Вярніце яго гаспадару.

І пасьпешлівым крокам пашыбавала ў бок галоўнай вуліцы Запалоцьця.

*2016*

*На вокладцы выкарыстаныя графічныя працы*
*Юрыя Якавенкі.*

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Аркуш** Алесь

СЯДЗІБА

*Раман*

Адказны за выпуск *Алесь Аркуш*
Рэдактар *Вінцэсь Мудроў*
Камп'ютарная вёрстка *Ларысы Гарадзецкай*
Карэктар *Віктар Іваноў*

Падпісана ў друк 03.02.2017. Фармат 84x108 $^{1}/_{32}$.
Папера афсетная. Рызаграфія.
Ул.-выд. арк. 7,35. Ум. друк. арк. 3,97.

Выдавецкая ініцыятыва «Полацкае ляда».

Printed in Poland